КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 17 (289) ◂ 27 красавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ЗМІЦЕР БАНДАРЭНКА

Стар. 4–5

**ПАПСА ДАПАМАГЛА ДЭМАКРАТЫІ**

Дзякуючы фіналу конкурсу «Еўрабачання» ўлады Азербайджана, каб захаваць імідж прыстойнай дзяржавы, адкруцілі гайкі. Пра тое, чым закончыцца цяперашняя лібералізацыя і як «Еўрабачанне» паўплывае на будучыню краіны, разважае азербайджанскі праваабаронца Эльман Гатал

Стар. 27

**ПРЫСЯГУ ПРЫМАЛІ ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЦЯГАМ І ПАГОНЯЙ**

30 красавіка святкуе 85-годдзе Антон Фурс, адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх патрыётаў — моладзевай арганізацыі, якая ў 1945–1947 гадах дзейнічала ў Глыбокім і Паставах

Стар. 31

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ТРЫ ФАКТАРЫ ЧАРНОБЫЛЯ**

Размова з прафесарам Генадзем Грушавым

▸ З НАГОДЫ

# НЕ НАСТУПІЦЬ БЫ НА СТАРЫЯ ГРАБЛІ

Вольга ХВОІН

**У Мінск вяртаюцца паслы краін Еўрапейскага саюза. Дыпламатычнае супрацьстаянне цягнулася ад канца лютага. За гэты час на свабоду выйшлі двое палітвязняў.**

23 красавіка ў Люксембургу адбылося пасяджэнне Савета міністраў замежных спраў ЕС. Удзельнікі сустрэчы каротка абмеркавалі сітуацыю ў Беларусі. Яны віталі вызваленне апазіцыйных палітыкаў Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі, аднак падкрэслілі неабходнасць вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітычных зняволеных.

Міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі на прэс-канферэнцыі па выніках пасяджэння адзначыў, што вызваленне астатніх палітвязняў неабходна для аднаўлення дыялогу паміж Еўрасаюзам і Беларуссю. «Іх вызваленне з'яўляецца папярэдняй умовай для дыялогу з ЕС, а выкананне міжнародных стандартаў падчас парламенцкіх выбараў зрабіла б магчымым атрыманне Беларуссю падтрымкі ЕС для працэсу рэформ», — цытуе Сікорскага БелаПАН.

У Беларусь ужо вярнуліся паслы Швецыі, Польшчы, Літвы, а ў Варшаву і Брусэль — беларускія кіраўнікі дыпмісій. Нагадаем, што паслы краін ЕС выехалі з Беларусі «для кансультацый» на знак салідарнасці са сваімі калегамі — МЗС Беларусі прапанаваў кіраўніцы Прадстаўніцтва ЕС у Мінску Майры Моры і польскаму амбасадару Лешаку Шарэпку выехаць у свае сталіцы для кансультацый. Гэта быў крок уладаў Беларусі ў адказ на новыя санкцыі з боку Еўрасаюза. Пасля гэтага Брусэль адклікаў усіх амбасадараў краін ЕС з Беларусі.




Прынцыповая пазіцыя Еўрасаюза — вынік самападману, што цягнуўся з 2008 года па 19 снежня 2010 года і скончыўся брутальным разгонам вулічнага мітынгу ў Мінску

«Я быў адным з першых, хто даведаўся пра тое, што Лукашэнка загадаў выехаць у свае краіны амбасадарам ЕС і Польшчы, — гаворыць Мікулаш Дзурында, які на той час ачольваў МЗС Славакіі. — Я адразу ж патэлефанаваў свайму і сказаў: «Вяртайся!». Вельмі добра, што па гэтым пытанні ва ўсіх краін ЕС было адзінства. У Браціславе мне ўдалося арганізаваць сустрэчу Вышаградскай групы і «Усходняга партнёрства». Былі Кэтрын Эштан і Гіда Вестэрвеле. Там была агучана наша сумесная пазіцыя па гэтым пытанні».

Пазіцыя Еўропы застаецца нязменнай — вызваленне і рэабілітацыя палітычных вязняў. «Факт вызвалення двух палітвязняў неабходна вітаць, але за ім павінен быць зроблены наступны крок: усе палітвязні мусяць быць вызваленыя. Мы спадзяемся, што гэта адбудзецца», — заявіў міністр замежных спраў Швецыі Карл Більт.

Прынцыповая пазіцыя Еўрасаюза — вынік самападману, што цягнуўся з 2008 года па 19 снежня 2010 года і скончыўся брутальным разгонам вулічнага мітынгу ў Мінску.

«Толькі ў апошнія два гады мы пачалі разумець Лукашэнку, — прызнаецца спадар Дзурында. — Да гэтага мы нічога не разумелі, і Лукашэнка гуляў з намі, як з маленькімі дзецьмі. І толькі цяпер мы зразумелі, што далей так не пойдзе. Але і зараз былі даволі смешныя дэбаты, асноўнай тэмай якіх было: дадзім мы ў «чорны спіс» дзве фірмы або аж цэлых тры! Для мяне гэта было страшна смешна! Выйгралі тыя, хто прапаноўваў тры. Мне здаецца, упэўнасць у тым, што мы павінны быць цвёрдымі, ужо прыйшла».

Пра цвёрдасць намераў гаворыць і той факт, што аналітычныя цэнтры МЗС краін Еўрасаюза рыхтавалі дакументы, у якіх ацэньваўся магчымы эфект ад эканамічных санкцый (больш падрабязна пра гэта чытайце на стар. 6). Аналітыкі мяркуюць, што цягам бліжэйшых месяцаў пытанне з палітвязнямі будзе вырашанае. Але не таму, што ў кіраўніка Беларусі прыступ гуманізму, папросту патрэбныя грошы, і спадзяванні на тое, каб атрымаць іх ад Захаду, цалкам рэальныя.

Не так даўно, напрыклад, кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова ў складзе беларускай дэлегацыі лётала ў Вашынгтон на перамовы з кіраўнікамі Міжнароднага валютнага фонду. І, паводле яе слоў, ёсць шанец на аднаўленне сумесных праграм. «Самае важнае, што эксперты валютнага фонду ацэньваюць сітуацыю ў Беларусі як станоўчую. І тыя вынікі, што дасягнуты ў Беларусі і ў эканоміцы, і ў грашова-крэдытнай палітыцы, у стабілізацыі нацыянальнай валюты, яны ацэньваюць як вынік таго, што мы прынялі правільныя меры, у тым ліку і ўлічылі іх рэкамендацыі. І, па нашых адчуваннях, у нас ужо ёсць магчымасць весці з валютным фондам прамую размову аб вяртанні да праграмы з Беларуссю», — адзначыла Ермакова ў эфіры тэлеканала АНТ. Да слова, сёлета Беларусь чакаюць немалыя выплаты па знешніх пазыцы — Нацбанк ацаніў выплаты на абслугоўванне валавога знешняга доўгу ў суму 8 мільярдаў 917 мільёнаў долараў, або 34,6% ВУП.

Застаюцца на шалях знешняй палітыкі і канфлікты з Расіяй, таму добрыя адносіны з Еўропай вельмі на руку беларускаму кіраўніку. Пасля таго, як на свабоду выйшлі Саннікаў і Бандарэнка, кіраўнік Беларусі нагаварыў вораў пагрозаў і папярэджанняў на тэму «ненахіляемасці».

Але выпускаць палітвязняў давядзецца, бо ў адваротным выпадку ні лаяльнасці, ні рэсурсаў ЕС не пабачыць, як сваіх вушэй.

Ці купіцца Еўропа на чарговы фінт беларускіх уладаў? Еўрапейскія палітыкі заяўляюць, што нарэшце раскусілі вераломную тактыку афіцыйнага Мінска і цяпер будуць глядзець толькі на ўчынкі. Ці так гэта будзе насамрэч — пакажа час. Між іншым, сёлета ў Беларусі парламенцкая выбарчая кампанія, якая традыцыйна прадугледжвае пацяпленне адносін з Еўрасаюзам. Будзем спадзявацца, што Еўропа ў сваіх намерах навесці новыя масты з Беларуссю не наступіць на старыя граблі, палітвязні выйдуць на свабоду, а ўсе амбасадары вернуцца на свае працоўныя месцы.

ПАМЯЦЬ

# 13 ГАДОЎ СА ДНЯ СМЕРЦІ АРНОЛЬДА ПЯЧЭРСКАГА

Таццяна УЛАСЕНКА

**24 красавіка сябры Руху салідарнасці «Разам», каардынацыйнай групы «За Волю» наведалі Кальварыйскія могілкі ў Мінску, каб ушанаваць памяць лідара прадпрымальніцкага руху, грамадскага і палітычнага дзеяча Арнольда Пячэрскага.**



Менавіта ў гэты дзень у 1999 годзе прадпрымальнік загінуў у аўтамабільнай катастрофе пры загадкавых абставінах.

Пад бел-чырвона-белым сцягам удзельнікі акцыі ўсклалі кветкі, запалілі знічкі, праспявалі гімн «Магутны Божа». Праваслаўны святар айцец Леанід Акаловіч прачытаў малітву і асвяціў магілу за ўшанаванне светлай памяці памерлага.

«Арнольд Пячэрскі быў вельмі актыўным чалавекам, вакол якога гуртаваліся людзі, якому давяралі, — распавёў намеснік старшыні Руху салідарнасці «Разам» Аляксандр Макаеў. — У 1990-х гадах ён быў арганізатарам першых прадпрымальніцкіх страйкаў, якія адбываліся на «Дынама», «Камароўцы». Тады там былі самыя актыўныя прадпрымальнікі, якія ядналі вакол сябе Арнольд. Мы ведаем, што яго смерць была невыпадковай. У той год яна супала з загадкавымі смерцямі і знікненнямі апанентаў улады — Генадзя Карпенкі, Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і іншых. Арнольд Пячэрскі з'яўляўся не толькі лідарам прадпрымальніцкага руху, рабіў не толькі першыя прадпрымальніцкія страйкі і мітынгі, але прымаў актыўны ўдзел у арганізацыях шэсцяў, дэманстрацый беларускай апазіцыі. Ён быў актывістам руху БНФ «Адраджэнне» і Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Свае ўласныя грошы ахвяраваў на падтрымку апазіцыйных і прадпрымальніцкіх структураў, на друк незалежных газет, сам прымаў удзел у выдавецкай дзейнасці. Ён адзін з першых пераводзіў на беларускую мову і выкарыстоўваў прадпрымальніцкае справаводства».

Удзельнікі акцыі таксама наведалі месца на Кальварыйскіх могілках, дзе знаходзяцца парэшткі ахвяраў масавага сталінскага тэрору. Айцец Леанід Акаловіч правёў на гэтым месцы малебен, былі ўскладзены кветкі, запалены знічкі, праспяваны гімн «Магутны Божа».

Прысутныя таксама ўшанавалі памяць пахаваных на гэтых могілках жонкі беларускага паэта Ніла Гілевіча, паэта Янкі Лучыны і яго родных, беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча Вацлава Іваноўскага, грэка-каталіцкага святара Яна Матусевіча.

Акцыя па ўшанаванні памяці памерлых праходзіла пад пільным наглядам супрацоўнікаў сілавых структураў, усіх удзельнікаў невядомы ў цывільным запісваў на відэа. Каля Кальварыйскіх могілкаў дзяжурыў аўтазак.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# МАЦІ КАВАЛЁВА АБМЯЖОЎВАЮЦЬ КАНТАКТЫ

**Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі перашкодзіць сустрэчы расійскіх журналістаў з маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва.**

Сустрэча была запланаваная ў яе кватэры, але супрацоўнікі міліцыі пільнавалі журналістаў каля пад'езду.

Любові Кавалёвай прапанавалі даць відэаінтэрв'ю для праграмы «Чалавек і закон». Але як толькі здымачная група выйшла з таксі, ім перагарадзілі шлях супрацоўнік міліцыі і амапавец. Гаспадыня ўбачыла гэта з акна і пайшла «вызваляць гасцей»:

«Добра, што я ўбачыла. Маглі, можа, і ўвогуле не пусціць! Міліцэйская машына з'явілася каля нашага дому яшчэ гадзіны за дзве да прыезду журналістаў — «жыгуль» прыпаркаваўся ў левым баку нашага двара... Калі я ўбачыла, што людзей не пускаюць, то спусцілася ўніз, запытала: «Што, ужо да мяне людзям хадзіць забараняецe?» Тады ўсіх прапусцілі, але перапісалі дакументы. Заявілі, нібыта суседзі скардзяцца на тое, што тут увесь час нейкія журналісты шукаюць «лабараторыю» Дзімы Канавалава».

Сям'я Канавалава, якога таксама расстралялі паводле абвінавачання ў тэрарызме, жыве ў суседнім доме. Верагодна, «паляванне на журналістаў» пачалося пасля таго, як на сайце Радыё Свабода з'явіўся фотарэпартаж з падвала, дзе нібыта была лабараторыя па вырабу выбухоўкі. Некалькі дзён таму сарайчык, дзе Дзмітрый Канавалаў збіраўся з сябрамі, і, паводле версіі следства, вырабляў бомбы, стаяў адчынены...

Любоў Кавалёва дадае, што міліцэйская машына стаяла ў двары яшчэ і пасля таго, як з'ехалі тэлежурналісты. Супрацоўнікі міліцыі назіралі, хто яшчэ ўваходзіць і выходзіць з пад'езда, дзе жывуць Кавалёвы. Маці Уладзіслава Кавалёва кажа, што ахова з боку міліцыянтаў ёй не патрэбная, што ў вінаватасць сына яна не верыць, што следства шмат каго не пераканала і што ніхто ні разу ёй не прыгажаў і не спрабаваў «адпомсціць».

Сям'я Дзмітрыя Канавалава, другога абвінавачанага ў тэракце, знаходзіцца пад міліцэйскай аховай з сярэдзіны красавіка мінулага года. Бацькоў расстралянага Канавалава суправаджаюць у краму, адвозяць на службовай машыне на працу, і нават сабачку Канавалавы выгульваюць пад канвоем людзей у цывільным.

**Паводле spring96.org**

ФОРУМ

# МОЛАДЗЬ — ЗА БЯСПЕЧНЫ, СПРАВЯДЛІВЫ ГУМАННЫ СВЕТ

Генадзь КЕСНЕР

**Больш за сотню маладых людзей з дванаццаці рэгіёнаў Беларусі за некалькі дзён да гадавіны Чарнобыльскай катастрофы сабраліся пад Мінскам на форум «Моладзь — за бяспечны, справядлівы гуманны свет». Мерапрыемства ладзілася ўжо сямнаццаты раз. Арганізатарамі выступілі Грамадскае аб'яднанне «Дзецям Чарнобыля», Моладзевы сацыяльны цэнтр «Майстэрня будучыні» пры падтрымцы нарвежскага фонду імя Рафта.**

Як адзначылі падчас адкрыцця форума яго маладыя вядучыя, «моладзь — гэта будучыня кожнай краіны, таму невыпадкова на розных сустрэчах, семінарах, канферэнцыях абмяркоўваецца роля моладзі ў развіцці краін і рэгіёнаў».

Варта звярнуць увагу, што чарговы Моладзевы форум, да якога ніякага дачынення не маюць дзяржаўныя структуры ці афіліраваныя з дзяржавай арганізацыі, невыпадкова адбываўся фактычна напярэдадні 26-х угодкаў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Многія ўдзельнікі цяперашняга, ды і папярэдніх форумаў, ладжаных пад эгідай ГА «Дзецям Чарнобыля» (старшыня — прафесар Генадзь Грушавы) у свой час удзельнічалі ў аздараўленчых праграмах і моладзевых праектах гэтага грамадскага аб'яднання, больш вядомага ў краіне і ў свеце як Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля».

У сярэдзіне і пры канцы 1990-х і на пачатку 2000-х сённяшнія маладзёны былі яшчэ зусім маленькімі прадстаўнікамі беларускага грамадства, якім патрабавалася дапамога. Бо многія з іх жылі і працягваюць жыць на тэрыторыях, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай навалы. Сёння гэтыя маладзёны самі спрабуюць дапамагаць іншым, змяніць сітуацыю ў Беларусі ў лепшы бок. Альтэрнатывы атамнай энергетыкі, эфектыўнае самакіраванне, сацыяльная адаптацыя, праблема будаўніцтва АЭС у Беларусі ды іншыя пытанні былі актуальнымі падчас працы як апошняга, так і папярэдніх форумаў. І, натуральна, наступствы катастрофы на ЧАЭС, пра якія многія з маладзёнаў, на вялікі жаль, ведаюць не па чутках, і трагедыя на японскай АЭС «Фукусіма–1».

Мне на ўласныя вочы давялося бачыць, якія цудоўныя экалагічныя і зберагальныя праекты рэпрэзентавалі нашы беларускія вундэркінды! Гэта і праекты па эфектыўнаму знішчэнню смецця, і па эканоміі электра- і цеплавой энергіі, гэта і ідэі (у здаровым сэнсе) па ачышчэнню мазгоў абывацеля, якому абыякава нават тое, куды ён шпурне звычайную пляшку ці пакунак ад цукерак ці штo іншае. Апісаць гэта немагчыма, гэта трэба бачыць.

Адзначу, што некаторыя ўдзельнікі цяперашняга форума бралі актыўны ўдзел у леташняй «Вандроўцы міра» (Friedensfahrt) па Германіі і Швейцарыі, падчас якой наведалі еўрапейскі офіс ААН і Сусветную арганізацыю аховы здароўя (Жэнева), а таксама магільнік ядзерных адходаў у нямецкім гарадку Горлебэн, вакол якога не спыняюцца акцыі пратэсту экалагаў ды іншых праціўнікаў атамнай энергетыкі, а ў Гановеры правялі сустрэчы ў парламенце федэральнай зямлі Ніжняя Саксонія (ФРГ). Гэтая дзесяцідзённая акцыя, прысвечаная 25-м угодкам катастрофы на ЧАЭС, ладзілася сумесна з Федэральнай працоўнай групай «Дзецям Чарнобыля» з Германіі (старшыня — пастар Буркхард Хомайер), а таксама швейцарскімі грамадзянскімі ініцыятывамі.

Да слова, звычайна Моладзевыя форумы пачынаюцца з пленарных пасяджэнняў і падобных дыскусій, у якіх удзельнічаюць вядомыя, нават знакавыя ў Беларусі асобы. Гэтым разам сярод «аксакалаў» аказаліся былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, падпісант Канстытуцыі 1994 года Мечыслаў Грыб, вядомы сацыёлаг Давід Ротман, эканаміст Леанід Злотнікаў, а таксама доктар культуралогіі з Берліна Марыя Давыдчык, якая ў свой час была ўдзельніцай першых моладзевых праектаў пад эгідай БДФ «Дзецям Чарнобыля».

І яшчэ адзін момант. Ініцыятары Моладзевых форумаў вельмі важным лічаць той момант, каб маладыя людзі станавіліся сапраўднымі грамадзянамі сваёй Беларусі. Нефармальнымі, неабыякавымі, разважлівымі і крытычнымі. Вось да гэтага заклікаў удзельнікаў форума яго галоўны ініцыятар Генадзь Грушавы. «Ёсць такое паняцце — агульнапрызнаныя ісціны. Ведаеце, сярод агульнапрызнаных ісцін акурат ісцін менш за ўсё. Тое, што прызнаецца ўсімі, вельмі часта ўключае ў сябе забабоны, прымхі, нейкія традыцыйныя паняцці, якія не падлягаюць крытыцы. Я б хацеў, каб вы падвяргалі сумненню ўсё, што прапануецца нам як нейкая аксіёма. Не дзеля таго, каб яе абвергнуць, але каб задумацца: а гэта для мяне аксіёма ці не? Каму як не моладзі задаваць такія пытанні, сумнявацца, прымаць рашэнні і дзейнічаць?» — адзначыў прафесар Грушавы.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ФЭСТУ ПАКУЛЬ НЕ БУДЗЕ

**Гродзенскі фэст экскурсаводаў, што павінен быў адбыцца ў горадзе 21 красавіка, адкладзены на нявызначаны час.**

Падставай сталі папярэджанні арганізатараў прадстаўнікамі праваахоўных органаў: да некаторых гідаў прыходзілі міліцыянты, да іншых званілі на мабільныя тэлефоны і папярэджвалі пра тое, што іх экскурсіі з'яўляюцца несанкцыянаванымі акцыямі.

Таццяна Касатая, каардынатарка мерапрыемства па Гродна, вельмі здзіўляецца таму, што фэст быў забаронены: «Шчыра, я не ведаю, што стала прычынай адмовы і такой забароны з боку гарадскіх уладаў. Можа, збег абставін. У горадзе прайшло шмат прэзентацый кніг па гісторыі: і «Гродназнаўства» і «Біяграфія гарадзенскіх вуліц», і здавалася, што і фэст мусіць адбыцца. Аднак не. У мінулым годзе фэст у Гродна таксама быў перанесены. Але прычына пераносу была іншая — выбух у мінскім метро».

«Натуральна, мы будзем звяртацца да гарадскіх уладаў за дазволам і збіраемся праводзіць гэты фэст. Але апроч гэтага будзем пісаць скаргі на тое, што яны палічылі фэст экскурсаводаў несанкцыянаванай акцыяй», — працягвае Таццяна Касатая.

«Пакуль не ведаем, што сталася прычынай адмовы гродзенскіх уладаў. Мы плануем з імі сустрэцца, і вельмі хочам, каб фэст усё ж такі прайшоў. Будзем пісаць заявы да гродзенскага кіраўніцтва, каб фэст адбыўся», — тлумачыць галоўны арганізатар «Фэсту экскурсаводаў» па Беларусі Цімафей Акудовіч.

Нагадаем, што па ўсёй краіне 20 красавіка прайшло больш за 80 экскурсій у розных гарадах і малых мястэчках Беларусі, і толькі ў Гродна фэст быў забаронены.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# РЭПЕТЫЦЫЯ ПАСЛАННЯ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Як ужо раней паведамлялася, Аляксандр Рыгоравіч на нявызначаны тэрмін адклаў сваё пасланне народу Беларусі і парламентарам. Але зараз, падчас суботніка, беларускі правадыр выдатна адрэпетаваў будучае пасланне. Закрануў усіх: і народ, і апазіцыю, і прамысловасць — як ён гэта ўмее.**

Аляксандр Лукашэнка не выключае, што да канца 2012 года зарплаты могуць павялічыцца яшчэ двойчы. «Яшчэ пару разоў сёлета, адчуваю, эканоміка нармальна працуе, мы выйдзем на павышэнне зарплат», — заявіў Лукашэнка. Пры гэтым ён дадаў, што павышэнне магчымае толькі пры стабільнай працы эканомікі і высокай прадукцыйнасці працы.

«Упэўнены, на працягу гэтага года мы выраўняемся і дасягнем прыкладна таго сярэдняга ўзроўню зарплат, што ў суседзяў», — сказаў ён. Кіраўнік дзяржавы лічыць, што на буйных прамысловых прадпрыемствах краіны ўжо даволі высокі ўзровень заробку. «Дурных грошай ніхто не плаціць. Але заработная плата, скажам, у нафтавікоў — прыкладна 800 долараў у месяц, БелАЗ, МАЗ, МТЗ, машынабудаванне — больш як 500 долараў, да 700 долараў у некаторых. А пачыналася з 300. Таму паволі падцягваемся», — заявіў Лукашэнка.

Цікава, што раней Лукашэнка казаў пра 800 долараў заробку ў даяркі. Зараз гэта ўжо ў нафтавікоў. А пра 500 долараў на МТЗ хай ён скажа працаўнікам гэтага заводу.

Адначасова падчас зносін з прэсай Лукашэнка падкрэсліў, што не трэба патрабаваць неабгрунтаванага павышэння зарплат: «Я папярэджваў усіх напярэдадні гэтай пяцігодкі, што на руках больш нікога насіць не будзем. 15 гадоў я ўсіх насіў на руках. Данасіліся да таго, што некаторыя перасталі працаваць. Таму мая формула адна: ёсць прадукцыйнасць працы — забірайце грошы ў зарплату, няма прадукцыйнасці — грошай быць не можа. Іх можна толькі надрукаваць. Да чаго вядзе друкаванне грошай, вы ведаеце. Збольшага вы гэта адчулі падчас нядаўняга фінансава-эканамічнага крызісу. Гэта губіць усякую вытворчасць, калі людзі атрымліваюць незаробленыя грошы».

**Міністэрства рыхтуе прапановы па стымуляванні аператараў сотавай сувязі да больш эфектыўнага выкарыстання выдзеленага ім радыёчастотнага спектра**

Прайшоўся Лукашэнка і па былых палітвязнях. Вызваленне з калоніі былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і яго даверанай асобы Дзмітрыя Бандарэнкі адбылося не пад націскам Еўрасаюза. «Не напісалі б прашэння аб памілаванні — сядзелі б дагэтуль, і тыя, хто там застаўся і не напісаў гэты зварот на імя прэзідэнта, будуць сядзець. Вось і ўвесь націск. Ніхто на мяне тут не націсне», — заявіў Лукашэнка.

Пры гэтым ён папярэдзіў: «Яшчэ адзін націск — і тыя балбатуны, якія выйшлі на волю і павінны сказаць дзякуй, што з імі так абышліся, могуць вярнуцца зноў у калонію». «Але будуць ляпаць языкамі — вернуцца туды. Вось і ўвесь націск», — падкрэсліў прэзідэнт.

«Калі жадаюць вярнуцца ў калонію, хай скажуць. Два словы, дзве гадзіны — і мы іх зноў туды вернем, калі яны жадаюць гэтага», — прыгразіў ён.

Пры гэтым Лукашэнка адзначыў, што «брыдка прэзідэнту гэтым займацца». «Трэба заканчваць гэтыя справы. А то іх, ці бачыце, выпусцілі, а 20 ці 30 тысяч зняволеных сёння такой ільготы не атрымалі. Гэта нармальна, гэта справядліва з боку прэзідэнта? Не», — заявіў ён.

І гэта дае падставу спадзявацца, што будзе чарговая амністыя. Зэкі на зонах могуць радавацца. Тым больш, што Лукашэнка пра гэта заявіў адкрытым тэкстам. «Найбліжэйшым часам, можа быць, да Дня Незалежнасці, мы вызвалім шэраг асуджаных», — сказаў ён.

Паводле яго слоў, гэта можа быць «нават дзве-тры тысячы» чалавек. «Але тых, хто нармальна сябе там паводзіць і, як у іх там кажуць, стаў на шлях выпраўлення. Таму што так будзе справядліва. А то бандзюгаў выпусцілі, а нармальныя людзі ў засценках пакутуюць», — заявіў ён.

Пад бандзюкамі, пэўна, ён і бачыў Саннікава з Бандарэнкам.

«Я нічога не баюся. Мне баяцца няма чаго, я чалавек рашучы, і губляць мне, у прынцыпе, няма чаго. Калі я чаго і баюся, то толькі меркавання маіх людзей, майго народа. Гэта мае выбаршчыкі, я іх меркаванне цаню і паважаю. Таму калі рабочы чалавек гаворыць, што штосьці не так, я на гэта рэагую. Як я рэагую, вы ведаеце», — заявіў Лукашэнка.

Ён заявіў, што «праблемныя прадпрыемствы» будуць рэфармаваныя. Лукашэнка нагадаў, што нядаўна прыняў рашэнне стварыць у краіне новую галіну — авечкагадоўлю. Так, плануецца пабудаваць новы камвольны камбінат і вырабляць у Беларусі вырабы з воўны. «Я гэта праэксперыментаваў у сябе на ферме. У мяне дзясятак авечак. Мы іх ужо два разы стрыглі — вялікая колькасць воўны. Самыя лепшыя авечкі ў свеце, і яны выдатна сябе адчуваюць. Цяпер зробім гэта па ўсёй краіне», — сказаў Лукашэнка.

Дык вось чым займаецца Лукашэнка ў вольны час! Мы думалі, што ён у хакей гуляе, а аказваецца — авечак стрыжэ! А пакуль ён стрыжэ авечак, яму працягваюць падкладваць свінняў.

У Мінску бясплатны праезд у грамадскім транспарце для студэнтаў плануецца адмяніць з 1 ліпеня. Такое рашэнне прынята 25 красавіка на сесіі Мінгарсавета. Адмена льготы не распаўсюджваецца на навучэнцаў агульнаадукацыйных школ горада. Праект рашэння сесіі Мінгарвыканкама падлягае рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі.

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Беларусі рыхтуе прапановы па стымуляванні аператараў сотавай сувязі да больш эфектыўнага выкарыстання выдзеленага ім радыёчастотнага спектра. Міністр Мікалай Панцялей заявіў: «Нас не задавальняе праца аператараў па развіцці сетак 3G на тэрыторыі ўсёй краіны».

Паводле слоў Панцялея, сотавыя аператары найперш звяртаюць увагу на эканамічную выніковасць і акупнасць інвестыцый. «Але мы як рэгулюючы орган абавязаны клапаціцца пра магчымасці ўсяго насельніцтва Беларусі выкарыстоўваць тэхналогіі і спектр паслуг, які можа быць прадстаўлены па гэтай тэхналогіі і для якога дзяржавай былі выдзелены радыёчастоты», — адзначыў міністр.

Ён сказаў, што змены, які рыхтуюцца, павінны стварыць умовы, пры якіх сотавым аператарам будзе эканамічна нявыгадна стрымліваць развіццё сетак 3G у неакупных, з іх пункту гледжання, населеных пунктах Беларусі.

«Адміністрацыйнымі метадамі мы не можам аператараў прымусіць разгортваць сетку ў якім-небудзь сельскім населеным пункце. Але мы павінны зрабіць так, што аператарам было эканамічна выгадна разгортваць сетку, укладваць інвестыцыі — і не толькі ў буйных гарадах», — падкрэсліў Панцялей.

Засталося толькі вылучыць кожнай бабцы па ноўтбуку. Бо навошта ім 3G без кампутара?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЕГ НАВІЦКІ



15 кастрычніка 2012 года на МКС адправіцца ўраджэнец Беларусі Алег Навіцкі. Гэта будзе трэці беларус у космасе. Алег Навіцкі — палкоўнік ваенна-паветраных сілаў Расіі, касманаўт-выпрабавальнік атрада касманаўтаў «Раскосмасу». Нарадзіўся будучы пакаральнік космасу 12 кастрычніка 1971 года ў гарадку Чэрвень Мінскай вобласці. У 1994 годзе скончыў Качынскае авіяцыйнае вучылішча, у 2006-м — Ваенна-паветраную акадэмію імя Гагарына. З лістапада 1995 года па верасень 2004-га служыў на пасадах лётчыка, старэйшага лётчыка, камандзіра звяна, намесніка камандзіра авіяцыйнай эскадрыллі штурмавога авіяцыйнага палка. Пасля заканчэння акадэміі ў 2006 годзе служыў камандзірам авіяцыйнай эскадрыллі ШАП 4-й арміі ВПС і СПА. Узнагароджаны медалём МО РФ «За ўдзел у баявых дзеяннях», а таксама гадзіннікам «За асабістую мужнасць». У атрад касманаўтаў уключаны 7 лютага 2007 года (14-ы набор). З лютага 2007 прыступіў да праходжання двухгадовага курсу падрыхтоўкі, а ў чэрвені 2009 года на пасяджэнні Міжведамаснай кваліфікацыйнай камісіі яму была прысвоена кваліфікацыя «касманаўт-выпрабавальнік». З 1 жніўня 2009 года прызначаны на пасаду касманаўта-выпрабавальніка.

«У 2006 годзе, калі я заканчваў Ваенна-паветраную акадэмію, да нас прыехалі прадстаўнікі Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў ім. Ю.А. Гагарына і абвясцілі: калі ёсць людзі, якія хочуць прайсці адбор у атрад касманаўтаў, то ёсць магчымасць паспрабаваць зрабіць гэта. Я наважыўся, і ў сакавіку 2006 года паспяхова прайшоў такі адбор. А ў 2007 годзе ў вайсковую частку, дзе я працягваў службу на пасадзе камандзіра эскадрыллі, прыйшоў загад міністра абароны аб накіраванні мяне ў Цэнтр падрыхтоўкі на пасаду кандыдата ў касманаўты», — распавёў Алег Навіцкі пра свой шлях у касманаўты інтэрнэт-газеце Naviny.by.

### КАРЫ ХЕЙКІЛЯ



Галоўна трэнер зборнай Беларусі фін Кары Хейкіля прызначаны новым галоўным трэнерам хакеістаў мінскага «Дынама». Кантракт з фінскім трэнерам падпісаны на 1 год з магчымасцю працягу. Пакуль плануецца, што Хейкіля будзе сумяшчаць працу ў клубе і зборнай.

Пасада галоўнага трэнера мінскага Дынама была вакантнай пасля сыходу чэха Марэка Сікоры.

На пачатку красавіка галоўны трэнер зборнай Беларусі Кары Хейкіля распавёў журналістам пра падрыхтоўку каманды да чэмпіянату свету.

«21 красавіка да зборнай далучыцца Міхаіл Грабоўскі, — паведаміў трэнер. — Адносна Стэфановіча вырашаем пытанне: калі ён зможа згуляць, то дадзім шанец. Місюль, Шведаў і Нагачоў таксама, думаю, згуляюць».

«Зараз у нас самы жорсткі час, — цытуе Хейкіля БелаПАН, — трэба падцягнуць фізічны складнік. Потым будзе невялікая паўза, калі нададзім асноўную ўвагу тактычным схемам, узаемадзеянню звёнаў. Трэба працягваць адпрацоўваць гульню ў большасці — увогуле, яшчэ шмат працы, каб пабудаваць каманду».

### NAKA

Напярэдадні гадавіны Чарнобыльскай катастрофы гурт Naka прадставіла на партале Tuzin.FM свой новы кліп, зроблены на песню «BY YOU». Відэа, якое складаецца з сотняў малюнкаў, стваралася цягам года. «У гэтым творы выяўляюцца ўсе мацярынскія пачуцці. У ёй чуецца спроба штосьці змяніць, якая, на жаль, сканчваецца нічым. Гэта надзея, што як пясок уцякае скрозь пальцы», — прадстаўляе працу вакалістка гурта Наста Шпакоўская.

«BY YOU» — трэк гурта, з якім музыкі дэбютавалі ў чарце на «Тузіне Гітоў» у 2008 годзе. Гэта была іх першая кампазіцыя на беларускай мове. Спявачка Наста Шпакоўская назвала гэтую песню «чарнобыльскай калыханкай».

«Ахапіць такую колькасць задачаў, замяняючы сабой цэлую творчую групу людзей, было няпроста, — дзеліцца сваімі ўражаннямі ад працы дызайнерка Наста Шастак. — Тым не менш, я атрымала задавальненне ад кожнага этапу стварэння міні-фільма». Яна маркуе, што ў роліку добра спалучыліся ўсе элементы: тэкст, музыка, сюжэт і тэхніка, у якой выкананы кліп.



ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Зміцер Бандарэнка: ДА ПАЛІТВЯЗНЯЎ СТАЎЛЕННЕ АСАБЛІВАЕ

**Пасля 16 месяцаў, праведзеных за кратамі, 15 красавіка на волю выйшаў каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» і даверaная асоба Андрэя Саннікава Зміцер Бандарэнка. Нягледзячы на праблемы са здароўем і вялікае жаданне больш часу праводзіць з сям'ёй, Зміцер сустрэўся з рэдакцыяй «Новага часу» і распавёў шмат цікавага пра беларускую пенітэнцыярную сістэму, праваабарончую дзейнасць і салідарнасць з палітзняволенымі.**



Зміцер Бандарэнка

***Аляксей Кароль (А.К.): Улада дала вам трагічную магчымасць вывучыць паралельны сусвет — той, што за кратамі і калючым дротам. Што ён сабой уяўляе і што там убачылася?***

**Зміцер Бандарэнка (З.Б.)**: На парозе да гэтага сусвету мне даводзілася ўжо быць, бо я адсядзеў восем адміністрацыйных арыштаў разам з крымінальнікамі, меў шматлікія кантакты з міліцыянтамі, якія затрымлівалі мяне, ішлі сведкамі па справах і выступалі на судовых працэсах. Але ніколі не было такога прававога бязмежжа, асабліва ў першыя два месяцы зняволення ў сталічнай турме КДБ. Ад мяне і да мяне — ніякага ліставання, да мяне не дапускалі адваката. Усім маім жыццём кіравалі людзі ў масках. І гэта, у пэўнай ступені, быў шок для мяне, бо я не быў гатовы да такога абсалютнага беззаконня.

Наогул, беларуская пенітэнцыярная сістэма вельмі страшная, бо гэта — дзясяткі тысяч людзей у турмах, калоніях і на пасяленні (так званая «хімія»). І калі гэтыя месцы нанесці на мапу, дык імі будзе пакрытая ўся краіна. Гэта жахліва. Безумоўна, умовы ўтрымання ў месцах зняволення зараз лепшыя, чым у савецкія часы. Але ж жыццё за кратамі — гэта людзі ў ватніках і робах.

Разам з тым, за кратамі існуе выразнае сацыяльнае расслаенне. Родныя адных вязняў могуць рабіць харчовыя і рэчавыя перадачы, дасылаць грашовыя пераводы і прыязджаць на спатканні. Але шмат і такіх, хто нічога гэтага не мае, бо ў родных папросту няма грошай. Гэтыя вязні, літаральна, напаўгаладныя. Праўда, у выпраўленчай калоніі №15 у Магілёве, дзе знаходзіўся я, сітуацыя з харчаваннем крыху лепшая, чым у іншых.

Умовы пражывання — гэта ці кубрык на трыццаць чалавек, ці казарма на сто вязняў. Не заўсёды ў атрадах ёсць сушылкі для бялізны, вопраткі і абутку людзей, якія працуюць на вуліцы. Зняволеныя адчуваюць недахоп свежага паветра, вітамінаў і гарачай вады. Усё гэта сведчыць, што айчынная пенітэнцыярная сістэма далёка не адпавядае еўрапейскаму ўзроўню. Постсацыялістычныя краіны ўжо прайшлі нейкі шлях гуманізацыі сваёй пенітэнцыярнай сістэмы, мы — не. І гэта вельмі жудасна.

Галоўныя ворагі вязня — гэта час, быт, змена рытму жыцця і недахоп інфармацыі. Не надаюць аптымізму і колеры зоны — брудна-белая сілікатная цэгла, калючка і шэры бетон.

***А.К.: Які сацыяльны зрэз кантынгенту беларускіх зняволеных?***

**З.Б.:** Нават па значна заніжаных афіцыйных дадзеных, колькасць асуджаных на 100 тысяч чалавек у Беларусі ў некалькі разоў перавышае паказчык па Еўразвязу, у два разы — па Казахстану і Украіне. Каб дасягнуць стандартаў Украіны, у Беларусі трэба выпускаць на волю палову вязняў. Прычым, гэта па стану да апошняга студзеньскага рашэння ўкраінскіх уладаў, калі былі вызвалены шмат людзей, асуджаных па артыкулах за эканамічныя злачынствы. Зараз на Украіне па гэтых артыкулах людзей нельга затрымліваць да суда, пакаранні па гэтых артыкулах, у пераважнай большасці, абмяжоўваюцца штрафамі і дамашнімі арыштамі, а не пазбаўленнем волі. Беларускія зняволеныя па эканамічных артыкулах, безумоўна, павінны быць вызваленыя.

Мой асабісты досвед зняволення розны. У турме КДБ утрымліваецца элітны, умоўна кажучы, кантынгент — супрацоўнікі органаў, буйныя бізнэсоўцы, дырэктарат прадпрыемстваў. У так званай транзітнай камеры на «Валадарцы» было шмат мінчан рознага ўзросту, асуджаных у тым ліку за эканамічныя злачынствы, распаўсюд наркотыкаў. Сярод іх былі і крымінальнікі са стажам, хаця яны і не павінны былі знаходзіцца сярод так званых «першаходаў», якія раней не мелі судзімасці. Даводзілася мне паляжаць у шпітальных палатах-камерах на «Валадарцы», куды з усіх месцаў зняволення накіроўваюць хворых вязняў, у тым ліку і рэцыдывістаў, не так на лячэнне, як на медыцынскі агляд. Затым я сядзеў у Магілёўскай выпраўленчай калоніі №15 для «першаходаў», дзе было некалькі палітычных зняволеных і некалькі дзясяткаў зэкаў, асуджаных па эканамічных артыкулах. Але большасць з дзвюх тысяч складалі асуджаныя за крадзяжы, хуліганства, забойствы, згвалтаванне, парушэнне рэжыму на «хіміі»... Як правіла, асуджаныя на вялікія тэрміны зняволення выконваюць у калоніі абавязкі заўхозаў і брыгадзіраў. Менавіта на гэтых людзей абапіраецца кіраўніцтва ўстановы.

Трэба звярнуць увагу і на тое, што толькі каля аднаго адсотка ўсіх прысудаў у нашай краіне з'яўляюцца апраўдальнымі. Гэта вельмі-вельмі мала. Чалавек, асуджаны на вялікі тэрмін, не атрымлівае аніякай рэакцыі на свае скаргі, пакуль не адсядзіць хаця б палову прызначанага. Толькі тады ён можа разлічваць на ўмоўна-датэрміновае вызваленне (УДВ) альбо на змену пакарання.

**Чалавек на зоне абавязаны кантраляваць сябе, дамаўляцца, а не сварыцца, але ёсць моманты, калі ён павінен рэагаваць жорстка**

Людзі, якія прытрымліваюцца «воровских традиций», увогуле не трапляюць у калоніі «першаходаў». І нават у калоніі, дзе знаходзяцца рэцыдывісты, такіх людзей не імкнуцца змяшчаць. Таму што яны не падпісваюць паперу аб намеры стаць на шлях выпраўлення. Большасць зэкаў, ад 95 да 99 адсоткаў, адпаведныя паперы падпісалі, бо яны даюць шанец на ўмоўна-датэрміновае вызваленне. Да тых, хто не падпісвае такія паперы, можна ставіцца па-рознаму, але выклікае павагу сіла іх перакананняў. Гэтыя людзі большую частку свайго тэрміна адбываюць у турмах. Але такіх вязняў на ўсю краіну некалькі соцень.

***А.К.: А якое стаўленне да палітычных вязняў?***

**З.Б.:** Розныя людзі па-рознаму ставяцца. Ёсць павага, абыякавасць, зайздрасць... Большасць адукаваных зняволеных цікавяцца палітычнымі і спрабуюць з імі размаўляць, калі няма жорсткай забароны і знаходзішся, напрыклад, у рэспубліканскай бальніцы або турме. Пры гэтым цябе спрабуюць праверыць на «вашывасць» і рэакцыю праз розныя, у тым ліку і правакацыйныя пытанні. А ты глядзіш, наколькі гэтыя пытанні шчырыя. Тым не менш, палітзняволеныя — гэта сіла за кратамі, бо ў нас, як правіла, ва ўсіх ёсць адвакаты, да нас ідуць перадачы, лісты і паштоўкі, пра нас пішуць у газетах, паказваюць па тэлевізіі. Наша перавага ў тым, што калі няма загаду на поўную ізаляцыю, да нас цягнуцца людзі. І ты сам выбіраеш, з кім размаўляць.

Нават адміністрацыя ставіцца да нас асабліва, хаця цвердзіць, што мы такія ж асуджаныя, як і ўсе. Напрыклад, тэлефанаваць я мог толькі ў прысутнасці аператыўнага супрацоўніка. Для тэлефанавання ўвогуле патрэбна было пісаць заяву. Усе пісалі за дзень, нават у дзень званка, а я — за чатыры дні, і па маёй заяве прымалася адмысловае рашэнне. Бывала і такое — я пішу, а мне адмаўляюць. У адсутнасць аператыўніка я не мог тэлефанаваць. Асаблівы статус палітвязня падкрэсліваўся і тым, што адміністрацыя папярэджвала асуджаных, каб не кантактавалі з намі пад пагрозай скасавання УДВ. Мне не дазвалялася хадзіць да знаёмых у іншыя атрады, хаця гэта маглі рабіць астатнія па адмысловай заяве.

***А.К.: Што найбольш уразіла з асабістых адносін з людзьмі?***

**З.Б.:** Беларусь — невялікая краіна, і таму было шмат людзей, з кім знаходзіш агульных знаёмых з розных рэгіёнаў і сфер. У калоніі былі таксама людзі, якія самі ці іх падзельнікі сядзелі са мной разам у турме КДБ. Дзякуючы інфармацыі з дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, а таксама ад вязняў, я атрымліваў розныя звесткі з волі. У няволі, як і на волі, прысутнічае ўсё: дабро і зло, спачуванне і абыякавасць, карысць і альтруізм. Чалавек на зоне абавязаны кантраляваць сябе, дамаўляцца, а не сварыцца, але ёсць моманты, калі ён павінен рэагаваць жорстка, праяўляць агрэсію, бо калі ты гэта не зробіш, твой статус альбо стаўленне да цябе могуць змяніцца. У прынцыпе, узаемаадносіны ў няволі падобныя да вайсковых.

***А.К.: А што вы можаце сказаць пра інфармацыйную блакаду Андрэя Саннікава і Міколы Статкевіча?***

**З.Б.:** Да кандыдатаў у прэзідэнты былі асаблівае стаўленне, тым больш, што Саннікаў і Статкевіч доўгі час знаходзіліся ў турме. Акрамя таго, дазвол на атрыманне газет залежыць ад пазіцыі адміністрацыі канкрэтнай калоніі.

Калі размаўляў з былымі блатнымі, даведаўся, што людзі, якія шмат гадоў прытрымліваліся зладзейскіх традыцый, часам падпісваюць паперы пра выпраўленне і ідуць у зону, каб распаўсюджваць свае ідэі. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што пенітэнцыярная сістэма ціснe і даціскае любога, хто трапіў у яе жорны. Кагосьці даводзіць да смерці. Да нас не даходзіць інфармацыя пра тое, што робіцца ў турмах, дзе частка людзей адбывае пакаранне, а частка знаходзіцца пад следствам. Нават калі чалавека з турмы пераводзяць у калонію, ён можа трапіць у ШІЗА (штрафны ізалятар), альбо ПКТ (памяшканне камернага тыпу).

***А.К.: Лёс якога зняволенага вас асабіста ўразіў?***

**З.Б.:** У мяне быў знаёмы — патомны шляхціц, якога я лічыў сваім сябрам. У чэрвені мінулага года мяне пасадзілі ў камеру-палату рэспубліканскай бальніцы на «Валадарцы», дзе былі амаль адны рэцыдывісты. Ён — былы прадпрымальнік — сядзеў за эканамічнае злачынства. Усе насельнікі камеры былі хворыя на рак. У майго знаёмага яшчэ на волі была анкалогія горла, але ён патрапіў у няволю як здаровы. Падчас зняволення ў яго былі выяўлены рэцыдывы былой хваробы. Ён пісаў скаргі, што яго хвароба выкліканая знаходжаннем у турме. Але знаёмаму адказалі, што ён быў хворы, калі патрапіў у няволю. На руках у яго былі дзве паперы, па якіх яго не вызвалялі: па першай — таму што да зняволення ён быў здаровым, а па другой — што ён да няволі быў хворым. І пасля таго, як медкамісія адмовіла яму ў вызваленні, мы з ім яшчэ два разы сустракаліся ў медычнай частцы на зоне.

30 студзеня гэтага года яго вызвалілі, і мы былі ўзрадаваныя, што ён пайшоў на волю пасля двух сеансаў хіміятэрапіі. Але 11 лютага ён памёр. Фармальна — ад сардэчнай недастатковасці. Яму было 46. З пяці гадоў калоніі ён адбыў два. Ён быў мне блізкім

яшчэ і тым, што мы часцяком спрачаліся па праблемах айчыннай гісторыі. Але пасля таго, як ён прачытаў падараваную мной кнігу Вадзіма Дзеружынскага «Тайны белорусской истории», стаў свядомым беларусам. Такім ён і пайшоў у іншы свет.

***А.К.: На волі, калі людзі кантактуюць доўгі час, яны аб'ядноўваюцца па інтарэсах. А як на зоне?***

**З.Б.:** На зоне шмат вясковай моладзі. Юнакі з сяла хочуць жыць, як у прыгожых кліпах, але як ні працуй у вёсцы — шмат не заробіш. Ніякай перспектывы. І гэта правакуе на злачынствы, тым больш у перыяд крызісу. Большасць зэкаў марыць паехаць на заробкі ў Расію.

Цяжэй за ўсіх на зоне былым камерсантам, якія павінны выплаціць вялікія іскі. І калі чалавек не можа гэта зрабіць ці не прызнае віны, на яго накладаюць абмежаванні па так званай «атаварцы». Калі я мог выдаткаваць на прадукты 210 тысяч рублёў штомесяц, дык ён — толькі 70 тысяч. А калі ж ён паліць, дык гэтыя грошы ідуць на курава і гарбату, як самы культавы прадукт на зоне. І такому былому бізнэсоўцу, які на волі прызвычаіўся жыць на шырокую нагу, вельмі цяжка ў няволі, тым больш, калі няма дапамогі ад родных і сяброў. Ну а заробкі ў нашай калоніі не перавышалі 35 тысяч рублёў штомесяц.

***Марат Гаравы (М.Г.): Якія пачуцці і думкі выклікала ў вас людская салідарнасць?***

**З.Б.:** У свой час мы з Аляксеем Каралём былі сярод першых падпісантаў Хартыі–97. І ў 1997 годзе мы казалі, што трэба ствараць сістэму калектыўнай бяспекі, якая б уключала наступныя складнікі: інфармацыйны, юрыдычны, маральна-псіхалагічны і міжнародную салідарнасць. За 15 гадоў гэтая сістэма склалася, яна адпрацаваная. І калі я знаходзіўся ў вязніцы, дык ведаў, адчуваў, што сістэма дзейнічае. Але ведаць пра гэта — адно, а атрымаць на зоне паштоўку альбо ліст — зусім іншае. І калі табе пад Новы года або на Вялікдзень прыносяць стос карэспандэнцыі і кажуць, што ўсё гэта Бандарэнку, а на ўсіх астатніх 30 чалавек толькі 2–3 лісты, дык усе на цябе глядзяць і зайздросцяць. А ты бачыш: вось канадскія беларусы напісалі, вось амерыканцы пангельскую, вось чэхі, вось ліст з Гародні, з Магілёва, з Асіповічаў і з маленькай беларускай вёсачкі… І гэта неверагодна прыемна, бо ты адчуваеш, што існуе беларуская і міжнародная салідарнасць. І гэта вельмі важна, калі ты чытаеш у газетах, што здарылася з тваімі сябрамі, за каго заступіліся, хто з іх і калі выйшаў на волю, а таксама пра рэакцыю міжнароднай грамадскасці.

Пра гэтую салідарнасць я ўвесь час казаў зняволеным камерсантам у адказ на іх наезды, што, маўляў, апазіцыя не гэтак і не тое робіць: «А дзе ваша партыя, чаму маўчыць Уладзімір Карагін, дзе ваша салідарнасць, чаму пра вашы праблемы ніхто не кажа? Тысячы з вас прайшлі праз месцы зняволення, на вас цiснуць паасобку адміністрацыя і зэкі. Чаму так адбываецца? А вы маглі б быць сілай, тым больш існуюць міжнародныя эканамічныя саюзы. Але вы не згуртаваны, вы, хлопцы, толькі пра грошы думаеце, ездзіце на джыпах, на лексусах, а я нават машыны не маю… Я перад вамі галаву схіляю, бо ў беларускіх умовах бізнэсоўцам вельмі цяжка. Але ж чаму вы не бароніце саміх сябе?» У гэтым сэнсе мы — палітычныя — сіла! Вось чаму нас і паважаюць, але нам адначасова і зайздросцяць.

***М.Г.: Колькі паштовак і лістоў вы атрымалі?***

**З.Б.:** На жаль, калі з мая па жнівень мінулага года я знаходзіўся на «Валадарцы», усе газеты чамусьці паведамлялі, што я ў Магілёве. Не ведаю, рабілася гэта спецыяльна ці ад непрафесіяналізму нашых журналістаў. На працягу гэтых чатырох месяцаў усе лісты, якія людзі пісалі мне на Магілёў, вярталіся назад ці губляліся. Але за астатні перыяд я атрымаў некалькі соцень лістоў і паштовак. Найбольш з іх — да дня народзінаў 28 верасня, Новага года і Калядаў, а таксама да Дня Волі і на Вялікдзень. Паштоўкі і лісты былі розныя і цікавыя, але самыя чаканыя пасланні прыходзілі ад жонкі і дачкі. Мая карэспандэнцыя выклікала вялікі інтарэс і ў аднаго філатэліста, які быў на зоне. Ён вельмі дзівіўся тым паштовым маркам розных краін, якія ўпрыгожвалі замежныя канверты і паштоўкі. Уражвала і сама геаграфія гэтай перапіскі, а таксама высакародныя эмоцыі людзей. У творчым плане, паверце, сярод эпісталярыяў было некалькі супертвораў, у якіх гарманічна спалучаліся таленавітае слова і глыбокая эмоцыя. Прычым з усіх пасланняў, якія я атрымаў, не было ніводнага зларадняга. Адсюль, дарэчы, зразумелым становіцца, што злыя каментары ў інтэрнэце пішуць ці не выключна «тролі».

Я магу сказаць, што падзеі 19 снежня 2010 года на сталічнай плошчы Незалежнасці працягваюцца ў духоўнай сферы. Я паглядзеў ролікі Сяргея Міхалка і ўбачыў, як гэтая падзея адбілася на яго творчасці. Я прачытаў урывак з новай кнігі Святланы Алексіевіч. У вашай газеце я пазнаёміўся з развагамі інтэлігента Барыса Тумара пра духоўны аспект падзеяў 19 снежня. З расійскіх «Известий» я даведаўся, што ў свеце пастаўлена пяць спектакляў па падзеях на плошчы Незалежнасці пасля выбараў кіраўніка дзяржавы.

***М.Г.: Якія актуальныя праваабарончыя праблемы вы збіраецеся вырашаць пасля вызвалення?***

**З.Б.:** Я лічу, што створаная дэмакратычнымі сіламі краіны сістэма калектыўнай абароны павінна існаваць і развівацца. Калі 15 гадоў таму мы стварылі яе, дык абапіраліся на досвед чэшскіх дысідэнтаў і польскай «Салідарнасці». Што гэта значыць? Першае. Калі чалавек толькі арыштоўваецца, адразу павінна прайсці інфармацыя па радыё ці ў інтэрнэце. Прычым, дзякуючы інтэрнэту, гэта павінна адбыцца імгненна. Другое. Калі чалавек закрываецца ў месцах зняволення, у яго павінна быць магчымасць кантактаваць з адвакатам. Трэцяе. Чалавек у няволі адразу павінен атрымліваць перадачы. Чацвёртае. Павінны праводзіцца акцыі салідарнасці з палітзняволеным у Беларусі. Пятае. Неабходна арганізоўваць акцыі міжнароднай салідарнасці з палітвязнем праз праваабарончыя арганізацыі, па дыпламатычных каналах, праз беларускую дыяспару і сяброў Беларусі ва ўсім свеце. Шостае. Сям'я палітвязня павінна атрымоўваць розную, у тым ліку і матэрыяльную дапамогу. Такім чынам, чалавек павінен ведаць, што калі ён зняволены, адразу ж уключаецца гэты механізм абароны яго правоў. Падобная сістэма абароны правоў павінна быць у любога зэка, а не толькі ў палітычнага.

*Зміцер Бандарэнка выказаў падзяку рэакцыі газеты за дасланыя ў няволю нумары штотыднёвіка: «Ваша газета — проста супер, бо на яе старонках прысутнічае свая аналітыка, дайджэст замежных СМІ і перыядычна з'яўлялася інфармацыя пра захады маёй жонкі. Людзі з інтарэсам ставіліся да вашай газеты, заўсёды прасілі даць пачытаць. Такім чынам, «Новы час» выконваў сваеасаблівую функцыю маёй сувязі з сям'ёй і светам».*



Вольга і Зміцер Бандарэнкі. Першая сустрэча на волі

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# АВЕЧКА ЯК СІМВАЛ НАШАЙ РЭЧАІСНАСЦІ

**Як патлумачыў журналістам Лукашэнка падчас суботніка, ідэя рэанімацыі авечкагадоўлі ў Беларусі ўзнікла на аснове яго персанальнага досведу.**



Што на гэта скажаш? Авечка — жывёліна, з аднаго боку, біблейская, з другога — палітэканамічная. У біблейскім сэнсе ягня як адна з найбольш пакорлівых і цярплівых жывёлін выступае сімвалам нявіннай і чыстай ахвяры. У палітычную эканоміку авечак прывёў Томас Мор, згодна якому яны нават «з'елі людзей». Пра гэту з'яву больш падрабязна пісаў у «Капітале» Карл Маркс. Маўляў, багацеі Англіі ў пагоні за прыбыткамі ад развядзення авечак дзеля вырабу ваўняных тканін пачалі зганяць сялян з зямель (агароджваць) дзеля разводзіць авечак. Беззямельныя сяляне рабіліся бамжамі, іх каралі смерцю, таму авечкі ўвайшлі ў англійскую гісторыю такімі крыважэрнымі.

Але нездарма ж псіхолагі-ідэалісты кажуць, што людзі маюць не толькі індывідуальны, але і нацыянальны характар. Мусіць, авечкі таксама. Прынамсі, не існуе ні дакументальных, ні літаратурных сведчанняў таго, што беларускія авечкі калі-небудзь рабіліся падобнымі да ваўкоў. І ў гэтым сэнсе яны гістарычна выступаюць вельмі падобнымі да коз. Мусіць, таму і ў дадзеных афіцыйнай статыстыкі гэтыя жывёліны праходзяць разам — як авечкі і козы.

Прычым (паводле статыстыкі) існуе нейкая дзіўная заканамернасць, згодна з якой пагалоўе гэтых жывёл павялічваецца напярэдадні розных сацыяльна-эканамічных катаклізмаў. Прыкладам, напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Беларусі налічвалася больш за два мільёна авечак і коз. На 400 тысяч болей, чым кароў. Такая ж сітуацыя назіралася і пасля грамадзянскай вайны, а ў перыяд калектывізацыі і пасля яе колькасць коз і авечак перавышала колькасць кароў на 600 і болей тысяч галоў.

Непасрэдна падчас вайны авечкі і козы, як менш цікавыя істоты для розных рэквізітараў, толькі і дазвалялі выжываць насельніцтву. Каровы і свінні занадта лёгка зводзіліся з падворкаў, лёгка ішлі пад нож.

Як вядома, кіруючая ў тыя часы КПСС праводзіла вельмі актыўную аграрную палітыку, але вельмі часта яе генеральная лінія рэзка хісталася разам з настроем першага партыйнага сакратара. Так было, калі Мікіта Хрушчоў, пабачыўшы, якой густой і высокай расце кукуруза ў амерыканскага фермера Герста, загадаў і ў нас сеяць яе паўсюль. Дзе расла, дзе не расла.

Памятаю, у другім ці трэцім класе нас, узброеных хатнімі нажамі, адправілі восенню «на кукурузу». Уяўлялі мы сябе мачатэрас. Так звалі рубшчыкаў цукровага трыснягу на ўлюбёнай намі Кубе.

Потым палітыку Хрушчова назвалі валюнтарызмам, але галоўную сваю задуму ён напоўніцу ажыццявіць не паспеў. Справа ў тым, што савецкае грамадства па плану партыі распачало будаўніцтва камунізму. Але гэта прывяло да абвастрэння застарэлай грамадскай праблемы, згодна з якой, чым большымі рабіліся поспехі будаўніцтва новага грамадства, тым меней жадалі сяляне непасрэдна ў гэтым будаўніцтве ўдзельнічаць. Яны ахвотна перакладалі калгасныя справы на гарадскіх шэфаў і студэнтаў, а самі завіхаліся на ўласных палетках, але яшчэ больш ахвотна ездзілі на так званыя калгасныя рынкі. Продаж іх уласнай прадукцыі быў ці не адзіным сродкам атрымаць жывую капейчыну ў рукі.

Але ж у нас было ведама як. Як у арміі. Не умееш — навучым, не хочаш — прымусім. Таму Мікіта Сяргеевіч, палічыўшы, што асабістая падсобная гаспадарка адцягвае савецкіх людзей ад выканання планаў партыі і ўрада, мацуе прыватна-ўласніцкі інстынкт, загадаў прыняць пастанову аб абмежаванні колькасці дазволенай да ўтрымання жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, рабочых і служачых.

Партыйнае кіраўніцтва, як заўсёды, меркавала, што калгасы дазволяць цалкам задаволіць патрэбу насельніцтва ў прадуктах, бо калгаснікі, пазбаўленыя ўласнай гаспадаркі, будуць лепш працаваць на грамадскіх палетках і фермах. Як заўсёды, кіраўніцтва памылілася, і, як заўсёды, насельніцтва выказала свой пратэст нагамі. У 1960-я гады пачаўся апошні буйны адток насельніцтва з вёсак, які звёў яе дэмаграфічны патэнцыял амаль што да нуля.

Хацелася б сказаць, што і ў нас авечкі людзей паелі, як некалі ў Англіі, але ж гэта не так. У нас ворагамі чалавекаў як былі, так да гэтага часу застаюцца людзі пры ўладзе. Раней іх жартам абзывалі «слугамі народа», зараз клічуць «вертыкальшчыкамі».

Але ў 1963 годзе колькасць авечак у гаспадарках насельніцтва дасягнула пасляваеннага максімуму — 443 тысяч галоў. Прыкладна столькі ж трымалі калгасы і саўгасы, а агулам атрымлівалася амаль што мільён галоў. Праўда, воўна ішла не на выраб тканіны, а ў асноўным на валёнкі.

Яшчэ ў 1960-я гады зімы ў Беларусі стаялі суровыя, і пра глабальнае пацяпленне ніхто і думаць не мог. Як і пра тое, што трэба прымаць пастанову пра авечак. Яны здаваліся вечнымі — былі, ёсць і будуць.

МЕРКАВАННЕ

# ПАКУЛЬ ЛЮДЗІ ПАГАДЖАЮЦЦА НА ГАНДАЛЬ СВАЁЙ ЛАЯЛЬНАСЦЮ, НІЧОГА НЕ ЗМЕНІЦЦА

Вольга ХВОІН

**На што абапіраюцца міністры МЗС краін Еўропы, калі прымаюць рашэнні пра ўвядзенне санкцый да дзяржавы, што ёсць фальклорам у знешняй палітыцы Славакіі і дзе для Беларусі стаіць мех грошай? Покрыва таямніцаў міжнароднай палітыкі для чытачоў прыўздымае Аляксандр Дулеба — дырэктар Даследчага цэнтра славацкай асацыяцыі па знешняй палітыцы. Спадар Дулеба ведае, як паўплываць на аўтарытарнага кіраўніка і колькі гэта каштуе.**



Аляксандр Дулеба

## Аргументы для санкцый

— У ЕС паўстала пытанне эканамічных санкцый у дачыненні да Беларусі. Я не буду расказваць вам дэталяў. Мы зрабілі аналіз, як можна было б супрацьпаставіць эканамічныя санкцыі рэжыму Лукашэнкі так, каб яны закранулі тую частку нафты, што паступае з Расіі. Міністр замежных спраў Славакіі (на пачатку красавіка ўрад Славакіі змяніўся — аўт.) Мікулаш Дзурында, калі была дыскусія наконт санкцый, меў падрыхтаваныя аргументы. Разглядаўся варыянт, каб ЕС адмовіўся ад нафтапрадуктаў, якія выраблены з расійскай нафты, а не беларускай. У Беларусі дамова з Расіяй: калі перапрацоўваецца расійская нафта, то пошліна за экспарт нафтапрадуктаў ідзе ў бюджэт Расіі. І тут пытанне: ці можна раздзяліць гэтыя прадукты? Мы зрабілі аналіз па наменклатуры, што з нафтапрадуктаў можа мець беларускае паходжанне.

Калі б Еўрасаюз адмовіўся ад нафтапрадуктаў з Беларусі, то рэжым цягам месяцу не зрынуўся б толькі з гэтай прычыны. Але было б менш грошай, каб субсідаваць рэпрэсіўны апарат — гэта дакладна. Сума, якую раней Беларусь атрымлівала з перапродажу нафтапрадуктаў, выробленых з расійскай нафты, даходзіла да двух мільярдаў долараў на год. Гэта быў чысты прыбытак, каб фінансаваць сістэму. Цяпер гэты даход Беларусі зменшыўся, мяркую, на дзве трацыны.

У адным нашым часопісе выйшаў крытычны артыкул пра Беларусь. Прыйшоў ваш пасол і яго намеснік, прынеслі мне кучу папер, у якіх даводзілася, што ў Беларусі ўсё добра. Але хутка ў вас здарыўся эканамічны калапс, і мяне перасталі пераконваць у нечым адваротным.

## Шанцы ў ЕС на рэальныя санкцыі

— Фактычна ўпершыню ЕС загаварыў пра магчымасць эканамічных санкцый, але з прыцэлам на тое, каб як мага менш пацярпела грамадзян Беларусі, і як мага больш прадстаўнікоў рэжыму. Мы зрабілі аналіз для МЗС, і я ведаю, што яго выкарыстоўвалі. Заўжды можна памыліцца, вы ніколі не пралічыце ўсё да дробязяў. Але мы зрабілі ўсё магчымае. Праўда, цалкам нашы прапановы пакуль не былі прынятыя. У цэлым жа гэта была пазіцыя Славакіі. Ведаю, што іншыя міністры едуць на пасяджэнне ў Брусэль з падобнымі праграмамі, падрыхтаванымі аналітычнымі цэнтрамі. Адназначна падобныя рашэнні аб санкцыях не мусяць ударыць па іншых краінах Еўропы — Латвіі, Літве, таму мы імкнуліся звесці да мінімуму іх уплыў.

Прынясце рашэнняў у рамках ЕС — палітычны працэс. Нават калі адна краіна будзе супраць, то нічога не атрымаецца. Мне цяжка гэта прадбачыць, тым больш цяпер з'явіліся навіны пра вызваленне некаторых палітвязняў. Калі тэндэнцыя будзе пазітыўнай, то наўрад ці з'явіцца палітычная воля для эканамічных санкцый ЕС у дачыненні да Беларусі. Гэта быў бы крайні выпадак. Проста была пастаўленая тэма санкцый, якія б працавалі.

## Пра шантаж межамі

— Ахова межаў, да шчасця, не залежыць толькі ад беларускай дзяржавы. Нядаўняя пагроза Беларусі зменшыць пільнасць памежнікаў на выездзе з краіны — наіўны шантаж. Плынь мігрантаў змяняецца. Адзін час у нас на мяжы з Украінай была бачная міграцыйная траса. Цяпер асноўная міграцыйная праблема на поўдні Еўропы.

## Пагроза незалежнасці

— Беларусь — суверэнная дзяржава. Беларускі грамадзянін мае сваё ўяўленне пра тое, што такое годны лад жыцця. У прынцыпе, гэта анамалія — наяўнасць неэфектыўнага рэжыму, які атрымлівае субсідыі з Расіі. Нельга будаваць краіну толькі на нафце. Што прапануе Расія — мытны саюз. Але, каб лібералізаваць гандаль, Беларусь мусіць стаць сябрам Сусветнай гандлёвай арганізацыі.

Думаю, Беларусь адбылася як нацыянальная дзяржава. Была ідэя падключыць інструмент «Усходняга партнёрства», дзе гэта не працуе. Адзінае, дзе ходзяць прадстаўнікі Беларусі, — розныя платформы, датычныя грамадзянскай супольнасці. Я разумею феномен Уладзіміра Мечыяра (адны называюць яго Лукашэнкам на Дунаі, іншыя — Маці Тэрэзай у параўнанні з беларускім кіраўніком — аўт.), але феномен Лукашэнкі іншы. Нам пашанцавала, што ў нас былі зачэпкі на Еўрасаюз — падпісаная асацыятыўная дамова 1992 года.

## Ад каго залежаць перамены

— Перамены залежаць толькі ад грамадзян Беларусі. У нас таксама была знешняя падтрымка, але калі б не было мабілізацыі 1998 года... Гэта былі выбары, але дэ-факта рэвалюцыя — мы ўсе запісваліся на ўчастку назіраць за выбарамі, сядзелі там штоноч, сачылі, каб не было махлярстваў.

Годнае жыццё — вось крытэр стабільнасці ў дзяржаве. Каір — там выйшлі маладыя бедныя людзі, якія не бачаць прымянення сваім здольнасцям. Масква — сярэдні клас, які не хоча прымаць сістэму. Мусіць быць крытычная маса. Можа быць падтрымка знешняя, але калі ўнутры краіны няма разумення: «Гэта мая краіна, я хачу, каб тут працавалі такія і такія правілы, тут будуць жыць мае дзеці», калі не будзе разумення годнага жыцця, то нічога не будзе. Пакуль людзі пагаджаюцца на тое, што рэжым купляе іх лаяльнасць, то нічога не зменіцца.

Змена ўлады знутры, з акружэння Лукашэнкі, не магчымая. Гэтая сістэма скончыцца разам з Лукашэнкам. Таму такі варыянт змены ўлады папросту бессэнсоўны.

## Еўрапейскі мех грошай для Лукашэнкі

— Думаю, у Лукашэнкі праблема такая ж, як і ў многіх іншых палітычных лідараў, — недахоп сродкаў. Для Беларусі стаіць мех грошай, іх урад можа атрымаць ад Еўрасаюза. Лукашэнка традыцыйна манеўруе — то на Усход, то ў Еўропу. Аб'ём фінансавання з боку Расіі ўжо скарачаецца, і ён вымушаны глядзець на іншыя метады атрымання грошай. З боку Расіі ўжо не бачна вялікіх перспектыў. І ён, як любы палітык, разумее, што патрэбна будучыня. Ён не дурань, і чаму б не зрабіць нейкія крокі, калі тут напагатове стаіць мех грошай. Мяркую, цягам паўгода Лукашэнка выпусціць палітвязняў на свабоду. Нават сто мільёнаў еўра ад ЕС — лепш, чым нічога.

## Фальклор знешняй палітыкі Славакіі

— Да шчасця, ёсць кансенсус па двух пытаннях знешняй палітыкі Славакіі незалежна ад таго, якога колеру ў нас урад. Першае: Заходнія Балканы — Косава, Сербія. Палітыка — гэта значыць, вы заўжды несяце адказнасць за тое, што зроблена. У нас з сербамі былі добрыя адносіны. Пасля таго, як Славакія пачала рэалізоўваць палітыку дапамогі іншым краінам, 70% грошай ішло ў Сербію. У нас была моцная хваля зацікаўленасці ў інтэграцыі з ЕС. Мікулаш Дзурында за два месяцы зрабіў 16 візітаў, то бок здзейсніў тое, што Мечыяр не мог зрабіць за гады свайго кіраўніцтва. (У 1998 годзе апазіцыйныя партыі перамаглі на выбарах, і Дзурында стаў прэм'ер-міністрам, а таксама выконваў абавязкі прэзідэнта да абрання на гэту пасаду Рудольфа Шустэра — аўт.)

Праграма «Усходняе партнёрства» — гэта тычыцца ў асноўным Украіны, бо яна з намі мяжуе. У 2003 годзе рабілі аналіз, які паказаў, што калі б Украіна ўвайшла ў ЕС, то гандлёвы абарот паміж нашымі краінамі павялічыўся б мінімум у два-тры разы, гэта дало б штуршок да развіцця бедных усходніх рэгіёнаў нашай дзяржавы. Таму ёсць разуменне — гэта прыярытэт Славакіі. У Роберта Фіца, цяперашняга прэм'ер-міністра Славакіі, своеасаблівы падыход да Расіі. Павестка дня паміж Расіяй і Славакіяй звужаецца, хаця мы традыцыйна русафілы, мы прыдумалі ідэю панславізму, гэта абсалютна іншы падыход, чым у палякаў. Каб зразумець адносіны славакаў да Расіі, трэба прачытаць кнігу Людавіта Штура «Славянства і свет будучыні» (1909 г.). Гэта было першае пакаленне палітыкаў, якія прыйшлі з нацыянальнымі праграмамі. Асноўны мэсідж гэтай кнігі — Расія патрэбная нам тут, фактар Расіі ў цэнтры Еўропы дапамагае. На славацкай мове гэтая кніга выйшла толькі ў 1995 годзе, але яна стала настольнай кнігай для пакалення славацкай палітычнай эліты.

Калі Уладзімір Мечыяр праваліўся, то Роберт Фіца падняў карту Расіі проста так. Дзурында ўпершыню паехаў у Расію ў 2004 годзе, хаця быў прэм'ерам ад 1998-га. Цяпер Фіца можа паехаць у Расію, і будзе гаварыць там пра новы славянскі саюз. Але гэта рыторыка, фальклор славацкай знешняй палітыкі. Нашы нацыянальныя інтарэсы — гэта Украіна і Еўрасаюз.

Браціслава — адна з самых маладых сталіц у Еўропе



## Даследчы цэнтр славацкай асацыяцыі па знешняй палітыцы

Арганізацыя ўтварылася ў 1993 годзе групай былых чэхаславацкіх дыпламатаў, якія паходзілі са Славакіі. У асноўным гэты былі людзі, што прыйшлі ў дыпламатыю пасля аксамітнай рэвалюцыі.

Дзяржава мусіць мець знешнюю палітыку. Славакія была новай дзяржавай. Ідэя стварэння Асацыяцыі па знешняй палітыцы палягала ў тым, каб стварыць публічны дыскурс знешняй палітыкі Славакіі. Давесці да грамадзян краіны, чыноўнікаў, што гэта справа не толькі ўладных калідораў. Цяпер эксперты даследчага цэнтру робяць прыкладны аналіз па пытаннях, што маюць непасрэднае дачыненне да знешняй палітыкі Славакіі. Супрацоўнічаюць з МЗС Славакіі.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 2 МАЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія).
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Каробка перадач.
**11.05** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільм.
**15.35** Дэтэктыў «Самы лепшы вечар» (Расія).
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 23.50** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**21.00** Панарама.
**21.45** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія).
**22.45** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Дэтэктыў «Самы лепшы вечар» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Аляксандра Пахмутава. Жанчына, якую спяваюць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Добры дзень».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Лета ваўкоў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Вячэрні Ургант».
**23.50** Асяроддзе пасялення.
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошлая вячэра».
**12.35** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.45** «Дарагая перадача».
**15.00** Фільм «Ехалі два шафёры». Расія, 2001г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошлая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Навошта табе алібі?». Серыял. Заключная серыя.
**00.50** «Дзіўная справа».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца. Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ясі і худзей.
**09.35** Цела чалавека.
**10.10** Меладрама «Усё золата свету…» (Расія). 2-я серыя.
**11.10** Наперад у мінулае.
**11.55** Бухта капітанаў.
**12.40** «Смех з дастаўкай на дом». Канцэртная праграма (Расія).
**13.50** Лірычная камедыя «Вакзал для дваіх» (СССР).
**16.20** «Альбарутэнія».
**16.55** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.10** Тэлебарометр.
**20.15** Беларуская часіна.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Трылер «Вялікае рабаванне» (ЗША-Канада).
**23.20** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).

### Мир

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Кыргызстан у асобах».
**05.20** Праграма «На шашлыкі».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Кыргызстан у асобах».
**09.25** Праграма «Даведнік».
**10.05** Мастацкі фільм «Палын – трава горкая».
**12.20** Дакументальны фільм.
**13.30** Мультсерыял «Крыштальная маска».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Мая радня».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Неба і зямля».
**20.45** Праграма «Кыргызстан у асобах».
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**22.05** Дакументальны фільм.
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**14.45** Круты цюнінг 2008.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**21.40** З чаго гэта зроблена?
**00.50** Адпачываючая нацыя.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**05.40** Адпачываючая нацыя.
**06.35** Як гэта працуе.
**07.00** Круты цюнінг.

### Eurosport

**00.00** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно - Прэв'ю сезону.
**00.45** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**01.15, 10.30, 12.00, 16.00, 16.30, 21.35** Снукер. Чэмпіянат свету. Шэфілд - 1/4 фіналу.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**15.00** Футбол: Еўрагалы.
**19.30** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**19.35** Конны спорт: Кубак свету. Спаборніцтва па скачках.
**20.35** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**20.40** Гольф: Еўрапейскі тур.
**21.10** Гольф: Еўрапейскі тур. Жанчыны.
**21.20** Гольф: Гольф Клуб.
**21.25** Ветразевы спорт: Яхт клуб.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 16 серыя.
**08.35** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** На колах.
**09.20** Рэпартэр.
**09.45** Асабісты капітал.
**10.00** Эксперт.
**10.30** МакраФон: «Рок па вакацыях–1996», канцэрт з удзелам Лявона Вольскага, Касі Камоцкай, гурта «Крама» ды інш.
**11.20** Беларусы ў Польшчы.
**11.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**12.05** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**12.50** «Пра праўду», дак. фільм, 2009 г., Польшча–Расія.
**13.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**13.15** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 16 серыя.
**14.10** Два на два (тэледыскусія).
**14.35** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**15.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.15** Беларусы ў Польшчы.
**16.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял: 16 серыя.
**17.25** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 1.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.40** Навігатар.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Дэкалог, чатыры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**22.50** Два на два (тэледыскусія).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Гарачы каментар.

## 3 МАЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія).
**10.05** Зямельнае пытанне.
**10.35** Да цешчы на бліны.
**11.05** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільм.
**15.45** Дэтэктыў «Забойства ў дачны сезон» (Расія).
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.50** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Калі яе зусім не чакаеш».
**21.00** Панарама.
**21.45** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія).
**22.45** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Дэтэктыў «Забойства ў дачны сезон» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** Прэм'ера. «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Добры дзень».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Лета ваўкоў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Твая тэрыторыя». Фінал.
**00.20** «Наша Белараша».
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Верхаводы». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошлая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Навошта табе алібі?». Серыял. Заключная серыя.
**15.30** «Забойная сіла». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошлая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Пасажыр без багажу». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ясі і худзей.
**09.35** Вышэй за дах.
**10.10** Меладрама «Усё золата свету…» (Расія). 3-я серыя.
**11.10** Жансавет.
**11.45** Страсці па культуры.
**12.30** Цела чалавека.
**13.10** Трылер «Вялікае рабаванне» (ЗША-Канада).
**14.55** Дак. фільм «Зорнае прыцягненне».
**15.55** Ясі і худзей.
**16.30** «Альбарутэнія».
**16.55** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.40** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**23.10** Час футболу.
**23.50** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).

### Мир

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Кыргызстан у асобах».
**05.20** Дак. фільм «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Кыргызстан у асобах».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05** Мастацкі фільм «Камандзір шчаслівага «Шчупака»».
**11.05** Мастацкі фільм «Камандзір шчаслівага «Шчупака»» (Працяг).
**12.20** Дакументальны фільм «Быль і небыль пра маршала Ракасоўскага».
**13.30** Мультсерыял «Крыштальная маска».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Неба і зямля».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**22.05** Дакументальны фільм «Быль і небыль пра маршала Ракасоўскага».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Беларусь сёння».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**14.45** Заезды.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**21.10** Як гэта працуе.
**21.40** З чаго гэта зроблена?
**22.05** Брудная работка.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**02.40** Брудная работка.
**04.35** Як гэта працуе.
**05.00** Круты цюнінг.

### Eurosport

**00.00** Алімпійскі часопіс.
**00.30, 10.30, 14.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - 1/4 фіналу.
**02.15, 10.15, 12.45** Футбол: Еўрагалы.
**09.30** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно - Прэв'ю сезону.
**12.00, 18.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**13.45** Фітнэс.
**15.00, 20.00, 21.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**19.00** Самыя моцныя людзі планеты: Ліга Чэмпіёнаў.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Дэкалог, чатыры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**08.35** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**09.15** Праект «Будучыня».
**09.45** «Школа на санцапёку», серыял.
**10.10** Навігатар.
**10.25** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**11.00** Два на два (тэледыскусія).
**11.25** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 1.
**11.55** Асабісты капітал.
**12.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.35** «Дэкалог, чатыры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**13.30** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**14.15** Праект «Будучыня».
**14.45** «Школа на санцапёку», серыял.
**15.10** Навігатар.
**15.25** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**16.00** Вагон.
**16.05** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 1.
**16.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Вагон.
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 2.
**18.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Эксперт.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.50** «Дзень, калі памёр Тыто», дак. фільм, 2009 г., Сербія.
**22.35** «Палітыканы», серыял: 6 серыя.
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

**Выпуск №4 (68) (красавік)**

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



**ДЫСКУСІЯ**

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ. НОВЫ ВОБРАЗ БЕЛАРУСКАЙ ІДЭІ

Пра беларускі нацыяналізм напісана шмат тэкстаў. Але і ўсе яны разам наўрад ці раскрываюць ягоную адметнасць, мінулае і перспектыву. Многія — як, на думку рэдакцыі, і аўтар прапанаванага артыкула — не праводзілі яскравую рысу паміж нацыяналізмам і «звычайным» патрыятызмам. Тым не менш, без шырокага інтэлектуальнага абмеркавання ісціны ў акрэсленым пытанні — не знайсці. А таму — шчыра заклікаем да дыскусіі...

**Аляксандр ШПАКОЎСКІ**

**На думку каардынатараў глабальнага светапарадку, ліберальныя ўніверсаліі мусяць працаваць і на Беларусі, а ў іншым выпадку краіну чакае шалёнае цкаванне, хвалі бруду і дыскрэдытацыя вобраза.**



З гэтымі з’явамі цяпер сутыкаецца беларуская дзяржава, аднак прапанаваць якасную супрацьвагу альбо альтэрнатыву ліберальнай прапагандзе дзяржаўны ідэалагічны апарат аказаўся няздольны. За асноўны базіс дзяржаўных распрацовак быў узяты курс на захаванне і рэінкарнацыю былой савецкай спадчыны, і вельмі мала ўдзяляецца ўвагі фармаванню адэкватнай сённяшнім рэаліям ідэалогіі, адраджэнню культурніцкага і нацыянальнага чынніка ў жыцці краіны. Савецкая ідэалогія і каштоўнасці выглядаюць анахранізмам у XXI стагоддзі — і без пераасэнсавання, дадаткаў, новых поглядаў і канцэпцый, нягледзячы на ранейшыя поспехі і дасягненні, не жыццяздольныя.

Менавіта таму, выдаткоўваючы вялікія сродкі на распрацоўку дзяржаўнай ідэалогіі і ўтрыманне чыноўнікаў з ідэалагічнай вертыкалі, беларуская дзяржава мае на выхадзе амаль ідэнтычнае заходняму спажывецкае грамадства, а контуры нацыянальнай дзяржаватворчай ідэі дагэтуль у значнай ступені не акрэслены.

Зразумела, што для супрацьстаяння знікненню ў глабальным сусветным працэсе, для забеспячэння выжывання беларускай нацыі і якаснага пераўтварэння дзяржавы павінен адбыцца нацыянальны ўздым, у аснове якога будзе палягаць актуальная мабілізацыйная ідэя, своечасова праведзеная ў масы пасіянарыямі беларускага руху.

Аднак той набор пасылаў, заклікаў і каштоўнасцяў, якім выглядае ідэалогія беларускага нацыяналізму на сённяшнім этапе, аб’ектыўна не адказвае выклікам, запытам і разуменню сучаснага чалавека. Трэба прызнаць, што сучасны «беларускі нацыяналізм» значна адрозніваецца ад таго разумення ідэалогіі нацыяналізму, якую прапануюць правадыры правай думкі Еўропы. Беларускі нацыяналізм спазняецца і затрымліваецца на ўзроўні першай паловы XX стагоддзя. Тэрміналагічны апарат беларускага нацыяналіста па-ранейшаму застаецца замкнуты ў рамках комплекса малога прыгнечанага народа: «ня быць скотам», «людзьмі звацца» і г.д. У сучаснай інтэрпрэтацыі беларускага нацыяналізму пераважаюць жалобныя матывы, звязаныя са здекам, пакутамі, тэрытарыяльнымі стратамі, спробай даказаць уласную ідэнтычнасць і адметнасць ад другіх нацый, перш за ўсё — ад расійцаў.

Беларускі нацыяналізм занадта знешнеарыентаваны і засяроджаны не на ўнутраных чынніках, а на пошуках знешніх ворагаў ці прыяцеляў — ідэя мае яскрава выражаны антырасійскі і адначасова празаходні характар. Гэта выклікана тым, што фармаванне беларускага нацыяналізму як сістэмы поглядаў і каштоўнасцяў адбывалася ў вельмі варожых умовах у супрацьстаянні з шавіністычнымі вялікарасійскімі і вялікапольскімі ідэямі...



Сучасныя сусветныя варункі і сучаснае становішча беларускай нацыі, якая больш за 20 гадоў таму займела ўласную незалежную дзяржаву, вымагае іншых падыходаў і ідэй, іншага вобразу нацыяналізму. Аднак патрэбна канстатаваць, што палітычныя сілы, якія вызнаюць сябе за нацыянальныя, не развіваюцца, а, наадварот, дэградуюць: замест упарадкавання і прасоўвання ўласных ідэй прымаюць у якасці базавых неаліберальныя каштоўнасці, уступаюць у хаўрусы з прадстаўнікамі супрацьлеглых варожых ідэалогій. У сучасных беларускіх умовах фактычнай прыкметай прыналежнасці да кагорты беларускіх нацыяналістаў выступае не палітыка-этычная пазіцыя асобы, а моўны фактар, які далёка не заўсёды азначае ідэалагічную ідэнтычнасць носьбіта да правай ідэі.

Нацыяналістычныя партыі дазволілі сябе зацягнуць у путы ліберальнай палітычнай стратэгіі, стаўшыся марыянеткамі ў руках замежных структураў. Прычым прага замежнікаў і лібералаў да дэмантажа беларускай дзяржавы, атрымання кантроля над яе эканомікай, рэсурсамі, знешняй і ўнутранай палітыкай зразумелыя і тлумачацца згодна з глабальнай ідэалогіяй светаўладкавання. Прысутнасць на гэтым баку нацыяналістаў цалкам алагічная і абсалютна не адпавядае сэнсу здаровай нацыяналістычнай пазіцыі.

Важкім хібам сучаснага нацыяналізму з’яўляецца яго антыдзяржаўная скіраванасць… Такая пазіцыя нагадвае палітычнае самагубства і з’яўляецца непрымальнай для любога палітыка, які імкнецца да атрымання электаральнай папулярнасці і прагне ўлады. А тым больш падобны падыход непрымальны для нацыяналістаў, што апелююць да каштоўнасцяў Нацыі, перавагі грамадскага калектыўнага інтарэсу над асабістым. Для нацыяналіста відавочна, што любая, нават слабая і няякасная, дзяржава лепш, чым яе адсутнасць, таму змаганне нацыяналістаў ва ўсім свеце скіравана не на разбурэнне дзяржаўнай сістэмы, а на якасную змену яе вобраза і сутнасці. Іншая пазіцыя супярэчыць самой сутнасці ідэі нацыяналізму.

Паводле вышэйзначаных тэзісаў відавочна, што сучасны беларускі нацыяналізм спазняецца ў сваім развіцці, а сённяшняя палітычная пазіцыя арганізацый, што дэкларуюць сябе як нацыяналістычныя, далёкая ад разумення ідэі нацыяналізму…

Галоўнымі ворагамі сучаснага нацыяналіста з’яўляюцца не суседзі-еўрапейцы, не рускія людзі і не замежнікі з далёкіх краінаў, а прадстаўнікі ліберальнай таталітарнай ідэалогіі, якая імкліва цягне нашу планету ў багну рэгрэсу, імкнучыся пазбавіць яе выбітных яркіх фарбаў нацыянальных культур. Непрыяцелямі нацыяналізму таксама з’яўляюцца лявацкія радыкалы і шавіністы, што сваімі падманлівымі ідэямі адцягваюць здаровыя сілы грамадстваў ад барацьбы за планетарны прагрэс і развіццё чалавецтва.

Беларускі нацыяналізм вымагае іншага развіцця, новых інтэлектуальных высілкаў, пераасэнсавання дыскурса, прывядзення беларускай правай ідэі ў суадносіны з еўрапейскімі рэаліямі і сучаснымі тэорыямі. Беларускі нацыяналізм у яго новай інтэрпрэтацыі мусіць стаць аб’ядноўваючым фактарам, элементам нацыянальнай мабілізацыі — і такім чынам паслужыць беларускай дзяржаве.

Гэтыя мае тэзы не прэтэндуюць на ролю абсалютнай аксіёмы. Адкрываем пляцоўку для дыскусіі па разуменні сучаснага беларускага нацыяналізму, яго будучыні, грамадскай ролі і карысці ў дзяржаўным развіцці. Разам з калегамі мы абавязкова працягнем працу над фармаваннем новага якаснага вобразу і стылю беларускай нацыянальнай ідэі, што мусіць і абавязкова зойме сваё адпаведнае значнае месца ў правым руху Еўропы.

**Цалкам з артыкулам можна азнаёміцца на http://naviny.by**

ДРУК

# ВЯСНОВЫ «ВЕРАСЕНЬ»

**Выйшаў з друку чарговы нумар літаратурна-мастацкага часопіса «Верасень».**




Шосты нумар атрымаўся па-вясноваму «сакавіты» на паэзію. У ім друкуюцца вершы Дар'і Кабаковай, Паўла Баяркі, Марыі Магдалены Палхоўскай, Багдана Агрэста, Юліі Бажок, Арцёма Сітнікава, Алесі Птушкі, Дзмітрыя Лавіцкага, Юркі Буйнюка, Ігара Канановіча. Паэтычны майстар-клас для маладых творцаў падборкай «Знаёмы дождж» дае Рыгор Сітніца.

Проза прадстаўленая творамі Кацярыны Глухоўскай, Тацціяны Дземідовіч, Міколы Касцюкевіча, Анатоля Бароўскага, Віктара Казько.

У раздзеле «Пераклады» Аксана Данільчык знаёміць чытачоў з постаццю італьянскай паэткі Антоніі Поццы, а Сяргей Панізнік перастварыў па-беларуску вершы ўкраінскай паэткі Аксаны Шалак.

«Крытыку»» ў нумары прадстаўляюць артыкулы Ірыны Хадарэнка, Юнэлі Сальнікавай, Асі Паплаўскай і Алы Петрушкевіч. З літаратурнымі эцюдамі на старонках часопіса выступае Васіль Зуёнак, а Леанід Дранько-Майсюк дзеліцца сваімі запісамі з «Памятнай кніжкі». Аб гісторыі стварэння кнігі «Зведаная зямля» з яе аўтарам Віктарам Раманцовым гутарыць журналіст Марына Яўсейчык. Агляд заходнебеларускай дзіцячай перыёдыкі робіць Арсень Ліс. У артыкуле «Былі тады змеі» Ларыса Раманава аналізуе архетып змея ў фальклорнай прасторы Веткаўшчыны. Крытыкі Тацціяна Мацюхіна і Анатоль Трафімчык рэцэнзуюць новыя зборнікі паэзіі Васіля Жуковіча і Аксаны Данільчык.

У музычным раздзеле «Верасня» сакрэтамі сваёй творчасці з чытачамі дзеліцца «жывая легенда беларускага хіп-хопу» Vinsent. На пытанні музычнага аналітыка Альдоны Мартыненка адказваюць удзельнікі рок-гурта «:B:N:».

Заканчваецца нумар аглядам навінак айчыннай дыскаграфіі, якія па традыцыі робіць вядомы знаўца беларускай музычнай культуры Вітаўт Мартыненка.

Пытайце часопіс «Верасень» на сядзібе ТБМ, у «Акадэмкнізе» і кнігарні «Логвінаў»!

Чытайце яго на старонках Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі kamunikat.org і на сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў lit-bel.org.

Дасылайце свае творы ў «Верасень» на e-mail: verasenchas@gmail.com.

**Рэдакцыя часопіса «Верасень»**

САЮЗ

# КРАСАВІЦКАЕ ПАПАЎНЕННЕ

**12 красавіка адбылося чарговае паседжанне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Яно пачалося з хвіліны маўчання, якой сябры Рады ўшанавалі памяць тэатразнаўцы, доктара мастацтвазнаўства, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоля Сабалеўскага, журналісткі, колішняй намесніцы старшыні ТБМ Ірыны Марачкінай і грамадска-культурнай дзяячкі Арыны Вячоркі.

Затым было абмеркаванне творчасці кандыдатаў на ўступленне ў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў. У выніку тайнага галасавання рашэннем Рады шэрагі старэйшай творчай арганізацыі папоўнілі сем літаратараў. Сярод іх:

**Аўсянікава Тамара Пятроўна.** Нарадзілася 24.05.1949 г. у в. Сяўкі Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. Скончыла філфак БДУ. Працавала настаўніцай, бібліятэкаркай, інжынерам, метадыстам, загадчыкам крамы. Атрымала другую вышэйшую адукацыю эканаміста. Аўтар лекцый для настаўнікаў-філолагаў па тэорыі вершаскладання і аналізе паэтычных твораў, артыкулаў па творчасці Н. Гілевіча і Я. Янішчыц. Піша паэзію і прозу. Аўтар кніг вершаў «Ноты сэрца» (2009), «Лістапад гадоў» (2010), кнігі прозы «Любачка» (2011).

**Булавацкі Міхась Пятровіч.** Нарадзіўся 11.10.1947 г. у в. Восы Глускага р-на Магілёўскай вобл. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, піша вершы, перакладае з расійскай мовы. У 1999 г. выйшла кніга вершаў В. Высоцкага «Я не падману» ў перакладзе М. Булавацкага.

**Варонік Святлана Аркадзьеўна.** Нарадзілася 12.06.1969 г. у в. Кастровічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. Скончыла філфак Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А.С.Пушкіна і аспірантуру. Працуе выкладчыкам. Аўтар шматлікіх навуковых прац, артыкулаў, апавяданняў, вершаў у перыядычным друку і калектыўных зборніках. Перакладае з украінскай і польскай моў.

**Грыб Ян (Іван Іванавіч).** Нарадзіўся 21.11.1936 г. у в. Пагарэльцы Нясвіжскага р-на Мінскай вобл. Скончыў Пагарэльскую сямігодку, рамесную вучэльню г. Чалябінска, БДУ. У 1956-57гг. — курсант, пілот вучэбна-трэніровачнага авіяцыйнага палка. Працаваў на аб'яднанні «Інтэграл», ПТВ «Электроніка», займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю. Друкаваўся ў перыёдыцы. У 2005 г. выдаў зборнік вершаў «На сваёй зямлі».

**Колас Зміцер Георгіевіч.** Нарадзіўся 1.01.1957 г. у Мінску. Скончыў перакладчыцкі факультэт Мінскага інстытута замежных моў. Працаваў перакладчыкам, выкладчыкам МДЛУ, рэдактарам, журналістам. З пачатку 1980-х стала займаецца мастацкім перакладам. З 2004 г. прыватны выдавец. Аўтар каля 150 мастацкіх перакладаў з розных моў, у тым ліку твораў Альбэра Камю, Жана-Поля Сартра, Гі дэ Мапасана, Луі Арагона, Франсуа Рабле, Шарля Бадлера, Рэнэ Дэкарта і іншых замежных аўтараў.

**Украінка Сяргей Сяргеевіч.** Нарадзіўся 25.01.1961 г. у в. Ніканавічы Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл. Скончыў філфак БДУ, аспірантуру ў МДУ імя А.А.Куляшова. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры і журналістыкі ў МДУ імя А.А.Куляшова, будаўніком; цяпер працуе ахоўнікам. Друкуецца з 1977 г., аўтар шматлікіх публікацый вершаў у перыёдыцы, зборніка паэзіі «Маё Купела» (2001 г.).

**Янкута Ганна Валер'еўна.** Нарадзілася 04.09.1984 г. у Гародні. Скончыла філфак БДУ, абараніла магістарскую дысертацыю па творчасці Айн Рэнд. З 2008 г. наведвае перакладчыцкую майстэрню пры Беларускім Калегіюме. Сябра рады інтэрнэт-часопіса «ПрайдзіСвет». Перакладае прозу і паэзію з ангельскай, польскай, нідэрландскай, афрыкаанс, скотс ды іншых моваў. Адзін з перакладчыкаў, рэдактараў і складальнікаў каментароў да тома выбраных твораў Эдгара По «Маска Чырвонае Смерці».

Радай СБП была задаволена заява з просьбай аб аднаўленні ў сябрах творчага аб'яднання паэтэсы **Людмілы Сільновай,** а таксама разгледжаны некаторыя арганізацыйныя пытанні.

ШАХМАТЫ

# ДРУГОЕ «ЗОЛАТА»

**Напрыканцы сакавіка ўжо ў шосты раз адбылося штогадовае першынство Саюза беларускіх пісьменнікаў па шахматах.**



Як і летась, чэмпіёнскі тытул заваяваў паэт Васіль Жуковіч. Гэта ўжо другі ягоны «залаты медаль» за час правядзення турніраў, але ў прызавой тройцы Васіль Аляксеевіч быў штогод, нягледзячы на клопаты па арганізацыі першынстваў. На гэты раз барацьба ў фінальным двубоі выдалася вельмі напружанай, спатрэбілася ажно восем партый, каб вызначыць чэмпіёна, але заключная перамога Васіля Жуковіча расставіла ўсё па сваіх належных месцах.

**Вадзім Жылко**

## ТРАВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы чакаюць сваіх юбілеяў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



03.05.1942 — Марыя Антонаўна Вайцяшонак (Жук),
04.05.1927 — Алена Анішэўская (Польшча),
07.05.1972 — Дзмітрый Дзмітрыевіч Рубанік,
10.05.1942 — Сяргей Сцяпанавіч Панізнік,
12.05.1942 — Анатоль Мікалаевіч Бароўскі,
20.05.1937 — Сымон Вікенцьевіч Барыс,
20.05.1957 — Мікалай Мікалаевіч Кандратаў,
25.05.1952 — Іна Валянцінаўна Зуб.

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

РЭГІЁН

# ЛУНІНЕЧЧЫНА «САМВЫДАТАЎСКАЯ»

**Не прэтэндуючы на «выключнасць» Лунінеччыны, адзначым адну творчую адметнасць гэтага палескага рэгіёна. Высілкамі мясцовых літаратараў ды краязнаўцаў тут склалася значная «бібліятэка» выданняў, якія выходзяць, так бы мовіць, на грамадскіх пачатках, «самвыдатам».**

Агульны іх пералік, пачынаючы з сярэдзіны 1990-х, складае каля дзьвюхсот найменняў. У 2005 годзе, дарэчы, у бібліятэцы Дома літаратараў, куды яшчэ меў доступ Саюз беларускіх пісьменнікаў, па ініцыятыве Вольгі Іпатавай была зладжана прэзентацыя «лунінецкага самвыдата», — прыкладаў падобнай актыўнасці сярод раёнаў Беларусі няшмат...

З таго часу выданняў (звычайна іх наклад — 100 асобнікаў) паболела. Сярод асноўных серый — «Лунінецкая муза» (зборнікі вершаў, прозы, публіцыстыкі, сатыры і гумару мясцовых аўтараў, у тым ліку калектыўныя альманахі), «Лунінецкія сшыткі» (краязнаўчыя зборнікі) і інш. Шмат гадоў выходзіць у Лунінцы і адзіны ў Беларусі друкаваны шахматны бюлетэнь «Альбино». Большасць лунінецкіх выданняў ёсць у Нацыянальнай бібліятэцы, у бібліятэках Берасцейшчыны.

Пэўнае ўяўленне пра змест лунінецкіх «самвыданняў» можа даць кароткая анатацыя некаторых апошніх выпускаў. Сярод іх — «Лунінецкі сшытак №12». На ягоных старонках аўтар праекта Вадзім Жылко ў артыкуле «Расце краязнаўчая змена» робіць традыцыйны агляд здабыткаў лунінецкіх краязнаўцаў за апошні год. Леў Коласаў два свае артыкулы прысвяціў адпаведна Лунінецкай пошце ў пасляваенныя гады і дзейнасці Саюза сельскай моладзі на Лунінеччыне ў 1930-я гады. Васіль Туміловіч пераклаў для «Сшытка» ліст польскага пісьменніка Зыгмунта Красінскага (1812–1859), які тычыцца кажан-гарадоцкага памешчыка Кшыштофа Шчытта. Яўген Хвастоў распавядае аб гісторыі Свята-Пакроўскай царквы ў вёсцы Вялікія Чучавічы. Адзін з матэрыялаў Сцяпана Нефідовіча прысвечаны астранамічным і астралагічным ведам нашых продкаў-палешукоў, другі — азёрам Лунінеччыны, іх узнікненню, сучаснаму стану і назвам...

Бюлетэнь «Вытoк» быў заснаваны ў 2002 годзе. А ў 2007-м пры ўдзеле паэтэсы Ніны Мацяш стаў сумесным выданнем творчага клуба «Лунінецкая муза» і Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выходзіць неперыядычна. Сёлета пабачылі свет два нумары. У № 27 (студзень) змешчаны інфармацыя аб XVI з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў, вытрымкі з рэзалюцый і пастаноў з'езда, віншаванні юбілярам Алесю Каско і Міколу Папеку, нарыс Аляксея Філатава пра Алеся Каско і Міхася Рудкоўскага (сумешчаны з рэцэнзіяй на новую кнігу Алеся Каско «Нічога больш»), вершы Міколы Папекі, Ірыны Ляшкевіч і інш. А сакавіцкі нумар (28) змяшчае інфармацыю Міколы Сянкевіча аб чарговых пасяджэннях абласнога аддзялення СБП, віншаванні з юбілеямі Сяргею Цыплюку, Міколе Сянкевічу, Алене Ігнацюк, рэцэнзію Надзеі Парчук на новую кнігу прозы Сяргея Цыплюка, паведамленні аб уручэнні ў Косаве «Мядовай прэміі-2011» Алесю Зайку, аб выхадзе новай кнігі Алеся Каско «Прыадхінуты небасхіл», эсэ Уладзіміра Арлова пра Ніну Мацяш ды іншыя матэрыялы.

**Віталь Дымаў**

ЦЭНЗУРА

# Іван Лепешаў: «ГОРАЙ БЫЛО ТОЛЬКІ ЗА ЦАРЫЗМАМ»

**Падчас падрыхтоўкі да друку «Слоўніка фразеалагізмаў» Івана Лепешава ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» пільнымі рэдактарамі з яго было выкінута больш за 500 устойлівых выразаў. У «крамольныя» яны трапілі найперш таму, што ў слоўнікавых артыкулах падаваліся са спасылкай на творы «нядобранадзейных» з гледзішча ўлады пісьменнікаў.**



Доктар філалогіі, прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Іван Лепешаў распавёў Міхасю Скоблу ў «Вольнай студыі» «Радыё Свабода», колькі фразеалагізмаў ім апісана і як цэнзураваўся ягоны слоўнік.

***— Спадар Іван, як доўга Вы займаецеся зборам і апісаннем фразеалагізмаў?***

— Фразеалагізмамі я стаў цікавіцца вельмі даўно, яшчэ ў той час, калі працаваў у школе настаўнікам. Вось ужо гадоў пяцьдзясят я рэгулярна чытаю беларускую літаратуру і раблю выпісы. Перачытаў, можна сказаць, усе творы і дасавецкага перыяду, і савецкага, і паслясавецкага. 380 аўтараў перачытана мною, складзена картатэка. У ёй больш за 90 000 картак. На кожны фразеалагізм прыводзяцца некалькі ўжыванняў. У апошнім двухтомавым выданні слоўніка, які выйшаў у свет у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», апісана больш як 7000 фразеалагізмаў.

***— З ім у Вас і ўзніклі праблемы. Якія прэтэнзіі прад'явіла Вам названае выдавецтва?***

— Прэтэнзіі з'явіліся яшчэ на першай стадыі падрыхтоўкі: трэба гэта выкінуць, трэба тое выкінуць. Выдавецтву, найперш яго дырэктару Генадзю Пашкову, не падабаліся некаторыя аўтары, нават народныя пісьменнікі — Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч. Я спрабаваў іх адстойваць, даказваў, што іх нельга выкідаць. Хадзіў да Пашкова, бо ўсе забароны сыходзілі ад яго. Загадчыца рэдакцыі Малей і чатыры рэдактары, якія са мной працавалі, ставіліся да мяне памяркоўна, але мусілі выконваць распараджэнне дырэктара.

***— Якія пісьменнікі ўрэшце былі выкасаваныя з Вашага слоўніка?***

— Я магу іх пералічыць: Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Астравец, Ларыса Геніюш, Сяргей Дубавец, Сяргей Законнікаў, Аляксандар Лукашук, Іван Макаловіч, Вінцэсь Мудроў, Уладзімір Някляеў, Вольга Паўлава, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Міхась Скобла, Масей Сяднёў. 15 асобаў. Апрача таго, у мяне там былі цытаты з розных перыядычных выданняў, з газетаў і часопісаў. То пяць з іх таксама патрапілі пад забарону Пашкова. Гэта часопіс «Дзеяслоў» і газеты «Народная воля», «Наша ніва», «Наша слова», «Свабода» і беластоцкая «Ніва».

***— Чым жа апраўдвалі Пашкоў і яго падначаленыя свае дзеянні?***

— Я спрабаваў яму тлумачыць: «Гэта ж з Уладзіміра Арлова цытата, чаму вы яе выкідаеце, ён жа ў школе праходзіцца, у хрэстаматыях для сярэдняй школы ёсць». А Пашкоў мне адказвае: «Быў у хрэстаматыях, цяпер яго ўжо там няма». Маўляў, трапіў Арлоў у «нячэсныя» пісьменнікі. І пра вас была гаворка таксама. Я адстойваў некалькі цытатаў, узятых з вашых твораў, але Пашкоў заявіў: «Ні ў якім разе — ён жа працуе на «Свабодзе»!» Выкінулі цытаты і з Івана Макаловіча, з яго дэтэктыўнай аповесці, якая была напісана, і я пра гэта казаў Пашкову, яшчэ ў даперабудовачны час, калі Макаловіч быў галоўным рэдактарам газеты «Звязда». Але Пашкоў мне адразу сказаў: «Выкіньце яго, і не будзем размаўляць. Гэта ж намеснік Іосіфа Сярэдзіча, галоўнага рэдактара «Народнай волі»! Таксама некаторыя цытаты з Ніла Гілевіча павыкідалі, хоць і не ўсе. І гэта нанесла вялікую шкоду слоўніку. Разумееце, калі выкінуць дзве цытаты, то фразеалагізм застаецца аголеным, без пацверджання.

***— А якія канкрэтна цытаты Вас прымусілі зняць?***

— Ну, напрыклад, «да белых мядзведзяў». Завезці каго-небудзь да белых мядзведзяў — адправіць у канцэнтрацыйныя лагеры на поўначы або на ўсходзе Расіі. Выкінулі, як быццам і не было ў нас гэтага. «Архіпелаг Гулаг» таксама выкінулі. Хоць на гэты фразеалагізм у мяне былі цытаты з Васіля Быкава, з Рыгора Барадуліна, з Алега Лойкі, з другіх аўтараў, якія пацвярджаюць ужыванне яго ў нашай літаратуры. Выкінулі і выраз «малодшы брат» — беларусы ў адносінах да Расіі і расійцаў. Такое было тлумачэнне фразеалагізму. І ўсе прыклады, пачынаючы з Язэпа Лёсіка, пацвярджалі — шырокаўжывальнага. Я спецыяльна для яго даў ажно чатыры ўжыванні. Усё павыкідалі. Выраз «старэйшы брат» таксама выкінулі з усімі цытатамі. Усяго са слоўніка ў «Беларускай энцыклапедыі» выкінулі больш за 500 цытатаў. Я пасля падлічыў — 56 фразеалагізмаў засталіся аголенымі, без пацверджання іх ужывання. Я тлумачыў гэта Пашкову: так нельга пакідаць, без пацверджання. Што рабіць — здымаць фразеалагізмы?». «Пакідайце так, без цытатаў», — быў адказ. І так яны засталіся без пацверджання.

***— Дык я ўсё ж не зразумеў: з Вашага слоўніка здымаліся «крамольныя» выразы, ці ўвогуле выкасоўваліся ўсе непажаданыя прозвішчы?***

— Думаю, што і тое, і тое рабілася. А часам выдавецтву проста здавалася, што ў той ці іншай цытаце ёсць нешта палітычнае. Скажам, да фразеалагізма «выпростваць спіну» давалася цытата з Сяргея Законнікава: «Пад сатрапаўскім ціскам мяккіх ічыгаў Сталіна, якія з замілаваннем апяваліся ў многіх мастацкіх творах, не толькі нашаму народу цяжка было выпрастаць спіну». Выкінулі. На фразеалагізм «павесіць замок на рот» у мяне было некалькі цытатаў, у тым ліку і з Барадуліна: «Няхай жыве народ / у думцы, згодзе, бунце — / яму замок на рот / павесіць не спрабуйце». Выкінулі. Да выразу «гамбургскі рахунак» давалася цытата з Арлова: «Ці ведаем па гамбургскім рахунку мы самі, дзе гэтая краіна Беларусь? Менавіта краіна, а не месца жыхарства. Ці ўмеем мы ёю ганарыцца?». І гэта выкінулі.

***— Ці маеце Вы намер калі-небудзь перавыдаць свой слоўнік — ужо без цэнзурных скаротаў, вярнуўшы ўсе 500 знятых цытатаў і 15 забароненых аўтараў?***

— Ведаеце, слоўнікі выдаюцца вельмі рэдка. Прыкладна раз на два дзесяцігоддзі, і то, калі ёсць на гэта прычыны, калі слоўнік нашмат дапоўнены. А я ўжо сабраў усе фразеалагізмы, якія ёсць у беларускай літаратурнай мове, і яны мною апісаныя. Шкада толькі, што некаторыя так і засталіся на старонках перыядычных выданняў, не трапілі ў апошні, самы поўны слоўнік. Наўрад ці я паспею яго перавыдаць. Мне ж ужо 88 гадоў.

***— Часам можна пачуць з вуснаў кіраўніка краіны, што ў нас з Расіяй адна родная мова. Ці можа існаваць незалежная Рэспубліка Беларусь без беларускай мовы?***

— Пра гэта не можа быць і гаворкі! Якая ж гэта дзяржава без сваёй мовы? Толькі ў Беларусі можна аплёўваць мову з самых высокіх трыбунаў. Толькі ў Беларусі мову тытульнай нацыі паставілі ў такое ганебнае становішча. І сам кіраўнік краіны, калі выступае, з насмешачкай пра беларускую мову гаворыць. А гледзячы на яго, і падначаленыя так сябе паводзяць. У Гарадзенскім універсітэце ў пачатку 90-х гадоў на беларускае аддзяленне набіралі 125 чалавек, летась — 18, а сёлета — 12. Завочнае аддзяленне зусім скарацілі — няма куды размяркоўваць выпускнікоў, бо школы закрываюцца, месцаў вакантных няма. Цяжка ўявіць, што далей будзе. Здаецца, горш ужо не можа быць.

***— Як Вы лічыце, ці зменіцца што да лепшага ў Беларусі пры гэтай уладзе?***

— Пры гэтай уладзе нічога да лепшага не зменіцца, бо ўлада гэтая вядзе мову на далейшае вынішчэнне. І ўсе чыноўнікі прыкрываюцца: у нас жа дзве дзяржаўныя мовы! Толькі скажы што — у нас жа дзве мовы! У нашым універсітэце ўжо нічога беларускага не засталося, апрача шыльды, якая вісіць на будынку. Раней, калі быў рэктарам Маскевіч, дакументацыя па-беларуску вялася, і Вучоны савет праводзіўся на беларускай мове. А цяпер — усё па-расійску, як быццам мы ўжо жывём мы ў правінцыі Расіі, дзе-небудзь у Смаленску. Не было горшых часоў. Горай было хіба толькі за царызмам.

**Міхась СКОБЛА**

## ПАЛІЦА

### КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА



**Анатоль ВЯРЦІНСКІ. Жыцьмем: вершы і паэмы. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 132 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 21)**

Першы раздзел новай кнігі паэзіі Анатоля Вярцінскага «Жыцьмем» склалі вершы 1997–2011 гадоў, якія, за некаторым выключэннем, не ўваходзілі ў асобныя выданні. Другі раздзел — малавядомыя паэмы «Кэты-мэнэй», «Паэма мора» і «Снег і сонца», напісаныя ў 1970-х.



**Геннадий ЛОПАТИН. Около облака: Книга поэзии. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 220 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 22)**

У зборніку расійскамоўнай паэзіі, які беларускім аўтарам яшчэ класіфікуецца і як «Выбранае для Людмілы», шмат гармоніі, сонца, бэзу, снегу і поўні — усяго таго, што і складае асову паэзіі — прыгажосці.



**Леанід ГАЛУБОВІЧ. З гэтага свету: вершы пасля вершаў. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 108 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 23)**

Гэтая кніга — плён дванаццацігадовага публічнага маўчання паэта. Апублікаваныя пасля ягонага зароку не пісаць больш вершаў тэксты ёсць пазнакамі водгукаў душы на зрухі і праявы сучаснасці і метафарычным аналізам свайго ўнутранага жыцця, а таксама — невынішчальнасці паэзіі.

### ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА



**Васіль БЫКАЎ. Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы, незавершанае, нататнікі за 1957–1972 гады. — «Гарадзенская Бібліятэка», 2012, вып. 15.**

У гэтай кнізе — перадгісторыя і пачатак вялікай Быкаўскай эпапеі. Найбольш раннія творы, якія ніколі раней не друкаваліся (аповесць «Атака», апавяданне «Жалезны камандзір»), незавершаная аўтабіяграфія, запісы з нататнікаў, пераклады. Васіль Быкаў з'ехаў з Гродна ў Мінск у канцы 70-х, паперы, напрацаванае, нарыхтаванае забраў з сабой. Але, як высветлілася, значная частка засталася ў Гродна. Сяргею Шапрану ўдалося знайсці архіў і падрыхтаваць да друку.



**Ларыса ГЕНІЮШ. Лісты з Зэльвы. З эпісталярнай спадчыны (1964–1983). — «Гарадзенская Бібліятэка», 2012, вып. 16.**

У зборнік, які ўклаў Міхась Скобла, увайшлі 420 лістоў, 366 з якіх публікуюцца ўпершыню.

Гэта бескампрамісная ацэнка палітычных падзеяў, літаратурных твораў, людскіх учынкаў.

Выданне багата ілюстраванае ўнікальнымі фотаздымкамі.

ВЕРШЫ

# НАС БАЧЫЦЬ БОГ

Таццяна БЕЛАНОГАЯ



Фота Р. Іздэбскага

## Музыка

*Музыка. Табе трэба цішыня.*
*Ты не можаш быць самотнай,*
*Ты не жалезны кулак.*

*Музыка. Непрыручаны пясок.*
*Табе нельга жыць без волі,*
*А мне нельга без цябе.*

*Музыка. Шмат разоў забівалі цябе.*
*Кожны раз ты — мур.*
*Кожны раз — вочы.*

*Музыка. Для мяне ты лялька*
*І вецер,*
*І імя ў цябе няма.*

*Музыка. У тваіх жылах дождж.*
*У крыві тваёй голас*
*і час бясконцасці.*

*Музыка. Табе іншая цана.*
*Цяпер я разумею, навошта*
*Нараджаецца дзень.*

*Музыка. Ты прыносіш пах вады.*
*І размову з небам, і адказы.*

*Музыка. Ты не чалавек,*
*Але я чакаю цябе*
*З заміраннем сэрца.*

*Музыка.*

## Распавядзі

*Распавядзі,*
*на якой мапе сэрцы мае.*
*Распавядзі,*
*у якіх далонях жывая памяць мая.*
*Распавядзі,*
*як пазнаць у тумане сапраўднага жывога.*
*Распавядзі,*
*ці я на зямлі, ці я на зямлі?*

*Я просты музыка, і я спяваю пра тое,*
*Што я бачу наўкол.*
*Просты музыка мусіць спяваць пра тое,*
*Што ён бачыць наўкол.*

*Распавядзі,*
*дзе ўзяць прытулак для маёй мовы.*
*Распавядзі,*
*што за мёртвы вецер зносіць*
*нашыя імёны.*
*Распавядзі,*
*што за пошасць ды чаму*
*чырвона-зялёны?*
*Распавядзі, ці я на зямлі, ці я на зямлі?*

*Ведай, што*
*з дзяцінства цябе хавалі ад сябе.*
*Ведай, што*
*твая краіна падобна на жаўнера*
*без нагі.*
*Ведай, што*
*кладуць асфальт толькі там, дзе трэба*
*класці.*
*Ведай, што*
*мы не на зямлі, пакуль не на зямлі.*

*Я просты музыка, і я спяваю пра тое,*
*Што я бачу наўкол.*
*Просты музыка мусіць спяваць пра тое,*
*Што ён бачыць наўкол.*

## Бесхрыбетнасць

*Бесхрыбетнасць.*
*Мая краіна хоча зрабіць мяне зверам,*
*Што мімікрыруюць пад тых,*
*Каму ўсё — нуль,*
*Пад тых, каму ўсё — нуль.*
*Ты не адзін.*
*І гэты танны магазін*
*Зачыніцца тады, калі зляціць іх сонца.*
*Я не адна.*
*Са мною побач яна, што точыць камень.*

*Бесхрыбетнасць.*
*Мая краіна хоча, каб я была галоднай.*
*Думала пра сёння — толькі як пра ўчора*
*І як бы з'есці таго, хто за сцяной.*

*Спытай мяне: «Чаму і што?»*
*Я адкажу, што ўсё на шалях.*
*Белы — гэта белы, і чорны — гэта чорны.*
*Я думала так тысячу год таму.*

*Бесхрыбетнасць.*
*Мая краіна хоча зрабіць мяне ворагам.*
*Вывернуць праўду ды Бога і сказаць,*
*што «Гэта так!».*

*Мяне не было, але была мая рука, была мая*
*вада, была мая рака.*
*Мяне не было: была мая мова, была мая*
*моц.*

*Канспірацыя.*
*Я малюю знакі на сэрцы.*
*Унутры мяне жыве, расце белы*
*карбель.*
*Унутры мяне жыве, расце белы*
*карабель.*

*Мая краіна нічога не хоча.*
*Мая краіна нічога не хоча.*

## Вакол сваёй краіны

*Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца.*
*Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца.*

*Зялёнае сэрца, каменныя багі,*
*Ненароджаныя душы, грэх і каты.*
*Гадзіннік жыцця, на жаль,*
*тут маўчыць.*

*Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца.*
*Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца.*
*Тут хтосьці аглух, хтосьці аслеп.*
*Гэта спакойней, чым ваяваць.*
*Я чую ад трэціх нахабны смех.*
*Гэтым наагул напляваць.*

*Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца.*
*Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца.*

*Мы аб'едзем вакол сваёй краіны,*
*І мы будзем маліцца за яе душу.*
*Мы будзем маліцца за яе рукі ў крыві.*

*На 54 шыраце бяжыць ручай,*
*Стаіць турма.*
*На 54 шыраце ляжыць мая мяжа.*

*Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца.*
*Цягнікі. Мы праб'емся, мы даб'емся.*

## Рэспубліка чорна-белага кіно

*Рэжысёр загадаў толькі так, не інакш,*
*Паказаць гэты дзень.*
*Рэжысёр загадаў толькі так, не інакш,*
*Паказаць гэты час.*

*Як заўсёды — стары кіназал.*
*Як заўсёды — холад і гразь.*
*Як заўсёды — ў крыві алкаголь.*
*Мы глядзім кіно ў соты раз.*

*Рэспубліка чорна-белага кіно.*
*У іх экран — у нас ёсць нумар месца.*
*Квіткі за нішто прададзены даўно —*
*У зале — як у турме, а нам някепска.*

*Чорна-белая стужка — наш скарб.*
*Мы паверым у фільм, як у сон.*
*І ніхто не згадае на час,*
*І ніхто не крыкне: «Дамоў!».*

*Мы ўбачым добры фінал*
*На экране, дзе княжыць хлусня.*
*Я чакаю, калі скончыцца фільм,*
*Фільм без сэнсу для жыцця.*

## Дождж і птах

*Залаты ветразь раздзімае тваё вакно.*
*Брудныя рукі сказалі, што тут*
*карысна ўсё.*
*На дарозе дажджы. Над дарогай твой*
*птах.*

*Жыццё без смерці, што трава без вады.*
*Прыгожыя вочы новай вайны.*
*На дарозе дажджы. Над дарогай твой*
*птах.*

*Апошні выдых. Парожні сшытак перада*
*мной.*
*З чаго я ўчора смяялася — заўтра стане*
*слязой.*
*На дарозе дажджы. Над дарогай твой птах.*

*Калі не праз сэрца — выстрал халасты.*
*Калі не назаўсёды — тады проста*
*не было.*
*На дарозе дажджы. Над дарогай твой птах.*

## Чорная ноч

*Гэтай чорнаю ноччу*
*Мне паветрам не дыхаць.*
*Гэтай чорнаю ноччу*
*Мне глядзець у акно.*

*Мае раны ўжо –*
*Стогадовыя дзеці,*
*Мае песні ўжо*
*Састарэлі даўно.*

*Хто паўзе, хто крычыць —*
*Адчыняю вам дзверы.*
*Я, таксама, як вы —*
*Я, таксама, адна.*

*Толькі той чалавек,*
*Што адзіны на свеце,*
*Не пачуе мяне,*
*Не адчуе цяпла.*

## Белая птушка

*Дрэва пачынае гніць з сэрцавіны.*
*Чалавек пачынае гніць са слова.*
*Я прыйду да цябе ў чорную ноч*
*У чорным, каб застацца з табой.*

*А за вакном — вока арла.*
*А за сцяной — вуха лісы.*
*І з майго сэрца вылеціць*
*Белая птушка, каб застацца з табой.*

*Белая птушка апранае, апранае свой*
*голас,*
*Калі ўсе кладуцца спаць.*
*Белая птушка пачынае чытаць казкі.*
*Белая птушка пачынае верыць у тое,*
*Што будзе, што будзе ўсё добра.*

*А на дарогах слупы і любоў.*
*А на дарогах кола і снег.*
*Забаліць сэрца па тых,*
*Каго не ведаю яшчэ.*

*Стой на нагах — гэта формула жыць.*
*Спявай па начах хаця б для сябе.*
*Гэта не тайна, што заўтра пачнецца*
*вайна*
*Па-за межамі кніжак.*

## Каменны горад

*Я так хачу сустрэцца з Вамі*
*Ў каменным горадзе N.*
*Я так хачу сказаць, што зоркі*
*Вышэйшыя за краты гэтых сцен.*

*Толькі нам гараць ліхтары.*
*Толькі нам грае ноч.*
*Толькі нам падае зверху бурштын.*
*Толькі нас бачыць Бог.*

*Мы — гіпс, мы — лёгкае віно.*
*Мы — чыстае сумленне калодзежу і дна.*
*Усё пачнецца, і ўсё ўжо было.*
*Цнатлівая трава, апошняя трава.*

*Толькі нам гараць ліхтары.*
*Толькі нам грае ноч.*
*Толькі нам падае зверху бурштын.*
*Толькі нас бачыць Бог.*

ЗГАДКА

# ГУМАР БЫЎ ЯГОНЫМ КРЭДА

## ДА 100-ГОДДЗЯ ЛЕАНІДА ПРОКШЫ



Леанід Прокша нарадзіўся 6 красавіка 1912 года ў Полацку ў сям'і рабочага. Сям'я была раскідана па розных кутках вялікай краіны, і амаль усюды быў свой родны чалавек: ці брат, ці сястра. I быў у іх розны занятак. Сам Леанід Януаравіч пачынаў сваё самастойнае жыццё настаўнікам (пасля таго, як скончыў Мінскі педтэхнікум) у глухой палескай вёсцы Кустаўніца Нараўлянскага раёна. Там ён сустрэў і моцна пакахаў вясковую дзяўчыну Ірыну. I калі закаханыя ўжо марылі пра вяселле, перад імі ўзніклі непрадбачаныя выпрабаванні...

Ірыніну сям'ю спасцігла страшэнная бяда: яе бацьку як «ворага народа» саслалі на Салаўкі, адкуль ён ужо ніколі не вярнуўся. Рэабілітацыйны ліст у сям'ю прыйшоў толькі ў 1954 годзе.

Калі ж малады настаўнік прынёс у сельскі савет заяву аб рэгістрацыі шлюбу з Ірынай, мясцовы бальшавік-старшыня выразшыў «прамыць яму мазгі».

— Ты камсамолец, Прокша? — спытаў ён.

— Камсамолец, — адказаў настаўнік праз нейкую паўзу, ужо здагадваючыся, на што намякае старшыня.

— А хіба ж ты не ведаеш, чыя яна дачка, гэтая Ірына?

— Сям'ю Адама Казіміравіча я вельмі добра ведаю. А сам ён быў працавітым і сумленным селянінам.

— Ён вораг народа, твой Адам Казіміравіч! I калі ты ажэнішся з яго дачкой, ты сапсуеш сваю кар'еру.

— А калі я не ажанюся, дык сапсую сваё жыццё, — адказаў чыноўніку Леанід Прокша.

Адчуўшы, што маладога настаўніка яму не ўдаецца пераканаць, старшыня выразшыў яго запалохаць: «Глядзі, каб табе не давялося загрымець услед за цесцем».

Каб не «загрымець на Салаўкі», Леаніду Прокшу давялося далей трымацца ад такіх мясцовых нагульнавых. Маладая сям'я пераязджае з Кустаўніцы ў Барысаў, дзе Леанід Януаравіч уладкоўваецца на працу ў школу і рабфак. Забягаючы наперад, заўважым, што на Палессе Леанід Прокша вернецца праз сорак гадоў ужо вядомым пісьменнікам, каб расказаць пра справы сваіх былых сяброў і вучняў, якія будавалі буйнейшы ў рэспубліцы Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Сваю аповесць пісьменнік назаве «За Дабрыцай рэчкай»...

А пакуль у 1935 годзе яго прызываюць на службу ў Чырвоную армію. Служыць ён будзе ў танкавым палку ў Бароўцы пад Лепелем памочнікам камандзіра ўзвода ў лейтэнанта Івана Якубоўскага, будучага маршала Савецкага Саюза, двойчы героя. Тую вайсковую службу яны — маршал і пісьменнік — ніколі не забудуць і яшчэ не раз будуць сустракацца на розных шляхах-дарогах свайго вірлівага жыцця.

Калі грымнула вайна, Леанід Прокша прайшоў па яе розных франтах, як і яго былы камандзір узвода. Яго вайсковыя подзвігі былі адзначаны дванаццаццю ўрадавымі ўзнагародамі.

А яго жонка Ірына з дзвюхгадовай дачкой Людай цудам вырвалася з Мінску, які ўжо гарэў ад нямецкіх бомбаў — і амаль праз месяц з неверагоднымі цяжкасцямі апынулася ў эвакуацыі ў Чалябінскай вобласці. Там яна зведала і голад, і холад. Толькі пасля вызвалення Беларусі сям'я Прокшаў аб'ядналася. З цягам часу нарадзіцца яшчэ дзве дачкі, тры ўнукі і ўнучкі, два праўнукі і праўнучка. I пражывуць у любові і згодзе больш за шэсцьдзесят гадоў...

У сваёй мастацкай дзейнасці Леанід Прокша выбраў гумар. Героямі яго гумарэсак, фельетонаў і памфлетаў стануць лайдакі і пустадомкі, п'яніцы і чыноўнікі-хапугі, якія будуць аб'яднаныя ў зборнік «Зося смяецца» (выйшаў у 1982 годзе). Пакінуў свой след Леанід Прокша і ў дзіцячай літаратуры. Суровыя прыгоды падлеткаў у час вайны знайшлі сваё адлюстраванне ў аповесці «Мальчик в больших башмаках». З цікавасцю была ўспрынята і казка «Хлопчык Бульбінка».

Увогуле, з друкам Леанід Прокша «пасябраваў» яшчэ ў студэнцкія гады. А сталую журналісцкую працу пачаў у 1937 годзе. У пасляваенны час, калі скончылася яго армейская служба, Л. Прокша вяртаецца ў родную Беларусь. I акунаецца ў літаратурную працу. Яго творы друкуюцца на старонках газет «Звязда», «ЛіМ», часопісаў «Полымя», «Вожык» і іншых рэспубліканскіх выданняў.

Тэмы пісьменнік чэрпаў з самога жыцця. Іншым разам Леанід Януаравіч мог падаць жартам звычайны факт ці эпізод. Калі я прывёз яму з Масквы ў якасці падарунка зімовую шапку-каўпак, дык ён пры сустрэчы са знаёмымі на пытанне, дзе набыў такую модную па тым часе шапку, з усмешкай адказваў: «Гэта мяне зяць акаўпачыў». Нават мог выдаць за жарт прыкры факт. Аднойчы з падвала шматпавярховага дома, дзе ён жыў, нехта скраў веласіпед. На наступны дзень пісьменнік-гумарыст павесіў на дзвярах пад'езда наступную аб'яву: «Хто ўзяў у падвале веласіпед, прашу, калі ласка, зайсці ў кватэру № 15 па насос». Аб'ява выклікала ва ўсіх суседзяў смех, але па насос так ніхто і не зайшоў...

Новы творчы этап у жыцці Леаніда Прокшы пачаўся ў 1969 годзе, калі ён быў прызначаны галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». Пра той перыяд у рабоце пісьменніка Уладзімір Мехаў, былы адказны сакратар штотыднёвіка, успамінаў наступнае:

«Быў ён дысцыплінаваным членам партыі. У яго не выклікала сумнення правільнасць яе палітыкі. Ды з прычыны сваёй інтэлігентнасці, шляхетнасці, нязданнасці на подласць шмат што ў «ЛіМе» рабіў не так, як таго чакалі ад яго наменклатурныя пасадаўцы. Напрыклад, Алесь Разанаў быў выключаны з БДУ як палітычна нядобранадзейны. Прыстойныя людзі дапамаглі — скончыў у Брэсце педагагічны, адслужыў належны тэрмін у арміі. I быў узяты Леанідам Януаравічам у штат рэдакцыі. Гнеўная тэлефонная каманда Марцалева, загадчыка аддзела культуры ЦК: зараз жа звольніць! Прокша не звальняе. Прыдумвае хітрамудры ход — і той загад адмяняецца больш высокім партфункцыянерам.

А з'яўленне ў газеце 28 жніўня 1970 года сенсацыйнага артыкула Прокшы «Праўда партызана Сотнікава»! Гэта ж — першае ў СССР добразычлівае слова пра створанае Васілём Быкавым, пасля столькіх гадоў шальмавання ўсяго новага, што нараджалася пад пяром вялікага пісьменніка. Змагары з быкаўскім, як лічылі, прыніжэннем героікі савецкага народа насцеражыліся. Той самы Марцалеў выклікаў аўтара артыкула на водпаведзь:

— Калі вы рэдактар некіруемы, вымушаны будзем памяняць вас на кіруемага.

Толькі хуткі пасля гэтай пагрозы шквал захаплення «Сотнікавым» у маскоўскім друку спрычыніў адтэрміноўку яе выканання.

Але на пенсію Прокшу адправілі адразу ж, як яму стукнула 60...».

Аднак у дзень свайго шасцідзесяцігоддзя Леанід Прокша атрымаў ад Васіля Уладзіміравіча Быкава шчырае віншаванне — на паштоўцы з выявай мора:

«Дарагі Леанід Януаравіч!

Віншую Вас са шчаслівай і значнай датай, вельмі жадаю, каб і далейшае Ваша жыццё было такое празрыстае і спакойнае, як гэтае сіняе мора.

Будзьце здаровы!

Абдымаю.

Васіль Быкаў».

Вячаслаў **ВОЛЬСКІ**

ГУМАРЭСКА

# ПРАС ПАДВЁЎ

Леанід **ПРОКША**

Што б там ні было — 8 Сакавіка я заўсёды з жонкай іду ў тэатр. Апранаюся першы, здымаю з вешалкі жончына паліто і цярпліва чакаю. Час ад часу, канешне, нагадваю:

— Золатца, паспяшайся, а то спознімся...

Жонка мітусіцца па пакоі: то ў люстра зірне, то праверыць яшчэ раз, ці выключыла прас, нервуецца, бо я «стаю над душою, як здань...».

Урэшце, усё, здаецца, у парадку. Падаю ёй паліто. Выходзім. У тэатры займаем месцы згодна купленых білетаў, і тады, калі раскрываецца заслона, пачынаецца хваляванне...

— А прас я выключыла? — як не крыкне жонка.

— Ты ж бегала ў пакой, выключала.

— Гэта я бегала прасаваць насоўку табе — і ўключыла яшчэ раз, а вось ці выключыла...

— Ды, напэўна, выключыла.

— А раптам не выключыла?

Дзіўная памяць у жонкі. Той выпадак, калі я прыйшоў аднойчы дадому ў тры гадзіны начы, дваццаць гадоў помніць, а ці выключыла прас паўгадзіны таму назад — не прыгадае.

— Не хвалюйся, усё будзе ў парадку.

— Ага, у парадку. Бабашынская думала, што выключыла, а выйшла наадварот: уключыла. I кватэра згарэла.

— Успомніла бабка леташні снег. Думай лепш пра спектакль.

— Думай. Табе што: выйшаў з хаты і пра ўсё забыўся...

Я прыкусваю язык, каб з яго не сарвалася што лішняе. Але сёння жаночае свята — трэба цярпець...

— А ўсё ты: «Хутчэй, паспяшайся, а то спознімся». Ніколі спакойна не выйдзеш з хаты.

— Канечне, цяпер я вінаваты, як той Бабашынскі: ён паглядзеў, сказаў — усё ў парадку, а Бабашынская пайшла, «праверыла» і ўключыла прас...

— А што ты мяне раўняеш з Бабашынскай?

— Наадварот, — кажу, — ты не Бабашынская...

Бачу, гамонка выходзіць за рамкі тэатральнага адпачынку. Каб не псаваць святочны настрой, кажу жонцы:

— Ганначка, заставайся, а я паеду праверу.

— От дзякуй, Ванечка!

Ціхенька, сагнуўшыся, каб не закрываць людзям сцэну, я выйшаў з глядзельнай залы і папярнуў у... буфет. Хай згарыць той прас, каб я пайшоў яго правяраць! Так прыемна ў буфеце сядзелася. Да званка прасядзеў, думаючы пра культурнае абслугоўванне ў нашых кафэ і сталовых.

У антракце адшукаў жонку.

— Ну што? — спытала ўсхваляванна.

— Піва свежанькае, халодненькае... — ляпнуў, забыўшыся, куды мяне пасылалі.

— Пры чым тут піва?

— А, ты наконт праса? Дык я яго выключыў... — зноў сказаў не тое, што трэба.

— Няўжо я не выключыла?

Брахаць дык брахаць:

— Накаліўся, аж чырвоны стаў...

— Чула маё сэрца. Гэта калі я тваю насоўку прасавала...

— Цяпер гэта не мае значэння. Пайшлі ў залу.

— А як ты так хутка паспеў злётаць дадому? — крыху апамятаўшыся, спытала жонка.

— Таксі якраз падвярнулася, — адказваю.

Вярнуліся дадому задаволеныя. Але жонцы прас не даваў спакою.

— Гэта ж трэба — не выключыла! Цяпер ужо буду правяраць як належыць...

Надоечы мы зноў былі ў тэатры. Пастаноўка нудная, артысты ігралі вяла. «От бы цяпер у буфет», — падумаў я і зірнуў на жонку.

— Ты выключыла прас?

— Выключыла, — спакойна сказала яна.

— Не, сапраўды, а то мяне нешта як кальнула...

— Не хвалюйся, усё ў парадку.

— Згарыць кватэра, як у Бабашынскіх, тады будзе «усё ў парадку», — адказваю, а ў самога аж гарыць у роце: «Вось каб зараз піўка халодненькага».

— Не згарыць, — усміхаецца жонка.

Бачу, мая спроба пасеяць у яе душы неспакой не дае выніку. Жонка не рэагуе, як выключаны прас...

— Ты ўпэўнена, што выключыла? — пытаю рашуча.

— Цалкам упэўнена, — адказвае яна і паказвае сумку. — Вось...

Я зірнуў у сумку: там ляжаў прас...

УРАЖАННІ

# «ЁН УСЁ ЎМЯШЧАЕ», або Ці ўстрымаўся Алесь Разанаў ад прынцыпа акына?

Яўген БЯЛАСІН

**Гэта нататкі, разгорнутыя з палёў нямецкамоўных тэкстаў беларускага паэта Алеся Разанава. Аўтар правёў па Беларусі серыю прэзентацый сваёй апошняй кнігі «Der Mond denkt, die Sonne sinnt» («Месяц думае, сонца разважае»). Адна з іх прыпала на Брэст і заахвоціла мяне абагуліць ранейшыя імпрэсіі.**

## Чаму «Месяц думае…»?

Кніга «Der Mond denkt, die Sonne sinnt» выйшла па-нямецку ў мінскім выдавецтве «Логвінаў». Яна «зводзіць» у адно цэлае творы двух папярэдніх выданняў — «Wortdichte» і «Der Zweig zeigt dem Baum wohin er wachsen soll» («Галіна паказвае дрэву куды расці»).

Вельмі нямецкі (!) вершаслоў:

**Woche**

In einem Gespann // stehen sieben Ochsen: // ist alles gemacht, // bedacht // und besprochen? — // Die Woche.

Яго падрадкоўнік: «Тыдзень. // Сем валоў стаяць у адной вупражы. // Ці ўсё зроблена, // абдумана, // абмеркавана? — // тыдзень».

Для немца гэта музыкай у вушы, што праз адно слова можна раскрыць нацыянальны характар: грунтоўнасць, рэгламентарызм нават, працавітасць і абачлівасць. Беларускі тэкст рассыпаны, а вось нямецкі збірае ў цэлае і робіць вершам гульня з літарамі-гукамі, заключанымі ў тытульным слове вершаслова: Woche; Ochsen; besprochen.

Карыстаючыся тым самым інвентаром, што і ў беларускамоўных вершасловах, А. Разанаў спрабуе прэпарыраваць чужую для сябе мову (сам ён, у духу Слотэрдайка, кажа: «даць мове паказаць сябе»), — і адкрывае яе ейным носьбітам.

Нямецкамоўныя формы з прэзентаванай кнігі аўтар прынцыпова называе «вортдыхты», адчуваючы сэнсавыя страты пры пераносе. Бо ж нямецкае «Dichter», "Gedicht" зусім не накладваецца на беларускі шэраг «паэт», «верш». Маючы сэнс «ушчытняльнік», «ушчытнене», азначэнні нямецкай мовы бадай што больш дакладныя, бо загрунтаваныя на здольнасці мастацкага вобраза «кампрэсавана» перадаваць аб'ект праз параўнанне, робячы непатрэбнай стадыю апісальнага тлумачэння. Таму, дарэчы, у сучаснай нямецкай мове назоў «Dichter» выцесніў ранейшы тэрмін «Schriftsteller», «пісьменнік», і ўжываецца як для паэтаў, так і для празаікаў. Немцы, так сказаць, навялі фокус — рамеснікі-шрайбікусы асобна, мастакі слова асобна.

Блізкія да «вортдыхт'аў» вершаказы з кнігі «Пчала пачала паломнічаць» (Логвінаў, 2009 г.). Аднак розніца бадай што ёсць. Нямецкая мова трымае аўтара ў больш строгіх рамках, і вортдыхт'ы аднамоўныя і не такія «разбэрсаныя» (маю на ўвазе найперш шматмоўе), як некаторыя вершаказы.

Калі перакладаць «Wortdicht» літаральна, дык найбліжэй будзе «словаверш».

Але ж яшчэ ў 1992 годзе былі «вершаказы». А я дык і наогул назваў бы «гукасловы» або «кшталтагукі»...

## Разанаў — лінгвафіласофскі акын?

…Калі перачытваў «Zeichen…», раптам патрапіў на, магчыма, невыпадковы збег — на старонцы 174 ладнай кнігі… раскашуе зном пад парадкавым нумарам 147! Ці няма тут аўтарскага змыслу?

Наогул, іншым разам карысна быць цынікам. Дзеля поспеху даследавання, а то і справы. Вось нядаўна паведамілі, ды з падтэкстам, з нейкім намёкам: «Мне ўжо 37!!!» Маўляў, табе ж да тройкі два дабаўляць трэба, гэта ж гора нейкае. Ну дык, дзяліся: калі мне хто спачувае, — 57 гэта не 75. І Вы так дзейнічайце — так і кажыце, калі хто намякне, маўляў, застары.

Цудоўным чынам падтрыманы апынаюся акурат зномам 147:

«З гледзішча мастацтва няма «маладых творцаў», гэтаксама як «творцаў сярэдняга веку» або «старых». У яго іншыя карэляцыі, іншыя катэгорыі — эстэтычныя, не дэмаграфічныя».

Заўважу дзве рэчы. Першая факталагічная. Гэта напісаў, паводле класіфікацыі Платона, мужчына дастаткова малады.

Другая. А. Разанаў у сваіх росшуках на сёння яўна паэт малады, бо дае фору ў спрыце многім, хто паверне яго лічбы і тым самым адыме. З тым вяртаюся да гэтай гісторыі са старонкамі. Мяне яны цікавілі адно, каб паказаць чытачу, які верагодна ашалеў ад пра-разанаўскага энтузіязму сваёй настаўніцы белліту, кропку адліку…

Акыны, цюрскамоўныя самадзейныя спевакі, спяваюць пра ўсё, на што трапляе вока. Дзякуючы сінкрэтнасці мастацтва іх творчасць можна ўраўнаважыць з «наіўным жывапісам». З першага погляду, у сваіх вершасловах А. Разанаў такі вось лінгвафіласофскі акын. Але мяркую, гэта падманлівае ўражанне. У мове рассыпана шмат праваказый, аднак паэт выбіральны, яго выбар і водгук не заўсёды чаканыя, а гучанне вершаслова аб'ёмнае — і сапраўды адкрывае новыя глыбіні.

І ўсё ж ёсць, бадай што, у А. Разанава супадзенні з метадамі акынаў. Гэта адбываецца ў вершасловах, дзе аўтар «гукасловіць» у трох і больш мовах, апісваючы іх адной, беларускай метамовай:

**Год**

Год — бог (Gott): ён усё ўмяшчае…

Галоўнае: імпануе гэтая спроба «прадрацъ» дзірку ў матэрыі мовы праз адно-адзінае слова і зазірнуць, паклікаўшы за сабой чытача. Безумоўна, гэта выклік традыцыі, паводле якой мову раскрываюць, нанізваючы на косць слова, нарошчваючы на касцяк вобразу, — ствараючы вакол іх «мяса» сусвету.

Усцешна, што далізмы (тэкст «Der eichene Zaun», «Дубовы плот»), басхізмы / завальнізмы («Der Waldweg», «Лясны шлях»), кафкіянства і эрнсттэадоргофманізм (адпаведна, «Госці» / «Gäste» і «Мяжа» / «Grenzrain»), разам з іншымі трыб'ютамі містыкі, плаўна перайшлі ў гэты — зноў смакую — неперакладальны жанр вершаслова.

Таму не буду аспрэчваць, адкладу да іншай нагоды, зном 216, які абгрунтоўвае магчымасць ствараць пераклады «больш дасканалыя за арыгінал». Пачакаю, калі спадар Разанаў вернецца ў галіну перакладальнага з нейкай даступнай мне для крытыкі працай, а што да вершасловаў у абедзьвюх мовах, то…

То я ўсё ж машынальна паспрабаваў намацаць шлях да перакладу аднаго з іх. Гэты фрагмент дэманструе, што так званыя «тэгі» ідэнтычныя:

**Замак** / Das Schloss

Замак — замок: ён займае ключавое месца ў акрузе і замыкае яе за сабой. / das Schloss ist ein Schloss: es nimmt in der Umgebung eine Schlüsselstelle ein und schließt die Umgebung hinter sich ab.

Аднак ён разамкнёны для злівы, пад якой мокне, для сонечных промняў, для моху, які абляموўвае яго гзымсы, для ластавак, якія ў прахонах яго скляпенняў лепяць гнёзды. Aber es ist aufgemacht für Regengüsse, unter denen es nass wird, für Sonnenstrahlen, für Moos, das seine Gesimse umrandet, für Schwalben, die ihre Nester an die Brüche seiner Gewölbe antun.

Няхай спадар Разанаў мне выбачыць, але нямецкая мова тут больш прыдатная. Па-першае, больш парадаксальная гульня вакол слова das Schloss, якое абазначае і «замак», і «замок». Па-другое, слова «ключ» па-нямецку адной сям'і з «Schloss»: «Schlüssel». Аднак: ніводзін немец такога вершаслова не стварыў!

…У свой час паэт вельмі слушна напісаў: «Крытыка — гэта лоцман. І калі ён адно раздае кампліменты, дык карабель губляе арыентацыю…» (зном 195 са «Знакаў…»). Дастаткова спрэчная думка ў частцы лоцмана (амаль што павадыр сляпому). Але ў другой частцы — быць крытычнаму трэба — поўная згода. Адно крытыка сілкуе, ялей ухвалы засільвае...

Гульня адно з нават неперакладальнымі ўнікаліямі спрычыняе фасеткавасць. У выніку як мінімум два адмоўныя эфекты. Першы — сфакусіраванае ўражанне з папярэдняга абзаца: вершаслова цяжка інструменталізуюцца дзеля пазнання, якое мажліва творцу і чытачу праз інтуіцыю. Другі: метад значна герметызуе сам твор і вымыкае творцу на лязо нажа: трымай баланс!

Якраз гэтыя моманты і правакуюць на паралелі з акынамі. Стылю акынаў іманентная тыпалогія дробнасці. Згадваецца формула самога Разанава са «Знакаў…»: «прымітыўнасць гэта прастата, якая не прайшла стадыю складанасці». Пытанне, бадай што, у тым, ці ўсе вершасловы вытрымліваюць гэты фармат «складанай прастаты».

Мабыць, наробак А. Разанава — гэта філалагічная соль, хлеб для абраных. У любым разе, я пэўны зноў-такі ў двух рэчах: у выключна вершаслоўным свеце мне не будзе хапаць неўлоковай метафізічнай лірыкі навокал; і гэтыя развагі не забяруць у мяне радасці ад новага вершаслова.

## Навуцы прыбыло

Беларускі эксперыментатар стварыў моўныя тэксты, якія стоадсоткава або амаль стоадсоткава аламорфныя, — не маюць аналагаў.

З тэорыі перакладу вядома пра некалькі сістэмных тоеснасцяў, якія твораць аламарфізм моў. Так, каля 50 адсоткаў прымавак і выслоўяў неперакладальныя, г.зн. яны ў гэтай сваёй частцы раўналежныя гульням слоў, якія пры перакладзе даводзіцца апісваць. Гэта значыць, пераклад стратны на тую мадальнасць, якая закладзена ў адмысловым строі выслоўя і губляецца пры апісальнасці.

Відаць, у выпадку вершасловаў пытанне палягае ў тым, раўналежныя яны гульнямоўнаму інвентару моў або моўным лакунам. Як вядома, абодва выпадкі пры перакладзе «лечацца» толькі зноскамі з прыкладным апісаннем.

Мяркую, вершасловы не лакуны — тыя маюць знак «мінус». Гэта хутчэй гульнямоўнасць, але больш высокага ўзроўню, — бадай што, колькасць тут перайшла ў якасць, вершасловы і пераказаць нельга. Застаецца толькі вучыць іншую мову і… даследаваць тэкст на адэкватнасць першакрыніцы…

## Дык «як пальцы рук…»?

У зноме 86, які я ўспрыняў крытычна яшчэ ў «Zeichen…», сфармуляваны істотны для развагаў папярэдняга, «навуковага» абсягу пасыл, які выклікае маю нязгоду. Працытую зном па кнізе 2009 года «Сума немагчымасцяў»:

«Мовы мяжуюць не як плоскасці, а ўзаемапранікаючыся сваімі пазамі і выступамі, як растапыраныя пальцы рук. Яны дапаўняюцца і тлумачацца адна адной».

Здавалася б, мне б хутчэй пакарыстацца момантам і «сперці» на тое перакананне А. Разанава сваю выснову, што вершасловы — гэта абсалютныя моўныя несупадзенні парадку больш высокага за гульнямоўны ўнікаліі.

Не спяшаюся гэта рабіць і сыходжу з таго самага, што і аўтар, — з інтуіцыі. Ды сам аўтар сцвярджае: «…Кожны дыялект мае свой непаўторны твар, свае непаўторныя рысы.» (зном 170, «Zeichen…»).

Меркаванне аб выкарыстанні нейкай мовы як дапаможнай для другой імплікуе магчымасць іерархізацыі моў. Мысліцца ўсё ж, што ўсе мовы самадастатковыя ў іх функцыі апісання дачыненняў носьбіта і свету. Па-другое, вобраз пераплеценасці пальцаў-моў ставае нейкую няясную схему глабальнага брацтва. Думаецца, шматмоўе чалавецтва — вынік прыроднага прынцыпу разнастайнасці, або нават і мутацыі, які забяспечвае развіццё. У прыродзе аднастайнае выраджаецца і памірае (прыкладам, праз інцэст). Манаполія шкодная і ў соцыуме, і нават у такой дакладнай вобласці, як эканоміка…

## Пра вершасловы «тактычным» зномам

Крытык — як камертон, «рэзаніруе» або не. Калі не рэзаніруе, а мусіць — дык гэта ж тое самае, як падазроны пісьменніцкі прынцып «ні дня без радка». Прынцып, які пісьменніка рамяством аб-цяжарыць, і ён ім, незалежна ад гендэру, за-цяжарыць. Таму дазволю сабе такую адэкватную аб'екту разгляда форму, як зном. Паколькі ён мае крытычную прыроду (з'яўляецца рэхам, ценем, адбіткам), назаву яго «крызном».

Крызном1. Разанаўскія вершасловы/Wortdichte, як на вастрыі ляза, трымаюцца на адэкватнасці. Адэкватнасць — гэта опцыя, да якой, з падачы Алеся Разанава, вытанчаецца дыскурс.

Вытанчаецца да заўсёднага пытання інтэлектуала: «Гэта ў полі адэкватнага ці не?». Гэта высокая планка, і ўжо гэта добра.

## «За» прапанову Анатоля Вярцінскага

На брэсцкай прэзентацыі кнігі «Сонца думае, месяц разважае» нехта расказаў, што ў Мінску вядомым паэтам і грамадскім дзеячам Анатолем Вярцінскім была агучана нестандартная прапанова. Як я разумею, агучана ў сілу інэрцыі нязвязанага каліcь пэўнымі ўмовамі дынамічнага руху ў соцыуме. Дык вось, рухавы розум А. Вярцінскага выпрадукаваў наступную прапанову. Калі ўжо беларускі паэт Алесь Разанаў зрабіў такі вялікі ўнёсак у нямецкую мову, што раскрыў яе патаемныя скрыпты многім немцам, дык варта яе, гэтую мову, зрабіць трэцяй дзяржаўнай мовай у Беларусі.

А што? Быў жа час, калі такімі былі і яўрэйская, і польская мовы. Прынамсі, гэта было б адэкватна арыгінальнаму стылю працы Алеся Разанава…

Друкуецца ў рэдакцыйным скароце

ПУНКЦІРЫ

# З ДАЛЕЧЫ Ў БЛІЗІНЮ

Алесь РАЗАНАЎ


Фота www.budzma.org

*
Дождж адышоў:
важчэюць
на ўкропе і на каноплях
кроплі.

*
Займелі бяседу?!.
Абселі
след белыя матылькі.

*
Гром у двары!..
Вісяць
заспетыя просціны
і хусціны.

*
Ведае больш, чым усе?
Сабе
ўсміхаецца прыгажуня.

*
Знікаюць будынкі
і людзі:
будзіць
цягнік пургу.

*
З глузду вылузваюцца?!. —
У лужу
падаюць жалуды.

*
Хіліцца колас
у роздум:
лета
мяняе арыенцір.

*
Сто асалодаў!..
Соты
бароніць ад памыслоты
борць.

*
Глыбокая восень:
уводзіць лес
світанак у адвячорак.

*
Недзе струменіцца:
сквар
слухае прахалоду.

*
Змоўшчыкі!.. —
З кронаў
крычаць вароны:
лісты ляцяць.

*
Рэчка пад лёдам:
мост
чакае сустрэчы —
самотны.

*
Мядовы кірмаш:
з пчалою
чапаю плён.

*
Імгла над лагчынаю:
у вышыні
нябачныя крылы.

*
За тыдзень Вялікдзень —
хвошча
сяброўка вярбою сябра:
хоча яшчэ?!.

*
Клыпае грак —
з раллі
скарб выкалупвае:
пагарэлец.

*
Пад парасонамі:
дождж
просіцца ў суразмоўцы.

*
Туман аблачынай:
ліхтар
рэйкі праводзіць
дакуль магчыма.

*
Студзень на вуліцы:
людзі
спыняюцца з судзінамі
каля студні.

*
Дуб зелянее —
здатны
падлетак становіцца
на галаву.

*
У хмарах пісяг:
сягае
бліскаўка з далечы
ў блізіню.

*
Юная маці:
у немаўляці
вучыцца быць, кім ёсць.

*
Абмытая!..
Мыту
сплачвае ліпе
дождж.

*
Смага — увага:
нябёсы
усмоктваюцца
ў дрыгву.

*
Злавілася?!. —
Плотка
гуляе:
лодку
аблёг лядок.

*
Трэба інакш?
Варона
ў падворку варочае
скошаную траву.

*
Цэлая:
цэгла
ўратоўваецца з руін.

*
Ці ў той бок цячэш? —
Раку
аспрэчвае вецер.

*
Пудзілы — дзівы:
дзік
сам адлюбоўваецца
ад бульбы.

*
Абы-куды
вінавата
падае ліст:
вынятак.

*
Пакінуты — каля плота
употай ляжыць і воблік
хавае снег.

*
Так белы,
а так зялёны:
падбел
знаёміць з сабой нанова.

*
Цыбаты каморнік —
бацян
крокамі мерае
балаціну.

*
Вяселле:
у вэлюм
сняжынкі ўмалёўваюцца
вельмі.

*
Месяц зіхоча:
ноч
утоіцца хоча.

*
Мароз адыходзіць:
з ракой,
лебедзь, спаткаешся
калі-небудзь.

*
Цягнік набірае
разгон —
адлегласць
збягаецца ў песнаспеў.

*
Які ён?!.
Вядзе з кійком
свой век гаспадыня —
у вуліцы папытацца.

*
Пераніцоўваецца:
пругі
у раніцы ад пургі.

*
Ходнік — люстэрка:
у неба
уводзіць дождж.

*
Дыхае спёкай:
ад цмока
студня хавае цуд.

*
Мост залівае:
ў абодва
канцы кудысьці
адводзяцца берагі.

*
Пляц абязлюднелы:
раздае
скалелымі пальцамі ветру
музыку гарманіст.

*
Бачаць айчыну —
цвітуць
яблыня і аблачына.

*
Замкнёнае ў камені:
аб спатканне
крок спатыкаецца
незнарок.

*
Вуліца доўгая.
Дождж
выпытвае: «Хто ты?».

*
Крыніца бруіцца:
мароз
спыняецца з узнагародай.

*
Купаецца —
выкупляе
качка сябе ў ракі.

*
Што з ім
і са мной што?
Сонца
бачыцца ўпершыню.

*
У наледзі:
дзе
еду ў маршрутцы,
у шыбы
дапытваюся наледзь.

*
Рассыпанае —
наваколле
збірае ў бажніцу
звон.

*
Па шчыкалатکі:
увайшла
ў лужу галубка.

*
Волаты:
у грымоты
збіраюцца валуны.

*
Яшчэ не канец:
рунее
салома сама
ў капе.

*
Хто ў лішак?
Што ў брак?
Жабрак
вышуквае месца
каля сабора.

*
Выспелі:
дзічкі
зрываюцца ў ноч —
і знічкі.

*
Снег латкамі:
наўздагад
ручай высцілае
кладку.

*
Вуліцы змоўклыя:
дастаю
з цёмнага неба
словы.

*
Знайшоў і знайшоўся:
чмель
урошчваецца ў дзядоўнік.

*
Снежыцца —
разнасцежваецца
вуліца ў чысціню.

*
Зморaная?!.
На ліхтар
сядае варона:
морак.

*
Неба глыбее:
аблокі
уцягваюць волакам
акіян.

ФРАГМЕНТЫ

# УСЁ БУДЗЕ ЗАБЫТА
## (СТАРОНКІ З НОВАЙ КНІГІ)

Алесь ЖУК

**Ён жыў адзін у снягах. Здарылася так, што свой ад'езд у горад ён адкладваў і адкладваў да позняй восені, а восень, цёплая і пахмурая, доўжылася і доўжылася. І само сабой сталася, што неўпрыкмет перайшла ў зіму. Як аказалася, у зіму сталую, цвёрдую, са снегам і маразамі, не лютымі, а чыстымі роўнымі зімовымі маразамі ў лад з даволі шчодрым снегам, якога не намяло, а роўна насыпала на зямлю.**



Фота У.Крука

Адным словам, Раман Жура не адляцеў у гарадскі вырай, застаўся ў сваім вясковым леціпчы, сярод поля, пры лесе і возеры. Гэтую даволі ладную вясковую хату ён купіў даўно, надбудаваў другі паверх сабе пад майстэрню, тады ж зрабіў усе патрэбныя гаспадарчыя прыбудовы і пабудовы — наблізіў сваё жыллё да гарадской камфортнасці. Праўда, газ да вёскі не быў падведзены і пра цяпло даводзілася клапаціцца самому, што Жура рабіў з задавальненнем — дроў і брыкету было назапашана.

Але майстэрня не стала для мастака Журы левітанаўскім прытулкам: усе лепшыя карціны былі намаляваны ім у гарадской майстэрні. А гэты ўтульны домік у прытачным месцы — пры возеры і пры лесе — найбольш абжывала жонка, спачатку з дзецьмі, а потым і з унукамі. А сам Жура наязджаў сюды найчасцей з кампаніямі парыбачыць, пашашлычыць. У той час жыццё было шумным, стракатым, шырокім і, здавалася, бясконцым, — сапраўдным жыццём.

Пакуль не... Пакуль не прыступы болю ў грудзях, якія пакрысе ўбаўлялі святла ў вачах, прымусілі змірыцца з імі, убавіць і ўсяго ў жыцці.

А потым былі шэранькія сакавіцкія мокрыя дні, якія ён бачыў праз акно палаты, чорныя ад макрэчы галінкі дрэў з каламутнымі буйнымі кропелькамі на іх... Гэта ён запомніў за дзень да аперацыі, на якую ішоў, здавалася, смела і ўпэўнена. Але тады злавіў сябе на тым, што каб быў чалавекам веруючым, то памаліўся б Богу за тое, каб праз дзень яшчэ хоць раз убачыць і гэтакі ж шэранькі дзень, і чорныя галінкі, і кропелькі на іх...

Усё гэта здарылася, і праз нейкія тры тыдні ўжо ў загарадніm доме- прафілакторыі ён сустракаў сонечную вясну, ад якой ажно працінала вочы, прывучаў сябе да ўсё даўжэйшых і даўжэйшых прагулак у лесе, падсачыў дзве бярозкі, і соку ім хапала на дваіх з суседам па палаце.

Пасля Жура ўсміхаўся, калі стараўся глянуць староннім вокам на самога сябе, ужо старога, амаль прайшоўшага праз жыццё чалавека, як гэты чалавек, нібы школьнік, калі выпісваўся з бальніцы, пытаўся ў доктара, — як сябе паводзіць далей. Доктар, малады яшчэ прафесар, які аперыраваў яго, зірнуў усмешліва:

— Жывіце, як і ўсе людзі, Раман Пятровіч, — і дадаў: — Калі адчуеце, што яму цяжка, — дайце адпачыць.

І прытуліў руку да свайго сэрца, даючы зразумець, каму трэба даць адпачыць.

Пра тое, як самае складанае ў жыцці раптам робіцца простым, рэальным, Раман Жура думаў, гуляючы па вясновым лесе, і адчуваў, што на ўсё пачынае глядзець неяк па-іншаму, што ён нібы пераступіў нябачную мяжу ў іншае вымярэнне і толькі прыглядаецца да жыцця і прывыкае жыць...

Да гэтага адчування Жура прывык, яно ўвайшло ў яго і ці не яно не давала, як раней, упэўнена ўзяцца за пэндзаль. Работа не вяла за сабою. Трэба было зразумець нешта новае, што можа зразумець толькі ён, і пасля гэтага брацца за фарбы. Але разуменне не прыходзіла, не давалася.

У часы адзіноты Жура браў аловак, накідаў на паперу эскізы, проста так, бязмэтна, і гэтая бязмэтнасць супакойвала яго, ён падпарадкаваўся ёй, а потым заўважыў, што міжвольна малюе ўспаміны. І ён вырашыў запісваць тое, што ўспаміналася і пра што думалася.

Ён пачаў пісаць усё часцей і часцей, на лістках рукапісу з'яўляліся накіды алоўкам як часткі рукапісу. Новы адлік у жыцці вяртаў ў мінулае, і ці не ён і пакінуў яго ў палях і пры лесе, адкуль усё і пачыналася. Жонка, дарослыя дзеці, якія ўжо жылі сваім жыццём і гадавалі сваіх дзяцей, — усё гэта заставалася ў сучасным яго жыцці, якое цяпер быццам і не датычыла Журы.

Пасляваенныя зімы роўна стаялі снежна і марозна. Часам здараліся зусім снежныя і завейныя. У такія зімы патрэсквалі ад марозу не толькі калы ў плоце, але нават і драўляныя сцены хат. Гэта было ў марозныя ночы, калі зоркі ў небе станавіліся высокія, калючыя і дрыготкія, а поўня зусім да белага вымярзала на марозе, і ад яе і ночы здаваліся белымі. У такія ночы панавала цішыня, якую толькі парушаў кароткі сабачы брэх. І сабакам не хацелася вылазіць з будак на мароз. Здараласяя часам, што сабачы брэх ноччу ўсчынаўся з канца ў канец вёскі. Ён будзіў людзей, і яны ведалі, што да вёскі падыходзіў воўк. Вокны некаторых хат пачыналі свяціцца — запальваліся газавыя лямпы. Можна было пачуць, як грукнулі дзверы. Хто-ніхто з мужчын не ленаваўся адзецца — і ў кажушку выходзіў на двор, закурваў цыгарку з самасаду. І вострыя казытлівы пах расплываўся ў паветры. Тады яшчэ дружней пачыналі брахаць сабакі, і калі іхні брэх не пераходзіў у гвалт, мужчыны ведалі, што воўк яшчэ недзе далекавата ходзіць. Потым сабакі пачыналі пакрысе заціхаць. Патухалі вокны ў хатах, і зноў запаноўвала цішыня. На ўсё гэта холадна і высока глядзела поўня, пад ёй іскрыста ляжаў снег, над ім чарнеліся голлем яблыні і вішні ў садах.

У другой палавіне зімы прыходзілі мяцеліцы. Тады нізка апускалася захмаранае неба, пачыналі гуляць вятры, пад якімі гуло голле вулічных прысадаў. І як з прорвы валіў снег. І суткі, і другія, і трэція... У дзень і ў ноч свістала ветрам па вуглах хат, гуло ў комінах.

Вецер падхопліваў снег з поля і каціў яго да лагчын, ручаін, парослых лазовымі кустамі, зараўноўваў іх і ішоў далей да вёскі.

У такія завейныя ночы барані Божа чалавеку збіцца з дарогі і закружыць у палях. З тых кругоў не было выйсця у завейнай цемры. Адно спадзяванне на каня, які ведаў і адчуваў дарогу. Ім тады не трэба было кіраваць.

Раманава вёска стаяла на краі палёў, доўга выцягнутая ўздоўж рэчкі. І снег ішоў з палёў на вёску, праз яе да рачной поймы. Здавалася, што за вёскай завея і канчалася. Вецер скрозь сады на вуліцу, цераз яе на другі бок вёскі, гнаў снег у лугі, зарослыя купамі лазовых кустоў. Пад снегам знікалі платы, вуліца падымалася нараўне з імі, а потым перамёты падымаліся і вышэй, амаль пад самыя стрэхі хат. Калі завея аціхала, трэба было адкопвацца і самім, хто змог, ды ісці адкопваць суседзяў, потым пракопваць праход у гурбах у рост чалавека, каб можна было дайсці да калодзежа. Санная дарога па вуліцы закрывалася з-за перамётаў да вясны, да сядзіб можна было пад'ехаць толькі з загумення.

У той дзень мяцеліца пачалася толькі з вечара. Але чалавек не ведаў, што яму трэба будзе ў дарогу. А потым пакуль запрагаў каня, насцілаў у сані салому, укладваў у сані жонку, захутваў з галавою кажухом, мяцеліца пачынала разгульвацца. Пакідаць жонку нараджаць дома ён не хацеў, нягледзячы на тое, што да бальніцы было кіламетраў з дзесяць. Яго першую жонку з грудною дачкою расстралялі немцы, жончына дачка, ужо гадавалая, памерла ў партызанах ад тыфу. Першы жончын муж пайшоў на вайну і дадому не вярнуўся. Яны з жонкай хацелі і чакалі першае дзіця, таму мужчына не адважваўся рызыкаваць і вёз жонку ў бальніцу. Дарогу ён ведаў, ваўкоў не баяўся: у кішэні ляжаў трафейны нямецкі вальтэр.

Па вуліцы, яшчэ не замеценай, конь ахвотна бег трушком. Толькі на выездзе з вёскі ўжо пачынала наметаць гурбу, на павароце сані нахіліліся, амаль не асталі лагошай да дарогі, але конь не прыпыніў бегу. Калі чалавек азірнуўся, жонкі ў санях не было. Мацюкнуў, завярнуў каня назад да гурбы, пагрузіў жонку, якая так і ляжала захутанай у кажух, на сані. Далей ужо ехаў стоячы уколінцы, каб адчуваць нагой жончын кажух. Наезджаную за зіму, а таму тупкую, крыху вышэйшую за снег дарогу яшчэ не пачынала заметаць, ды і вецер спрыяў, — быў ззаду, уздоўж дарогі. Конь сам бег трушком, не трэба было і падварушваць ляйчынай. Дарога ішла ад вёскі да вёскі, і чым далей, тым усё слабей былі відаць вясковыя агні: мяцеліца пакрысе пераходзіла ў завею.

Перад сном, ужо лежачы ў ложку, Жура чамусьці ўспомніў расказ бацькоў пра сваё нараджэнне, падумаў, як далёка засталіся тыя пасляваенныя зімы, успомніў і тую вясковую хату, дзе замест падлогі быў цвёрда выбіты гліняны ток і ў якой пад раніцу было халаднавата і не хацелася вылазіць з-пад цяжкае, зробленае на зіму, кудзельнае коўдры, з прыемнасцю адчуў цяпло яго сённяшняга жытла і супакоена заснуў.

...Купіны былі высокія, амаль у яго дзіцячы рост. На іх ужо адскочыла маладзенькая кароткая асака. На купінах сядзелі вялізныя, зялёныя жабы, разяўлялі свае шырокія раты, надзімалі на шчоках вялізныя белыя пухіры, пагрозліва скрыгаталі і гатовы былі вось-вось кінуцца на яго. Ён хацеў уцякаць назад, азірнуўся, але назад дарогі не было: там аднекуль паўсталі чорныя вялізныя страшылішчы. Варушылі доўгімі чорнымі клюшнямі, гатовыя схапіць яго. Здалося, што яны паціху набліжаюцца да купінаў. Ён кінуўся бегчы наперад, уцякаючы і ад гэтых страшных жаб, і ад страшылішчаў, выбег да шырознае з чорнаю тарфяною вадою канавы. Чорная вада пагрозліва віравала. Кладка была вузкая і хісткая. І тады ён моцна заплакаў уголас...

Жура нейкі час ляжаў нерухома. За акном стаяла светлая месячнаю ноч.

Было спакойна і ціха, ніякага жабінага рыпення, ніякіх страшылішчаў. Ён усміхнуўся са свайго сну. Ды гэта быў і не зусім сон, а нейкі крыху фантастычны ўспамін. Рэчку, якая цякла ля вёскі, ён не памятаў, а вось экскаватары, якія чэрпалі мокры вадзяністы торф, запомніліся, як і тыя вялізныя чорныя карчы, якія пасля, вывернутыя магутнымі плугамі з торфу, сохлі па ўсёй пойме. Экскаватары выпраствалі русла рэчкі ў канаву, і з вёскі ўсе, хто мог, ішлі да ўскаламучанай рэчкі — забіраць рыбу. Яна, відаць, задыхалася ў каламуце, усплывала. Запомніўся вялізны, сівы, быццам аброслы мохам, шчупак, які не памяшчаўся ў ночвы.

Ад былое рэчкі-пятлянкі, якая трымала пойму болей чым па кіламетры ў два бакі, засталася толькі чорная глыбокая канава, у якой летам вады было крыху вышэй калена. Ды яшчэ старыцы, парослыя аерам, трыснягом, з лазовымі кустамі па берагах. Вада ў іх за лета прагравалася, і дзятва ўсе летнія дні прападала каля іх. Адна старыца называлася Конская. Пакуль цякла рэчка, у ёй купалі коней. Але пакрысе старыцы зарасталі, мялелі, пакуль зусім не зраўняліся з зямлёю.

Першыя гады рэчка не хацела змірацца з новымі, нягай і высокімі берагамі. Калі прыгравала сонца і пачынаў раставаць снег, рэчка паўставала.

І з палёў, і з замеценых вёсак вадзе была адна дарога — да рэчкі. Лёд на ёй пачынаў падымацца на раўне з берагамі, вада ўспучвала яго, і лёд ламаўся. Вада набірала моц у прамой, як страла, канаве, пераварочвала, ставіла крыгі на дыбкі, і неўзабаве каля моста ўтвараўся ледзяны затор, вада разлівалася па ўсёй пойме. І пасля таго, як у гэты затор уда-

ралася чарговая крыга, драўляны мост цераз рэчку не вытрымліваў. З трэскам крыгі зрывалі насціл са сваяў. Пасля гэтага ўся ледзяная армада пачынала рухацца. Большыя крыгі выбівалі з плыні меншыя ўбакі, на пойму.

Выносіла на пойму і насціл моста. За зіму на ім набівалася ледзяная дарога, мост, змацаваны ільдом, не рассыпаўся, а дрэйфаваў па пойме, як паром з парэнчамі. Мужчыны вылоўлівалі яго на вяроўку, падцягвалі на мелкае месца і ставілі на прыкол, пакуль не скончыцца паводка. Вада спадала, пад сонцам раставаў дарожны набой на масце, ён рассыпаўся на асобныя плахі, якія потым зноў клалі на палі, прымацоўвалі скобамі — да наступнае паводкі.

У падлеткаў на гэты час была даволі небяспечная забава — ездзіць на крыгах. Але вада хутка спадала, некаторыя крыгі заставаліся на берагах канала, паволі раставалі, чорныя і брудныя.

Потым чорнаю стала і зямля абапал рэчкі — яе перааралі, пачалі садзіць кок-сагыз, потым буракі. Сярод гэтае чарнаты толькі жывымі блакітнымі вачыма глядзелі ў неба ацалелыя рачныя старыцы. Выгнутыя сярпом, захінутыя аерам, кіяшнікам, сітнягом, з кусцікамі жаўтавагае мяккае лазы старыцы працягвалі жыць. У спякотныя летнія дні яны рабіліся прыстанішчам для дзяцей. Можна было купацца, ляжаць на траве, гуляць у карты ў дурня ці ў п'яніцу, потым ізноў купацца. І наогул выдумляць розныя забавы. Большыя хлапчукі ў забаву сабе прыдумалі вучыць плаваць малых. Нічога лепшага не дадумаліся, як браць малога, кідаць у ваду на глыбокім, і так да таго часу, пакуль той, малоцячы з крыкам рукамі і нагамі, не пачынаў плыць. Калі ж ішоў пад ваду, яго выкідалі на бераг аддыхацца.

Той спякотны сонечны дзень на ўсё жыццё ўрэзаўся Журу ў памяць. Ён і цяпер угледзеў у блакітным небе прадаўгаватую аблачынку, падобную на пяро гускі. Гэта было пасля таго, як яго ўкінулі ў ваду, а потым яна сышлася чорнаю коўдраю над ім. Аблачынка ў небе была першае, што ён угледзеў, ачнуўшыся на беразе. І зразумеў, што ён быў памёр, і заплакаў, горка і адчайна, потым устаў, пайшоў заплаканы ў канец старыцы, дзе на былой рачной водмелі было намыта пясчанае дно, але і там не палез адразу ў ваду. Доўга сядзеў на беразе. Упершыню ў жыцці ён спалохаўся смерці, і хацелася быць аднаму, не хацелася ў гурт. У гурт ён не пайшоў, а палез у ваду, зайшоў амаль па пояс, адчайна лёг на ваду, замалаціў рукамі і нагамі і адчуў, што наплыў, нейкіх паўтара-два метры, пакуль не дастаў каленцамі да пяску. І ўжо да канца дня, да самае знямогі, ён заходзіў у ваду і плыў да берага, падымаючы ўсё менш пырскаў і ўсё радзей і радзей глытаючы ваду...

І сон, і ўспаміны растрывожылі Журу. Да дня заставалася яшчэ болей, чым дзве гадзіны, але заснуць ужо не выходзіла. Раман устаў, адзеўся, памыў твар над ракавінай спачатку цёплаю, потым халоднаю вадою, уключыў электрачайнік і заварыў чай, зрабіў бутэрброд. Слухаў радыё, пакуль не пачуў прагноз надвор'я. Дзень абяцалі без ападкаў, з невялікім марозікам.

Жура накінуў на плечы дублёнку, усунуў ногі ў прасторныя бітыя валёнкі і выйшаў на ганак пакурыць.

Яшчэ панавала ноч, высока свяціліся зоркі, свяціла скіба белага месяца, і снег у гэтым святле пабліскваў іскрынкамі. І ўладарыла цішыня. Жыццё было недзе далёка, не тут; тут заставалася толькі тое, што, здавалася, было, ёсць і будзе вечна. Але ж вечнага нічога не бывае на зямлі, вечнае там, у недасяжным небе, якое чалавек не ведае і якое чамусьці вабіць яго; ужо тысячы гадоў чалавек углядаецца ў неба, шукае там адгадку — ці загадку? — свайго існавання, і яму здаецца, што зоркі ведаюць, нават штосьці хочуць сказаць, таму калі глядзіш на іх, хочацца глядзець яшчэ і яшчэ.

Жура зябка павёў плячыма, вярнуўся ў хату, зняў дублёнку, пакінуў яе на сябе наапашкі, сеў да стала, падсунуў да сябе папку, разгарнуў яе, і рука сама-сабой пачала штрых за штрыхам рабіць накіды прыгожай, пародзістай ваўчынай морды. Здалося, што гэта морда таго самага, упершыню ўбачанага воўка.

Кароткім снежаньскім днём бацька сабраўся з'ездзіць у лес па лапкі, каб абвязаць на зіму яблынькі ад зайцоў. Першы снег ужо лёг на зямлю, невялікі яшчэ, але ўжо трэба было ехаць у санях.

Раман, адзеты па-зімоваму, у чорную шубку, падпяразаную вузенькай папружкай, у зімовай шапцы з падвязанымі пад бараду вушамі глядзеў, як бацька насцілаў у сані салому, клаў вяроўку, сякеру. Апрануты ён быў у лёгкі вынашаны кажушок, вушы шапківушанкі былі падвязаны ўгору, на нагах яшчэ не валёнкі, а боты.

Ці не тады Раман упершыню пабачыў зблізку і лес, бо да гэтага з вёскі нікуды не выбіраўся. А за вёскай пачыналася поле, якое і канчалася на даляглядзе, сыходзячыся з небам. З другога боку была знаёмая Раману рачная пойма, парослая толькі купкамі лазовых кустоў, за поймай таксама была вёска, за ёю, мабыць, таксама поле.

**Вечнага нічога не бывае на зямлі, вечнае там, у недасяжным небе, якое чалавек не ведае**

Лес для Рамана быў толькі ў кніжцы-маляванцы, там жа, у кніжцы, жылі ў лесе ваўкі, якія чамусьці хадзілі на задніх лапах. Але ж сапраўдныя ваўкі, якія начамі падыходзілі да вёскі, як пра іх расказвалі дарослыя, бегалі на чатырох нагах, як вялікія сабакі, толькі што не ўмелі брахаць.

Гэтакім жа і паўстаў сапраўдны лес, калі за вёскаю, пасля чарговай лагчыны, яны выехалі на пагорак. Ён стаяў яшчэ далекавата, пазначаны востразубай лініяй. Яна пачыналася невысокімі зубчыкамі ад поля. Гэтыя зубчыкі пакрысе падымаліся ўгору, большалі, а надалей вырасталі у высокую няроўную зубчатую сцяну, над якой час ад часу высіліся вышэйшыя пікі-вежы. Сцяна лесу стаяла цёмна, недаступна і нерухома.

Бацька падварушваў каня ляйчынаю, і ён, папырхваючы, бадзёра вёз сані па сыпкім, неглыбокім снезе. Парыпвалі вужы ў хамуце, на паваротах крыху заносіла сані, і калі бацька яшчэ больш прыспешваў каня, сані нават крыху і падскоквалі на невялічкіх гурбанках.




Алесь Жук — рэдактар «ЛіМа». Сяброўскі шарж Васіля Быкава. Публікуецца ўпершыню

З набліжэннем лес падымаўся ўсё вышэй і вышэй, праступаў святлейшаю зелянінаю, і цяпер ужо былі відаць святлейшыя і цямнейшыя мясціны, а потым пачалі вымалёўвацца і асобныя дрэвы. Спачатку вострыя вяршыні ялін, а на іх фоне кучаравыя, крыху святлейшыя хваіны. І чым болей пад'язджалі да лесу, тым далей адступалася яго суцэльная цёмная сцяна. Ужо пачыналі адрозніваць медныя ствалы хваін, бачыліся меншыя дрэвы, якія ад глухой лесавай сцяны быццам рухаліся насустрач, выпраўляючы перад сабою сваіх меншых брацікаў і сястрычак. Цяпер іх можна было распазнаць: каторая хваінка, каторая ялінка. Ялінак было больш. Сярод іх толькі некалькі купак кучаравых хваінак, а ялінкі — чым меншыя ўзростам, то ўсё святлейшыя сваёй зелянінаю, і раслі ўсё радзей і радзей.

У гэты малады ельнік па лесавой дарозе і заехаў бацька, прывязаў каня да большай ялінкі, кінуў яму абярэмак сена.

— Станцыя беразай, каму трэба — вылязай, — аб'явіў ён і падштурхнуў Рамана з саней.

Першае, што захацелася Раману, гэта пераканацца, што ён ужо большы за некаторыя дрэўцы. І па санным следзе ён прайшоў назад, да самага пачатку ельніку. Тут ялінкі былі і зусім маленькія, і наогул пад ельнікам амаль не было яшчэ снегу, кудлачылася шэрая, як кудзеля трава, у якой чысценька зелянеліся лісцікі нейкай расліны.

Неспадзеўкі амаль над самай галавой у Рамана пачулася моцнае стракатанне, здалося, на ўвесь лес. Раман ажно схамянуўся — надта ж нечаканае яно было ў лесавой цішыні, і тут жа ўгледзеў даўгахвостую сароку, якая пераляцела з адной ялінкі на другую.

— І ты тут, гаспадыня. Усіх абзвоньваеш, трашчотка, — дабрадушна адазваўся на сарочын стракат бацька, ідучы з сякеркай у руцэ да вышэйшых дрэўцаў. — Давай, Раман, за работу. А то не ўспеем агледзецца, як і цёмна стане, — скамандаваў бацька. — Бяры і цягай ссечаныя лапкі да саней. Усё хутчэй будзе.

Адносіць ссечаныя лапкі да саней Раман не паспяваў. Тады бацька браў бярэмя лапак, прыносіў, клаў на сані. Раман разагрэўся ад работы, развязаў вушы шапкі і не звяртаў больш увагі на сароку, якая круцілася вакол іх і не пераставала стракатаць, толькі ўжо больш спакойна. Потым бацька ўклаў усе лапкі на сані прывязаў іх вяроўкаю, паверх ускінуў прыхопленую з дому старую дзяружку.

Конь, адчуўшы дарогу дадому, сам паспяшаў, не трэба было падганяць і панукваць. Раман, прытуліўшыся плячыма да бацькі, глядзеў назад, на лес, які паступова аддаляўся. Спачатку не стала відаць маленькіх ёлачак, потым большых, лес паступова пачаў зліваццa ў адну дзіўна зубчатую цёмную сцяну.

Кароткі зімовы дзень канчаўся, і неспадзявана ўжо блізка над зямлёю выглянула чырванаватае надвячоркавае сонца. І пад яго промнямі ажыў белы снег, і скрозь яго сталі відаць абмеценыя ветрам ад снегу шэрыя груды раллі на полі. Ад сонечнага святла і лес зазелянеў сваёй цёмнаю зелянінаю. І Раман, здавалася, адчуў, як запахла мёрзлаю зямлёю, маладым снегам і асабліва лесам. Лесам непаўторна пахлі яловыя галіны, халодны пах іголцы змешваўся з пахам смалы, дзіўным, непрыемным пахам, які Раман чуў упершыню. Як пахне ёлка, ён памятаў, бо яе прыносілі ў хату і ставілі на Новы год, а вось смаловы пах перамагаў і пах халоднае іголцы.

— Глядзі, воўк! — ні то здзівіўся, ні то разгубіўся бацька і паказаў рукою ў поле.

Раман угледзеў воўка адразу. Ён стаяў крыху на пагорку, упаўабарота да іх. Шэрая, цёмная шэрсць, якая святлелася ніжэй бакоў, здавалася, адлівала ў сонечных промнях. Шырокая морда на тоўстай шыі, цяжкі прамы хвост і вострыя вушы — нішто не варухнулася. Бацька было падхапіўся на ногі, махнуў сякеркаю і крыкнуў прывычнае:

— Дзяржы воўка! — потым, схамянуўшыся, упаў на сані, шляганулу каня ляйчынаю.

Раману ўгледзелася, што ў адказ на крык воўк толькі злёгку павёў галавою і ашчэрыў вялікія жоўтыя клыкі, якраз такія, якія былі намаляваны ў кніжцы — і болей не зрабіў ніводнага руху. Ён так і застаўся стаяць на пагорку, пакуль не знік з відавоку, бо бацька паганяў каня ўжо бегам. Потым Раман усім, расказваючы, як яны з бацькам сустрэліся былі з воўкам, гаварыў пра вялікія жаўтаватыя клыкі і не разумеў, чаму дарослыя некалькі разоў перапытваліся пра гэтыя клыкі і ўсміхаліся.

Ужо падросшы Раман зразумеў, што бачыць тыя клыкі ён не мог, — вялікі, шэры, сапраўдны мацёры воўк быў не так і блізка да іх, бо ваўкі наогул не надта любяць сустракацца з чалавекам, хіба што калі бываюць зграяю.

Пазней, ужо падлеткам, ён бачыў яшчэ раз воўка. Яго былі выгналі з зараснікаў канопляў, якіх тады калгас многа сеяў на асушаных тарфяніках. Каноплі былі густыя, вялікія, схованкі хапала не на аднаго воўка. Той воўк уцякаў паўз каноплі да зараснікаў лазняку і быў нейкі цёмна-карычневы, злямчаны ўвесь, нібы выкачаны ў ваўчках, велічынёю з сярэдняга сабаку, і каб не цяжкі, прамы, як палена, хвост ды не тыя ж самыя крыкі людзей «дзя-ржы воўка!», можна было б падумаць, што гэта проста напалоханы сабака.

Такіх ваўкоў, як Раман бачыў упершыню, у вёсцы называлі конскімі, а меншых і рудых — аўчарнікамі. А на самай справе адны былі старыя, мацёрыя ваўкі, а другія, меншыя, маладыя, нават мінулагоднія — пераяркі. Аднак, што могуць нарабіць і яны, Раман памятаў.

Позняй восенню раніцай вёску абляцела навіна: ваўкі ўлезлі ў аўчарню і парэзалі авечак. Вядома ж, да аўчарні прыйшоў хто толькі мог. Раману таксама ўдалося зазірнуць у будыніну: авечкі тоўпіліся ў адным канцы і нават пры людзях яшчэ працягвалі бляяць. А па аўчарні валяліся акрываўленыя авечкі. Мужчыны па адной выцягвалі іх з будыніны. Аўчарня была новая, толькі пабудаваная. Ля сцяны жаўцеўся пясочак — там, дзе ваўкі выграблі падкоп. Ваўкі забралі і знеслі з сабою толькі дзвюх авечак, а нарэзалі каля дзясятка. Дарослыя гаварылі, што так робіць і тхор у куратніку: перадушвае ўсіх курэй, а зносіць толькі адну.

Пазней, ужо будучы і паляўнічым, Раману не даводзілася сустракацца з воўкам ці хаця б бачыць яго здалёк. Таму і застаўся ён у памяці вялікім, шэрым, а не тым куртатым і злямчаным, які ўцякаў прэч пад людскія крыкі, цяжка несучы свой хвост.

Ужо развіднела ў вокнах, і Рамана вярнуў з успамінаў у рэальнасць дзелавы ракаток трактарнага матора. Раман устаў з крэсла, падышоў да акна: па вуліцы весела бег чырвоненькі «Беларус» з касым грэйдзерным нажом наперадзе, лёгка збіваючы снег на абочыну, — чысціў ад снегу вуліцу...

ПАРЦЭЛЫ

# ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Алесь МАКРАЦОЎ



***

*Востраў*
*быцця*
*ў акіяне*
*нябыту...*

***

*Нязгаснае*
*праўдзівае*
*Сонца...*
*Таемны Бог...*

***

*Заходні абрад,*
*усходні...*
*Класічнае*
*хрысціянства?*

***

*Заслона*
*з матэрыі*
*між чалавекам*
*і Богам...*

***

*Ружа*
*любові*
*на сцяблінцы*
*веры...*

***

*Пост —*
*устрыманне...*
*Закрэсліваю*
*пачуцці.*

***

*Няма*
*на Зямлі*
*дзе*
*спыніцца...*

***

*Для народа*
*век*
*што год*
*для чалавека...*

***

*Геній...*
*Работнік,*
*пакліка314аны*
*Богам...*

***

*Высокі*
*крыж*
*несці*
*аддананаму...*

***

*Быкаў...*
*Спісаўся*
*стрыжань*
*жыцця...*

***

*Белая лебедзь...*
*Склаўшы крылы,*
*адчайна ўпала...*
*Нябёсы Янішчыц...*

***

*Зоркі,*
*чуллівы*
*радар...*
*Сэрца...*

***

*Небеларуская*
*на Беларусі дзяржава...*
*Аскалёпак*
*Савецкага Саюза.*

***

*Расійская*
*мова Беларусі...*
*Падробка*
*ці рэпрадукцыя?*

***

*Самадзержац —*
*пад сябе*
*краіну падганяе...*

***

*Пячаткі*
*цывілізацыі...*
*Люкі*
*каналізацыі.*

***

*Плот...*
*Злосны*
*клыкасты*
*дрот...*

***

*Мастакі...*
*Пад каўпаком*
*палітычных*
*спевакоў.*

***

*Колер*
*здаровай крыві —*
*чырвоны.*

*Барвы*
*беларускай культуры —*
*нацыянальныя.*

*Зламысная*
*лейкемія —*
*інтэрнацыянальная.*

***

*Асколак*
*імперыі Зла*
*не выдалены*
*з Еўропы...*

***

*Нацыянальная ідэя*
*беларускага народа:*
*вярнуцца да самога сябе,*
*зрабіцца*
*самім сабой...*



***

*Уганараваныя*
*графаманы...*
*Літаратурная*
*наменклатура...*

***

*Жанчына*
*хоча...*
*Гасподзь*
*не жадае.*

***

*Скваркі*
*ў поліўцы...*
*Вершы*
*ў зборніку.*

***

*Ролю*
*мастака*
*рамеснік*
*іграе...*

***

*Незалежнае выданне:*
*весткі*
*з франтоў*
*грамадзянскай вайны...*

***

*Калючы*
*лагерны дрот...*
*Цярновы вянок*
*апазіцыі...*

***

*Гняздо*
*ругана...*
*на вяршыне*
*ўлады...*

***

*Пырнік*
*на градах —*
*нахабныя*
*графаманы.*

***

*Кантралёрка*
*гастранома:*
*«Не вынесла*
*душа паэта...»*

***

*У пячоры*
*маёй душы*
*Хрыстос*
*нарадзіўся...*

***

*Зламаўся*
*зуб...*
*За жыццё*
*чапляўся.*

***

*Галавешка*
*жыцця...*
*Дыміць*
*успамінамі...*

***

*Сохне*
*язмін...*
*Мамы*
*Не стала.*

***

*Дзень*
*нараджэння:*
*асабісты*
*Новы год...*

***

*Сэрцаў*
*цвіценне...*
*Пасха*
*Хрыстова...*

***

*Пуп*
*зямлі...*
*Малая*
*Радзіма.*

БАЙКІ

# ПУНКТ ПОГЛЯДУ

Іван МЕЛЬНІЧУК



## Прыстасаванка

*У марскіх глыбінях камбала жыла,*
*З дна розныя гнілушкі спажывала,*
*Да сонца, зелені ўсплыць*
*не спрабавала,*
*Хаця, па праўдзе кажучы, магла.*

*І між людзьмі трапляюцца асобы,*
*Якім ціск пастаянны даспадобы.*

## Прыблуда

*Абжора-жук, прыблуда з Каларада,*
*Бесперашкодна шыкаваў на градах.*
*Але хаця бацвіння струшчыў з воз,*
*Болей пазногця так і не узрос.*

*Не з Каларада прымаўка пайшла:*
*З'еш хоць вала, а ўсё адна хвала.*

***

*Аднойчы ля вясковага паркана*
*Камар крыві адведаў наркамана.*
*Набраўшыся ў хмяльным экстазе пылу,*
*Рашыў кусака паваліць кабылу,*
*Ды ўзвіўся хвост цяжкі, і ў момант вока*
*Бы кропля — плямка засталася*
*з крывасмока.*

*Мараль напрошваецца не для камароў:*
*Не псуйце ні сабе, ні іншым кроў.*

## Свой пункт погляду

*Графін паглядваў з зайздрасцю на вазу:*
*Піць не дала нікому і ні разу.*
*А ўсе глядзяць — аж млеюць — на яе.*
*А што за оды кожны ёй пяе...*

*Не мог графін уцяміць аднаго:*
*Раз захапляюцца, то, значыць, ёсць чаго.*

## «Добры» намер

*Адзін дзівак,*
*Каб цёпленька было зімой бычку,*
*Нейк запаліў касцёр у хлеўчуку.*
*Задумка добрая была ў дзівака,*
*Але не стала ні хлява і ні бычка.*

*Бывае — і нярэдка — што дабро*
*Вылазіць неспадзеўна — у рабро.*

## Непасільная задача

*Каб кот Мурлыка, робячы абходы,*
*Мышынай зграі не наносіў шкоды,*
*Параіўшыся, шэрыя рашылі*
*Званок кацяры пачапіць на шыю.*
*Знайшлі званок, і кот драмаў на лаўцы…*
*Не адшукалі толькі выканаўцы.*

*Задумкі добрыя з'яўляюцца — у многіх,*
*Ды не заўсёды ёсць каму*
*«пристроіць ногі».*

## Каб грымнула

*Калісь дзівак пхаў на гару валун.*
*— Навошта? — у яго пыталі.*
*— Спіхну з абрыва — грымне, як пярун,*
*Убачыце, якія будуць хвалі...*

*Ёсць і цяпер такія ў свеце зухі,*
*Што любяць «грымнуць» дзеля паказухі.*

ПАГІНАЦЫЯ

# Міхась Явар: ПАМІЖ БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ І КАХАННЕМ

Гэтая рубрыка будзе знаёміць з творчым і жыццёвым шляхам забытых ці малавядомых беларускіх творцаў. Яе першы герой — Міхась ЯВАР, паэт і грамадскі дзеяч Заходняй Беларусі 20–30-х гадоў мінулага стагоддзя. Вярнуць з небыцця гэтае імя змог заслужаны дзеяч культуры Беларусі, заснавальнік Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-этнаграфічнага музея і яго першы дырэктар Алесь Белакоз. Быў адшуканы дом, дзе жыў паэт, адноўлена яго магіла...




Родная вёска Міхася Карася (Явара) — Мінявічы Мастоўскага раёна — размешчана на высокім беразе Нёмана. Мясціна цудоўнай прыгажосці. Хаты адшнураваліся ў адзін шэраг, а паміж імі і высокім абрывам да ракі — вузенькая вясковая вуліца.

Нарадзіўся Міхась у 1903 годзе. Тут прайшло дзяцінства, а з 1915-га пачалося прымусовае бежанства.

Пачуццё выключнасці родных Мінявічаў не пакідала Міхася Явара ўсё жыццё. Вярнуліся з чужаніцы, а хату, каб не пакідаць немцам, спалілі казакі. У дарозе абрабавалі бальшавікі, а пасля — польскія памежнікі. Рук не было за што зачапіць. Зямлі мала, а сям'я вялікая: маці, малодшы брат Васіль і сёстры Люба ды Вольга.

Міхась пачаў рыбачыць на Нёмане. Хлопец быў змысны, спрытны ды працавіты. Ведаў рыбныя мясціны, вывучыў сакрэты жыравання рыбаў, іх паводзіны ў розныя поры, у рознае надвор'е. Рыбы ён лавіў шмат і прадаваў яе гандлярам ды службоўцам у мястэчку Лунна.

Быў вельмі акуратны, заўсёды сціпла, але акуратна апрануты; меў невялікую адукацыю (тры класы), але многія лічылі яго інтэлігентам. Ён і быў ім: вёў вялікую асветніцка-патрыятычную дзейнасць, пісаў вершы, якія друкаваліся ў часопісе «Шлях моладзі», у беларускіх газетах, арганізоўваў вечары, пастаноўкі п'ес, з песнямі ды танцамі, сам цудоўна спяваў.

Ягоны аднагодак Хведар Макарчук распавядаў мне ў 1967 годзе:

— Аднойчы я на беразе Нёмана лавіў вудай рыбу, а тут выязджае на чоўні Міхась і, як салавей, захапіўся песняй, што і мяне спачатку не заўважыў, а як убачыў, што я яго чую, то збянтэжыўся і вінавата запытаў: «Як, Хведар, ці атрымліваецца ў мяне штоколечы?»

— Што ты, Міхась, ты ж выдатна спяваеш!

А тут па беразе ішлі дзве багатыя дачніцы. Адна з іх прапанавала:

— Заспявай яшчэ — дам залатоўку.

— Дам дзве, каб не спяваць для вас. Нашая песні не прадаюцца.

Міхась за рыбу купіў радыёпрыёмнік. У яго збіралася моладзь і з задавальненнем слухала родную мову з Менску.

Асаблівую актыўнасць Міхась выявіў у грамадоўскія дваццатыя гады, быў актыўным дзеячам Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Ён выдатны прапагандыст, паэт, спявак, карыстаўся вялізным аўтарытэтам у навакольных вёсках.

…Міхася вельмі пакахала настаўніца-полька з вёскі Каўшы. Ён спачуваў ёй, сябраваў з ёю, але кахаў Анісю Мікуліч. Яна была стрыечная сястра маёй мамы і часта прыходзіла да нас. Ад яе яшчэ ў дзяцінстве пачуў пра талент Міхася Явара, пра ягоную дабрыню.

Бацькі Анісі не дазволілі выходзіць замуж за Міхася, бо ў хлопца былі сухоты, якія тады не вылечваліся. Бацька не хацеў, каб дачка засталася ўдавою. Невылечная хвароба, нацыянальная трагедыя беларускага народа давялі маладога патрыёта да самагубства…

Міхась спадзяваўся, што Савецкая Беларусь дапаможа ўз'яднанню ўсяе Беларусі, адраджэнню нашай калісьці агульнай дзяржавы. Тэрор, развязаны камуністамі супраць беларусаў, вельмі балюча ўспрымаўся паэтам…

24 чэрвеня 1933 года быў прыгожы сонечны дзень. Анiся перамыла ў Нёмане зелле для жывёлы і з кошыкам падымалася па сцяжынцы на круты і высокі бераг. Насустрач спускаўся Міхась. Ён дастаў пісталет, узяў дзяўчыну за руку і запытаўся:

— Ці ты хочаш жыць?

— Я баюся смерці, — адказала дзяўчына.

— То жыві сабе, жыві, — ціха і пяшчотна прамовіў Міхась.

Ён падышоў да грушы, што расла на беразе, скінуў каптан, акуратна паклаў яго воддаль і… выстраліў сабе ў грудзі. Ягоная сястра здагадвалася, што брат можа застрэліцца. Яна падкралася да яго і, калі ён страляў, штурханула яго ў локаць. Гэта спрычынілася да таго, што куля не трапіла ў сэрца. Міхася завезлі ў Гарадзенскі шпіталь. Памёр паэт 27 чэрвеня.

Яго хавалі пры вялікім наплыве народу, у самым пачэсным месцы. Было многа прамоў. Аднак прайшоў час — і нават школа забылася пра яго.

Творчая спадчына Міхася Явара амаль уся загінула. Засталося толькі тое, што друкавалася ў заходне-беларускіх часопісах і газетах…

За асабістыя грошы ўдалося заказаць у скульптара Станіслава Быка два бюсты Міхася Явара (адзін ахвяраваны Луненскаму музею ў 1958 годзе, другі ўстаноўлены ў Гудзевіцкім). Тое выклікала шаленства ў партыйнага кіраўніцтва раёна. Была наладжана татальная праверка Гудзевіцкай СШ. У праверцы прымалі ўдзел інспектары і асабіста загадчык РАНА, райкама партыі, райкама камсамола, дырэктары школ. У выніку мне замест суровай вымовы запісалі: «Указать на самовольные действия». Дырэктару школы — строгую вымову, бо дазволіў у школьным памяшканні ўстанавіць «бюст какого-то Явара». Бюст загадана было «из школьного помещения убрать»…

Толькі пры дапамозе беларускіх пісьменнікаў змог захаваць яго ў музеі. Нават на свой страх і рызыку ўдалося паціхеньку паставіць помнік з таўшчэзнага дубу, на якім пад фатаграфіяй і надпісам прымацавана пліта з нержавелай сталі, на якой выбіты словы з паэмы Міхася Явара «За сэрцам»:

*Спі, мучанік,*
*Бо твае грудзі знайшлі спакой сабе.*
*Няхай жа лёгкім пухам будзе*
*Зямелька родная табе,*
*Якую шчыра ты любіў,*
*Дзе шмат страдаў,*
*Ды мала жыў.*

…У 1991 годзе пашчасціла выступаць на сесіі Луненскага мястэчковага савета. Я расказаў дэпутатам пра жыццё Міхася Явара, прачытаў ягоныя вершы… Пасля гэтага дэпутаты адзінагалосна выказаліся за тое, каб назваць вуліцу Энгельса вуліцай Явара.

Старшыня Луненскага сельсавета Валянціна Карповіч зацікавілася лёсам паэта, паставіла на яго магіле каменны помнік, а настаўнік Машталерскай школы Уладзімір Брыцько са сваімі вучнямі пасадзіў ад вуліцы Міхася Явара да Радзівонаўскага леса абапал дарогі срэбралістыя явары.

Вялікае значэнне творчасці Міхася Явара ўжо ў тым, што ягоныя творы ў змрочныя для Беларусі трыццатыя гады вучылі любіць Бацькаўшчыну…

**Алесь БЕЛАКОЗ**

МІХАСЬ ЯВАР

## Зіма

*Ўсё зіма, ды зіма… толькі сцюжа… мароз!*
*Белы снег пад нагамі скрыпіць.*
*Вецер той, што не знае ні гора ні слёз,*
*Злосна свішча, рагоча, гудзіць…*
*Па-над шэрымі стрэхамі песні пяе.*
*Прэцца ў шчыт, круціць снег куралём,*
*Часам стукне ў вакно, крутане, дзьмухане,*
*Зробіць ў коміне цэлы «садом».*
*І наводзіць тугу ён па згубленых днях,*
*Па мінулай шчаслівай вясне!*
*І бадзяк не адзін чуе боль у грудзях*
*І пытае сябе: «Жыць ці не?»*
*Ў хатках шэрых, панурых у гэтакі час,*
*У якіх сум спрадвеку гасцінь,*
*Пачуць можна так часта, так часта не раз:*
*«О, ці трэба, ці варта так жыць?».*
*«Мамка, холадна мне!». «Татка, хлеба ці ёсць?».*
*Вецер дзікі рагоча, гудзіць…*
*О, мой брат! О гаротны, бяздольны мой брат,*
*Хоць зімовы нам віхар гудзіць,*
*Ну чурайся, бяздольны, тых шэранькіх хат!*
*Не сумуй і не плач — будзем жыць!*

*Яна прыйдзе да нас з ясным святлом*
*У вянку з красак нашых палёў,*
*Яна прыйдзе да нас з хараством ды цяплом*
*І сагрэе нядолі сыноў.*
*Яна хутка ўжо йдзе, яна шчасце нясе!*
*Хутка сковы зімовы парве,*
*Бо ж нявечна, мой брат, бо ж нядоўга ўжо, не,*
*На зямлі панаваць злой зіме!*

**Верасень 1932 г.**

## Гукі далёкія

*Гукі далёкія, гукі чароўныя,*
*Ціха-салодкія, мілыя, родныя*
*Песняў тых, з цудных, дзіцячых гадоў!*
*Вас ў адзіноце я чую ізноў.*
*Цуднай мелодыяй сэрца мне грае,*
*Часам і гора і сум праганяе,*
*Гімнам святым вы пяеце ізноў*
*З цуднай краіны дзіцячых гадоў!*
*Віхры халодныя, віхры жыццёвыя,*
*Знішчыць няздольны вас гукі родныя,*
*А песні чужынцаў на роднай зямлі*
*Вас замяніць мне ніяк не змаглі.*
*Гукі далёкія, мілыя, родныя,*
*Грайце ж, магутныя, грайце ж, чароўныя*
*Дзіўнай мелодыяй ў сэрцы маім,*
*Покуль ішчэ струны трымаюцца ў ім.*

**Ліпень-жнівень 1933 г.**

## Вечар

*Вечар. Ціха кругом;*
*Ўжо над родным сялом*
*Гоман сціх, цішыня і спакой,*
*Вецярочак прыціх,*
*І ў садочках пустых*
*Не шапочуць лісткі між сабой.*
*Нёман ціха маўчыць —*
*Усё бяжыць ды бяжыць*

*З краю роднага ў край дзесь другі.*
*Ў развітанні з ім,*
*Краем родным сваім,*
*Ён цалуе свае берагі.*
*Цёмны лес за ракой*
*Не парушыць спакой,*
*Думкі думае ціха свае…*

*Не згадаць іх ніколі, о не!*
*А з гары ўсё блішчыць,*
*І гараць, зіхацяць*
*Ясны зоркі — святыя агні,*
*І чагосьці дрыжаць,*
*І міргаюць, глядзяць, —*
*О таемныя зоркі мае!*
*— Брат даволі ўжо спаць! —*
*Дзесьці ў лесе чуваць;*
*Хтосьці сумна, маркотна пяе —*
*Гукі сумна дрыжаць,*
*Гукі плачуць, ляцяць*
*Па маркотнай маёй старане…*
*— Глянь, кругом барацьба, —*
*Зноў чуваць, а сям'я*
*Цёмных хвояў уторыць яму.*
*Гукі сумна дрыжаць,*
*Скаргай, помстай ляцяць*
*Дзесь далёка ў прастор, вышыню.*
*А за імі стралой*
*Па-над лесам тых хвой,*
*Душа рвецца ў нязведаны край,*
*Лётам птушкі туды*
*Дзе ні слёз, ні нуды,*
*Дзе пануе вясна, вечны май!*
*Да таемных тых зор!*
*Дзе няма той нуды,*
*Крыўды, гора-бяды,*
*Што пануюць на нашай зямлі.*

## Верш, напісаны ў апошні дзень жыцця

*О мой Нёман мілы,*
*О мой Нёман родны,*
*Толькі ты застаўся верным*
*У маім жыцці, у маім каханні,*
*У маім штодзённым цяжкім страданні.*

*Ты не пакрыўдзіў мяне,*
*Ты мне ніколі не здрадзіў,*
*Як здрадзілі людзі.*
*І цяпер вось глядзіш ты*
*Сваім поглядам нямым, чароўным,*
*Як быццам знаеш,*
*Што я ўжо ўсіх і ўсё пакінуў,*
*Што без пары іду ў магілу.*
*А ты, мой дружа,*
*Плыві так доўга,*
*Плыві так вечна.*
*Плюй гадам у вочы,*
*Бо між імі ёсць многа здрайцаў,*
*Здрайцаў праклятых.*
*Яны, каб маглі,*
*То з неба зоры паздымалі б,*
*А твае крышталёвыя воды*
*У зямлю пусцілі б.*

**Укладальнік рубрыкі Язэп ПАЛУБЯТКА**

ЗАПІСЫ

# МІМАЛЁТНЫЯ СУСТРЭЧЫ З ЭТНА-

Павел ЛЯХНОВІЧ



Бывае так: ідзеш па вуліцы, думкамі недзе ў астрале, а тут кідаецца чалавек. «Здароў! А я бачу — ты! Зусім не змяніўся! Гэта ж колькі гадоў не бачыліся! Ну ты як? Жаніўся нарэшце?». А ты ўжо дваццаць гадоў жанаты... І чалавек, здаецца зусім незнаёмы. І чамусьці няёмка сказаць, што незнаёмы. Замест гэтага робіш радасны твар і адказваеш: «Здароў!... Ну ўжо ж так і не змяніўся!... Ой, сапраўды! Колькі гадоў!... Перпендыкулярна... Жа-аніўся...». А чалавек кажа, настаражыўшыся: «Перпендыкулярна? Чаму не паралельна?» — І ты тлумачыш, што ў матэматыцы перпендыкуляр да якой-небудзь паверхні называецца «нармальлю», значыць «перпендыкулярна» і «нармальна» — адно і тое ж. «Пачакайце, пачакайце!» — Кажа чалавек, пераходзячы на «Вы». — «Вы ж Борка... Гэты... Халера... Прозвішча забыўся...Ты глянь... За адной партай сядзелі, а вось — забыўся...». А ты зусім не Борка, а Тадзік, ці Міколка. І — палёгка... Не трэба напружвацца, узгадваць... «Вы памыліліся»...

Я пра тое, што няёмка мне адразу спытаць: «А, пардон, Вы хто?». Ці там: «З кім маю гонар?». І мне гэта здаецца вельмі беларускім... Можа памыляюся, нават хутчэй за ўсё памыляюся, але вось такое, што няёмка спытаць: «Ты хто?» — у маім уяўленні і ёсць галоўная беларуская якасць. Ці галоўная рыса... Ну, хай не галоўная, проста — рыса.

...У Растове я ўпершыню ў жыцці адчуў сябе беларусам. Дагэтуль я толькі ведаў, што я — беларус, а не адчуваў. А тут адчуў. І мне гэтае адчуванне спадабалася.

У Растове, пра які я адзіна ведаў, што гэта сталіца злачынцаў, «Растоў-тата», трэба было перасядаць на другі цягнік. Гэты, з Мінску, ішоў да Растова, а далей трэба было перасесці... Там я пазнаёміўся з трыма хлопцамі. Яны самі падышлі, і я падумаў ужо, што банда... А яны прапанавалі трымацца разам. Пачулі, як я каля касы пытаўся пра цягнік на Баку. Аказалася, што яны таксама ў Баку і таксама ў ваенную вучэльню. Толькі не ў марскую, а агульнавайсковую. Мы пазнаёміліся, і я адразу забыўся, як каго клічуць. А перапытваць саромеўся. Так ехалі двое сутак — я здолеў ні разу не назваць нікога па-імені...

Яны выклікалі ў мяне спачатку недавер, усё ж «Растоў-тата», а потым поўны давер. Да цягніка ў нас было тры гадзіны, і хлопцы прапанавалі «экскурсію» па горадзе. І калі я хаваў валізу ў ячэйку камеры захоўвання, то ўсе дэманстратыўна адвярнуліся. Каб не бачыць, які код я набіраю. Я набраў свой год нараджэння. Хто ж можа адгадаць мой год нараджэння?... Пасля гэтага я стаў ім цалкам давяраць...

Хлопцы спачатку звярнулі ўвагу на мой акцэнт (...а я лічыў, што за год працы ў Мінску расійскай валодаю бездакорна...). «Ты разговариваешь как министр Громыко... Он разве белорус?». Потым пачалі цікавіцца беларускай моваай. «Скажи что-нибудь по-белорусскі...» — « Что сказать?» — «Ну, как по-белорусскі «женщина?» — ...О, жах! Замкнула!.. Уф-ф! «Жанчына»!.. А... «Беседка»? — «Альтанка» — «Здорово! Красіво звучит». А...

Было вельмі-вельмі прыемна адказваць на іх пытанні і адчуваць сябе знаўцам дзвюх моваў... Хлопцы жвава цікавіліся нашымі звычаямі, і гэта выклікала незнаёмае дагэтуль мне задавальненне. Незнаёмае ў тым сэнсе, што цябе пытаюцца, ты адказваеш, і ад гэтага — кайф! Ты аказваешся носьбітам нечага такога, што іншым невядома... А раней ты думаў, што гэта вядома кожнаму проста з прычыны яго існавання...

За свае нядоўгае на той час жыццё я марыў стаць (па чарзе): касманаўтам — бо пра іх увесь час казалі па радыё, афіцэрам — бо ў яго пісталет, артыстам цырку — бо мне вельмі падабаўся Нікулін у «Каўказскай палонніцы».

Жыццё складвалася так, што еxаў я ў ваенна-марскую вучэльню. Як ні круці, выходзіла, што адна з мараў нібыта прыбліжалася да рэалізацыі. Мэта падарожжа пахла газай. Не ў пераносным сэнсе, а ў літаральным. Бакінскае паветра...

Апошні адрэзак шляху да вучэльні праехаў на таксі. Толькі выйшлі з хлопцамі на ганак вакзалу, падскочыў чарнявы, вусаты-насаты дзядзька ў вялізнай кепцы. Адразу прыгадалася «Каўказская палонніца». З усяго, што ён са страшэнным акцэнтам прагергетаў, удалося выцяліць «...военно-морской училищ...». За спіной насача мае спадарожнікі закочвалі вочы і рабілі знакі, каб не згаджаўся, маўляў, шмат здзярэ грошай.

А я вырашыў — калі да пяці рублёў, то ехаць з дзядзькам, калі болей — шукаць грамадскага транспарту. Не можа быць, каб да ваеннай вучэльні не было грамадскага транспарту...

Насаты захацеў дзесяць. Я ў адказ сказаў, што гэта мне не пакішэні, і ў сваю чаргу прапанаваў тры. Ён як вятрак замахаў рукамі і нешта закрычаў, можа: «Гвалт! Рабуюць!». Потым адвёў да пашарпанай «Волгі» і папрасіў пачакаць. Урэшце я паехаў за трояк. Але пасажыраў у таксі набілася ажно сем чалавек. Я сядзеў на каленях у пярэдняга, скурчаны, як эмбрыён...

...Гэта грандыёзна! Таксі выехала за горад, ускараскалася на гару, і ўнізе раптам — глыбокая сінеча, быццам перакуленае неба, толькі нашмат ярчэйшае. А ўдалечыні — раўнюткая лінія між сапраўдным небам і морам, неба тут выгарэлае, бляклае ад спякоты. І на тым сінім, быццам цацачныя — караблікі. І выспа з маяком. І сонца, чырвонае, як велікоднае яйка, усплывае з глыбіняў...

На прахадной мяне забраў марак у нябачанай мной дагэтуль форме з брудна-сіняга брызенту. Толькі блакітны каўнер на плячах і бесказырка сведчылі пра мора. На кашулі злева на грудзях белая стужка з лічбамі. Яны мне асабліва не спадабаліся... У думках я бачыў сябе апранутым інакш. Як у кіно: у белай кашулі, чорных нагавіцах... Не ў такую... хламіду... Ды яшчэ з нумарам, як зэк...

Заспаны мічман спрытна абшнарыў маю валізу і жэстам фокусніка выхапіў з яе сцізорык, ахвяраваны татам на дарогу. Паведаміў, што за такі нож даюць тры гады зняволення. І прамармытаў пад нос: «Мля, уже даже бульбоны с ножамі ходят...». Не шкада было сцізорыка, не вельмі пакрыўдзіўся за «бульбона» — кальнула як вострым гэтае «даже»... Нібыта адсарціравалі і паставілі ў самы кепскі гатунак... Я зразумеў так, што нож пры сабе мець нельга, а беларусу дык зусім нельга... Абсалютна... Больш чым іншым нельга... Але не таму, што ён самы небяспечны, а таму, што... ну... недастойны...

Мічман адвёў мяне ў спортзалу, устаўленую дзьвухпавярховымі ложкамі. Пра іх я чуў ад «дэмбеляў», але бачыў першы раз. На ложках валяліся апранутыя абітурыенты. Пасунуліся і растлумачылі, што мы ўсе чакаем размеркавання ў абітурыенцкія роты, а калі гэта адбудзецца — невядома. Але не раней сняданку.

Я выслізнуў з памяшкання, пералез праз высокую мураваную сцяну і накіраваўся да мора. Яно было побач, адразу за пяціпавярховымі дамамі. Бераг аказаўся топкім, смярдзючым, з чорнай цягучай граззю. Я тыцнуўся пару разоў, убіўся ў балота, заквэцаў туфлі і пайшоў шукаць добрай дарогі. Тут жа павінна быць добрая дарога!

Жанчына ў дварах пяціпавярховак, прыязна ўсміхаючыся, паказала накірунак, і я пабег. Трэба было спяшацца. Мічман папярэдзіў: за «самаволку» адразу накіроўваюць дадому. Дадому хацелася, але хацелася і пераменаў у жыцці. А больш за ўсё хацелася вучыцца.

Захэкаўшыся, выбег на мыс, да пляжу, абгароджанага гэткай жа сцяной, як і вучэльня, толькі ніжэйшай. Над уваходам вісеў кавалак фанеры з незнаёмым словам «Солярий», побач нехта крэйдай накрэмзаў «с мазутом»...

Першае ў жыцці знаёмства з морам не сталася прыемным. Кінуўся ў ваду і паплыў. Тэарэтычна ведаў, што вада ў моры салёная, а гэтым разам забыўся. Быў усхваляваны, і забыўся... І калі горка-салёная, з вясёлковай стужкай нафты, вада трапіла ў рот, мяне ледзьве не званітавала. Ад нечаканасці.

А яшчэ мора пахла... У кніжках пра мора пішуць, што яно пахне «водарасцямі і азонам». І падразумяваецца, што гэта... ну... цудоўны пах! Нібы парфума, ці нешта такое...

Адзін мой знаёмы любіў пах кароўніка. «Дзяцінствам пахне...» — казаў і закочваў вочы... Так што каму — як... Аднаму падабаецца свіная грудзінка, а іншаму — паэзія Васіля Быкава... Мне асабіста пах «азону і водарасцяў» не спадабаўся. І потым, як прывык, усё роўна не так, каб надта... Навучыўся не заўважаць...

Яшчэ адну выгаду з маёй беларускасці падказаў абітурыентазербайджанец, сусед па ложку. Сказаў, што «нацыянальныя кадры» маюць права на іспыце па расійскай пісаць пераказ (а я па яго вызначэнні быў менавіта «нацыянальным кадрам», бо скончыў беларускую школу). Я тут жа заявіў старшыне роты пра свае нацыянальныя правы...

...Нядаўна гарэлку «Бульбашъ» бачыў у краме. Берасцейскай, здаецца вытворчасці! Так балюча стала! Ну што мы за людзі? Самі сябе... Вось каб хто ў вочы азербайджанца «чуркай» абазваў — паглядзеў бы я... Альбо ў Расіі гарэлку «Кацап» выпускаць пачалі... Думаю, такое б паднялося! А ў нас можна... Ніхто нават не мыркнуў... Так што няма дзіва, калі мічман сказаў: «...нават бульбашы з нажамі...» — прывык да нашай бездапаможнасці, а тут — во... І здзівіўся...

Вось каб усе з нажамі, ды за абразу — двубой. Паасцерагліся б...

Самі вінаваты...

У час падрыхтоўкі да іспытаў канчаткова ўпэўніўся ў беларускай нацыянальнай тоеснасці. Рыхтуем фізіку, сусед просіць падручнік, кідаю яму на ложак. Малюнкі на вокладках тады былі аднолькавыя на рознамоўных падручніках. Ад Брэста да Курылаў! У нас «Фізіка», у РСФСР «Физика». Вокладкі і змест ідэнтычныя. Ілюстрацыі таксама.

Разгортвае той падручнік, і раве: «Что ты мне дал!? Тут же нічерта не понятно!».

От я тады закайфаваў! Я ж быў упэўнены, што гэтак жа, як я лёгка разумею расійскі тэкст, расеец зразумее беларускі. Дзяўблі нам увесь час пра роднасць, пра адзіныя карэнні... Ды і цяпер дзяўбуць — што мы з расійцамі нібыта адзін народ...

Фізіку таксама на пяцёрку здаў. Думаю — і тут беларускасць дапамагла. Дакладней — нярускасць.

Прымаў фізіку ці то азербайджанец, ці то армянін. Тады армян у Баку шмат жыло, цэлы жылы раён нават быў, «Арменікент». Я іх адрозніваць па тыпу твару і акцэнту не ўмеў яшчэ...

Выцягваю білет, там пытанне па оптыцы. Малюю схему ўвогнутага люстэрка, промні, уяўнае адлюстраванне. А як па-расейску гэта «ўяўнае» — я не ведаю. Ерунда — думаю — сваімі словамі апішу. Так і зрабіў: «Это ізображеніе — я не знаю как будет по-русскі — ну... не настоящее, что-лі..., по-нашему “ўяўнае” — значіт, «в нашем представленіі»...». Выкладчык ад задавальнення ажно рукі на грудзях склаў: «Мнімое... Вам пять баллов!». Упадабаў што «инородец»?

Паступіў. Выдалі хламіды з сіняй парусіны, гэта аказалася рабочае адзенне, роба. Нагавіцы дзіўнай канструкцыі, сам правільна надзець не здолеў, паказалі. Каўнер блакітны з трыма белымі палоскамі па краі, гюйс. Хоць потым аказалася, што гюйс — гэта зусім іншае. Бесказыркі — «бескі», чаравікі — «гады», шкарпэткі — «карасі». Слоўцы новыя хутка прыжываліся. Яны нас ставілі ў нейкае такое становішча... Асабняком... Выдзялялі ў касту. І нам гэта вельмі падабалася.

...Увечары бацькам ліст напісаў. Каб не чакалі да наступнага года...

...Першыя тры курсы ўвесь час хацелася дадому, спаць і есці...

...На чацвёртым хацелася хутчэй атрымаць лейтэнанцкія пагоны...

# МАРСКІМ ПЕЙЗАЖАМ

...На пятым — каб час затармазіўся. Зноў, як пры паступленні, было трывожна.

Пасля першага курса нас завезлі ў Севастопаль і там месяц пратрымалі на атрылерыйскім крэйсеры «Адмірал Ушакоў». Потым перакінулі на два тыдні ў Камышовую бухту, у марскую пяхоту. А ў нас пасля крэйсера задніцы па ватэрлінію ракушкамі аброслыя... І нехта з курсантаў вякнуў з шыхта на старлея-марпеха, што праводзіў з намі заняткі — «Сапог!». Старлей парыраваў: «Бот заўсёды вышэй чаравіка»... Шыхт завыў, выражаючы непавагу... Старлей супакоіў нас кросам па крымскіх камянях... Усяго кіламетраў пяць. Нам хапіла... Больш чапляцца з марпехамі ніхто не рызыкаваў...

Сваім будучым абаронцам дзяржава давала грошай... Першакурснікам — тры рублі восемдзесят капеек штомесяц. Іх хапала на тры паходы ў «Акіян» — курсантскую кавярню. Бралі грамаў трыста кілбасы з часночным пахам — «сабачай радасці», грамаў сто шэрбету — усходняй слодычы, бляшанку «згушчонкі», бутэльку «Бадамлы» — мярзотнай на смак мінералкі, хлеба-«чорэку»... І ўжо на вячэру не ішлі... У страўніку было цяжка...

У сярэдзіне васьмідзясятых на Паўночным флоце ўзляцеў у паветра флоцкі арсенал, што быў размешчаны ля губы Акольная, недалёка ад Севераморска. Я назіраў гэтае відовішча на ўласныя вочы з чатырнаццаці кіламетраў. Было падобна на ядзерны «грыб». Пастаяў з афіцэрамі, пажартаваў наконт вайны і пайшоў «у сям'ю»... Праўда, праз гадзіну выклікалі па трывозе... Праз нейкі час пайшла па флоце байка, што нібыта гэбэшнікі ліст матроса перахапілі. Матрос да таго выбуху — ніякага дачынення. Але бацькам напісаў, што гэта з-за яго, што каб у турму не сесці, трэба пракурору хабар даць. І колькі там тысячаў, ці нават дзясяткаў тысяч з бацькоў спрабаваў такім чынам выцыганіць...

«Сістэма» — называлі мы вучэльню са схаванай пяшчотай. Ганарыліся, што далучаны да касты... Фарсілі паўсюль словамі «палуба», «подвалак», «кнехт», «гюйс», «комінгс», «пілерс», «трап»... Карыстацца словамі «цывільнымі», калі існавалі «ваенна-марскія» аналагі, лічылася непрыстойным...

Але што цікава: «Сістэма» наша цяпер рыхтуе кадры для войска Азербайджана, і гэта чамусьці выклікае страшэнную непрыязь з боку былых курсантаў-расійцаў. А я нічога такога не адчуваю... Толькі пяшчоту да тых сценаў, дзе прайшлі цяжкія, але такія цікавыя пяць гадоў жыцця... Яны мне сняцца часам...

У горад ад вучэльні два аўтобусы хадзілі. Сто сорак другі і пяцьдзясят першы... Мне чамусьці важна гэта памятаць... Глупства. Але мне важна... Неяк ехаў пяцьдзясят першым да дзяўчыны — яна сёння ўжо трыццаць пяць гадоў, як мая жонка — і скандал нейкі ўспыхнуў. Не памятаю з чаго пачалося... Стары азербайджанец крычаў нам, курсантам: «Азэрбіджян нэт совецкі власт, азэрбіджян ест совецкі денга!». З аўтобуса мы выскачылі агаломшаныя...

Прыехаў на сустрэчу экіпажа падводнага крэйсера, на якім служыў лейтэнантам... Ну, «экіпажа» сказана занадта, пятнаццаць афіцэраў сабралася. Хто не здолеў, хто не захацеў, каго не знайшлі, а каго і няма ўжо... І «жалеза» нашае парэзанае... Пазнаванне, абдымкі-пацалункі, крыкі. Усе — каму пад-, каму ўжо шэсьдзясят, а камандзіру з зампалітам дык і за семдзясят — адразу ў тых лейтэнантаў-старлеяў-каплееяўператварыліся... Апрача кэпа з замам, тыя марку трымаюць...

Выпілі ў памяць тых, хто ўжо на нябеснай лодцы... Загаманілі. Віцька-эртээсавец, ён цяпер мастак, усім свае работы падараваў, афорт. Я таксама не з пустымі рукамі. Выцягнуў некалькі асобнікаў кніжачкі сваёй. «Прыміце ў якасці сувеніра, бо прачытаць не здолееце — па-беларуску пішу...». А ў Пашкі-ракетчыка пытаюся: «Ты яшчэ родную ўкраінскую не забыўся? То ты здолееш прачытаць...». І тут сумеўся Пашка. Неяк так сумеўся, што я зразумеў адразу — не тое ляпнуў. Відаць, у сучаснай Расіі ўкраінцам не зусім прыстойна быць... І ўзгадаліся недзе прачытаныя ў Сеціве словы былога нашага, а цяпер маскоўскага журналіста, «асабістага ворага самі-ведаеце-каго». Што, маўляў, тлумачыць ён сыну — твае мама, тата, бабулі, дзядулі ўсе чыста — беларусы. Значыць, і ты, сынку, беларус. А ён — не! Мама-тата-бабулі-дзядулі хай сабе і беларусы, а я — рускі! Палонны хлапчук маскіруецца пад вертухая... Бо сорамна... Ці нявыгадна?..

...На той сустрэчы экіпажа здарылася ў мяне асабістая бітва за незалежнасць Сінявокай. Сашка-трумны: «Хутка твая Беларусія нашай будзе!». А я яму — хвігу пад нос. «Пасля сутыкнення бакі разышліся для перарэкагнасыроўкі»... Не ведаю, хто перамог, хочацца думаць, што я...

У Ерэван прыляцеў. Камандзіроўка па крымінальнай справе. Сваякоў матросіка-армяніна дапытаць і пратаколы ў ваенную пракуратуру... Па-моладасці няштатным ваенным дазнаўцам прызначылі... А мне што — хоць колькі дзён ад абрыдлага падводнага «бітона» адпачыць... Ваенпракурор, інструктаж, пасведчанне пракуратуры «Просім... садзейнічаць... у правядзенні следчых дзеянняў...», праязныя дакументы — і ўперад!

Нязвыклая архітэктура, дамы з ружовага вапняку, незнаёмая мова, і па вуліцах флоцкі старлей дэфіліруе... Гэта я, аддзяленне міліцыі шукаю. Позіркі зацікаўленыя лаўлю... Не без задавальнення... Двое п'яненькіх армянаў на працілеглым ходніку. Апрануты фацэтна. Заўважылі — і праз вуліцу да мяне напрасткі, што танкі. Відаць, будуць у любові да ваенна-марскога флоту прызнавацца, вядомая справа... Альбо распавядаць, як самі ў ВМФ служылі... Усмешку прыязную на твары зрабіў...



Бакінскі курсант з сям'ёй

Ага!... Любоў! «А добра вам японцы ў 905-м наклалі!» — Чую, як усмешка на твары камянее, робіцца дурнаватай, і сагнаць не магу... І адказаць — анічога прыстойнага ў галаву не йдзе...

...Я ж для іх — як сімвал усяго расійскага флоту... Вертухай... Вось і атрымаў. За палон... Яны мяне перамаглі...

А ў міліцыі ўчастковы доўга скардзіцца, што на вуліцах Ерэвана немагчыма нікога затрымаць — адбіваюць! Незнаёмыя людзі кідаюцца на абарону незнаёмага і перамагаюць!

Савецкі мент для іх таксама сімвал палону. Хай сабе і армянін...

...У тэлеперадачы армянка кажа, што яны маленькая нацыя, і на армянскіх жанчынах ляжыць адказнасць за яе. Армянкі павінны нараджаць толькі армянаў...

І ў іх няма беспрытульных дзяцей...

А з аэрапорта «Зватноц» у добрае надвор'е відаць вяршыні Арарата — Сыс і Масыс...

Мушкецёр д'Артаньян — армянін. У гэтым пераконвае мяне выпадковы суразмоўца. Я зайздрошчу... Каб жа так горача адстойвалі нашы... Каліноўскага, Касцюшку, Пржавальскага, «Полацкі сшытак» і процьму іншага!..

Ерэванцы спадабаліся... У іх — адчуванне еднасці... І паўсюль пошукі сваіх...

Сябра дзяцінства ў авіяцыйнай акадэміі вучыцца. Не бачыліся гадоў восем. Адбіў тэлеграму, што цягніком буду, з перасадкай. Сустрэў. Прыгожы, у лётнай форме. Я таксама нічога сабе. Сядзім у рэстаране. Капітан і каплей, лётчык і падводнік. З усіх кутоў дзяўчаты зіркаюць.

Паспрабавалі гаварыць па-расійску, папрывыкалі за гады ў вучэльнях і войску, а тут няёмкасць нейкую адчулі. Нейкую быццам здраду, ці што... Фальшывасць... І перайшлі — як у дзяцінстве — на беларускую.

Афіцыянт падыходзіць — а ці можна, маўляў, за ваш столік яшчэ кліентаў? — Дык калі ласка, нам усё роўна! А ў зале вольных столікаў — колькі хочаш... Але гэта я пазней ужо заўважыў.

Сядаюць дзве прыгажуні, замовілі нешта там... Ды мы на іх аніякай увагі — не бачыліся ж колькі. У сябрука майго Афган за плячыма, у мяне чатыры аўтаномкі... Ды і ўспамінаў я дзяцінства колькі... Працягваем балбатаць. І тут адна з дзевак — ды такім тонам загадным: «Говорите по-русски». Нават расійская прастытутка лічыць магчымым загадаць афіцэрам-«инородцам», каб на яе мове казалі! Бля!..

Сядзім у малюсенькай карабельнай парылцы з земляком-кобрынцам. Два кайфы атрымоўваем: парымся і ў беларускай практыкуемся, каб не забыцца. Зампаліт зайшоў, сеў на ніжнюю паліцу. Пацее. Вушы натапырыў, спрабуе разабраць. Твар ад нянавісці перакрывіла, перабіў, Маякоўскага цытуе: «Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин...». Пайшоў... Хай ідзе... Мы перамаглі!

Цікава свет пабудаваны... Ніколі людзі да канца яго законы не спазнаюць... Вось «Яблыка ад яблыні...» — правільная, здаецца, прымаўка...

...Служыць у вайсковай часці мічман. Васіль. Прозвішча мае такое, што ні за кога прыняць нельга, беларус у сто нейкім калене. І частка ягоная ў Беларусі, і Васіль ніколі ў жыцці далей Мінска носа не паказваў. Але ж выпрашыў скарыстацца магчымасцю — тады дзеці ваенных маглі вызваляцца ад вывучэння беларускай мовы. Па жаданні бацькоў. І Васіль свайго нашчадка вызваліў. Аблегчыў жыццё... А нашчадак вырас і стаў старшынём гарадской арганізацыі ТБМ... Не ацаніў бацькавых клопатаў.

...Сын беларускі і энкэвэдзіста-расійца... Энкэвэдзіст быў прысланы, каб у канцы саракавых беларускіх нацыяналістаў знішчаць... Ніякіх канфліктаў ніколі з бацькам не меў... Ну, гэта я да таго, што не было нянавісці да бацькі. Наадварот, паважаў і любіў. Але ўрэшце стаў беларускім нацыяналістам. І старшынём гарадскіх фронтаўцаў... Зянонавым сябрам. Здаецца, не было адкуль там беларускасці брацца, але ж прарасла...

...Праўда, ёсць і адваротныя выпадкі... На жаль...

З тае хвіліны, як з мінскага вакзала ў свет ад'ехаў, дадому імкнуўся... З'ехаць у свет лягчэй аказалася, чым вярнуцца. Флоцкіх частак у Беларусі ўсяго дзве было. Шляхам шматхадовай камбінацыі з дапамогай уплывовых сяброў вярнуўся-ткі. Дадому. З той далечыні, дзе дагэтуль швэндаўся, уся Беларусь домам была...

У частцы, куды трапіў, беларусаў шмат. Апрача «топ-начальства», тыя ўсе чыста «лица славянской национальности» — расійцы. Я гэтак іх назваў таму, што як дзе пачую заклікі славянам яднацца, то ўрэшце аказваецца, што яднанне славянаў падразумявае ператварэнне беларусаў і ўкраінцаў у «паўнацэнных»... Можа нават «са знакам якасці» — гэта калі сваё роднае будзе актыўна зневажаць...

У межах вайсковай часткі крама была. Нейкі крыху аналаг «спецзабеспячэння». Часам можна было там тое-сёе з ежы набыць... Перабудова ўжо набрала сілу, і... Ну, усе ведаюць...

Стаіць у краме чарга абаронцаў Радзімы, кілбасу купляе. Начальнік прыклыпаў, таксама ў чаргу стаў. Дэманстраваў часам дэмакратызм. Чарга прыціхла, змоўклі гутаркі. А начальнік ні з таго, ні з сяго, заікаючыся — заікай быў — «А-а-а, б-беларусы! А-а-а, б-брудны народ!» — «Чаго ж Вы, — пытаюся, — тут засталіся? Збеглі, можна сказаць, са сваёй Расіі?»

«А-а-а, м-мы вам к-культуру нясем...» — адказвае.

Там, у чарзе, можа тры чвэрці беларусаў было. Усе як быццам языкі кудысьці засунулі... Толькі прадаўшчыца, я ёй дагэтуль удзячны: «Беларусы — брудны народ? Вы гэта, відаць, па сваёй жонцы вызначылі...». Ён з тутэйшай жанаты быў... Крэкнуў начальнік, змоўк. Пастаяў крыху пад насмешлівымі позіркамі і бокам-бокам прэч... Мы перамаглі... Хоць «мы» — адна прадаўшчыца...

Вярнуўся дадому, а ён зусім не такі, як мроілася здалёк — з поўдня і з поўначы. Мярзота запусцення... Чым далей, тым больш... Вось яно як... Трэба за вялікую прыборку прымацца... Драіць, начышчаць... Павучынне змесці, павукоў... Так!..

ВОДГУК

# «ШТО Ў ЛЁСЕ СВАІМ ПРАЧЫТАЎ...»

Ала СЯМЁНАВА

**«Нічога больш...» Назва новай кнігі паэзіі Алеся Каско. Катэгарычна. Жорстка. Горка. І фотарэпрадукцыя афорта Льва Алімава на вокладцы — рэшты дрэва: нават не пасля буры, а нейкага ўсёразбуральнага катаклізму... Не ведаю, як у арыгінале, але — тут не відаць глебы і яна не вызначаецца дамыслена.**




Рэшты існавання... Ні знаку былой кроны, ды і ад ствала застаўся толькі аскепак — выпетраныя ліхалеццем, навалай карані. Карані, што невядома ці здатныя на тое, каб з'явіліся ад іх парасткі. Аднак... дрэва... як канкрэтная расліна... І як сімвал... дрэва жыцця? Міжволі згадваецца: «Грахі народа Божага ператварылі яго жыццё на зямлі ў знаходжанне ў месцы разбураным і спустошаным». (Ер., 4.23). І не ад хранічнага аптымізму — хутчэй ад стыхійнага, падсвядомага інстынкту самаўратавання, віталізму, прагі жыцця — гартаеш тую мудрую Кнігу. І — знаходзіш: «...гэтая апусцелая зямля зрабілася, як сад Эдэма». (Иез., 36.35). І даведваешся, што тут «...Будуць расці розныя дрэвы, якія дадуць спажыву, лісце іх не будзе ўвядаць і плады іх не будуць спусташацца» (Иез., 47.12).

Чытаю новую кнігу паэзіі Алеся Каско. І знаходжу пацверджанне менавіта гэтым антыноміям.

*Самота — на вяршыні дзён самота,*
*дагэтуль імітацыя была...*
.................................................
*Ты неўсвядомлена і летуценна*
*быў схільны плакаць, вершамі балець,*
*ды нават боль быў з роснага мігцення,*
*і толькі мімалётным ценем — смерць.*
*З нязведаных, адчужаных вокнаў*
*Прыйшла самота існаю, такой,*
*нібы ступіў ты ў цесны дом без вокнаў,*
*і дзверы зачыніліся за табой.*

Канец хісткага існавання? У бязлітаснай жыццёвай прасторы... Не прыгожае, заканамернае — адыход пасля пройдзенага шляху «насычанага днямі». Задушны тупік — адзінота: і сам-насам, і сярод людзей. «Удаў гадоў...» Адышоў рамантызм маладосці, калі — мелодыка думак, змена настрояў: натуральна... І нават адчай не меў няўхільнай мяжы, за якою толькі «безнадзейнасць»... Можна было дазволіць і такую раскошу, як сусветная туга... Яна, як ні дзіўна, не была ўсё ж балючай, роспачнай. Кроўнай. А цяпер — «не читки требует с акцёра...» (Б. Пастарнак). І — ці то бунт, ці то пакора супакаення...

Ці — усё ж — пошук раўнавагі як умоўнай метафарыкі таго самага саду, пра які вышэй:

*Маю ўсяго па долі:*
*долю радасці,*
*долю болю,*
*долю веры —*
*долю зняверанасці,*
*долю памяці —*
*долю забыцця...*
*хто мне скажа,*
*што абяздолены?*

І, можа, найбольш — не адмяняе моўленае — а прапануе варыянты, верш «Недажын». Тут, дарэчы (ці не дарэчы?) згадваецца: некалі Рыгор Барадулін сваё саракагоддзе пазначаў, як «Свята пчалы», а датай, блізкай да сённяшняга хранаметражу жыццёвых тэрмінаў Алеся Каско, Аляксей Зарыцкі меціў — «Мая асяніна». У Алеся Каско прачытваем вось гэта:

*От бы ўсё — ад зярнят да расы —*
*зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца:*
*дакахаць, дапісаць... Папрасіць*
*даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца.*

Усё зрабіць. Вызначыць. Выверыць. І што далей? Пакуль асоба яшчэ не ў пазасветавай прасторы... Яшчэ можа нешта стварыць... «на мове часу і дзікага мёду» (В. Мандэльштам)... Ёсць недаробленае...

*Ды з таго і жывем, што жывем недажынам.*

...Так прачытваецца мною гэтая кніга паэзіі... Суб'ектыўна, выключна ў маім полі зроку. (Ніколі не імкнуся ставіць адзнакі ці, крый Божа, «вучыць крытычна мысліць», як пазначаў сваю ролю ў сённяшнім літаратурным працэсе адзін паэт і надзвычай актыўны крытык. (Цытую даслоўна.)

Вяртаючыся ж да таго сімвала... Было дрэва... Красавала... Сустракала вясну і лета... Перажывала восені і зімы... І — пакуль — існуе... у нейкім перастварэнні... у пэўнай прасторы... у пэўным кантынууме свабоды ці несвабоды... І знаходзіць паэтычны эквівалент пэўным сэнсам...

...Колькі б няўмольныя хранографы і хранометры быццця не адстукалі паэту, ён адчувае сябе ў рэальным часе, з яго часовымі і непапраўнымі казусамі існавання. «...у айчыне — ды без Айчыны...», калі «квецень ад сонца — у стронцы», калі ў бібліятэцы «стаяць саркафагамі кнігі з муміямі першадрукароў і паэтаў...».

Алесь Каско, як кожная рэальная асоба, жыве і адчувае сябе ў рэальным часе, дзе былі і вялікія перспектывы перабудовы, і новая хваля адраджэння, з іх усвядомленымі і здзейсненымі задумамі, і з нездзейсненымі... Грамадзянскімі і творчымі... І часы зняверанасці і паняверкі... А да таго — рэаліі паслячарнобыльскай рэчаіснасці, катаклізмы планеты Зямля, сённяшнія і будучыя... Але — ва ўсёй пестрадзі быцця і побыту паэт улоўлівае тую самую высакародную субстанцыю, у якой асабістае перажыванне імкнецца наблізіцца да адасобленых, ушчыльнена-надасабовых сутнасцяў. Імкнецца вылучыць у няспыннай плыні часу мройлівыя, няпэўныя структуры, што ўжо ад часу не залежаць. І гэта не адстароненыя мроі, не ўнутраны час асобы, не разумовыя значнікавыкі, не цыкл вымог інтэлектуальных і дзейсных — а той асобы свет шматаблічнасці быцця, з яго сучаснымі аналогіямі, і з тым, што вызнаецца ім — прыродай з'яў і рэчаў.

*Чалавек дасюль яшчэ ў зародку,*
*ва ўлонні матухны-прыроды,*
*у лукатым чэраве Зямлі,*
*ён толькі-толькі знак падае —*
*памкненнем імпульсіўным целым,*
*успышкамі пачуццяў сумятлівых*
*ды роспачных здагадак*
*пра апакаліпсісы ў свеце і ў сабе.*

...у свеце... І ў сабе...

Паэт надзелены асобай духоўнай энергіяй, якая выяўляецца ў ім і дае яму



магчымасць адчуць і пачуць нешта неаэнна, пазачасавае — ці, магчыма, гэта спрасаваны час?

«Даволі, што ёсць неўміручасць імгнення...»

Паэт, бывае, канкрэтызуе імгненні, моманты: «Мне няцяжка шукаць; дзве касы — мая паржавелая і вострасрэбная — бацькава...». Або: «Мне няцяжка шукаць: пацяжэлыя яблыні галіны кладуць мне на плечы...». Аднак — Алесь Каско абавязкова выправіць сваё пяро ад чыстай эмпірыкі, фактalogii (яе ўвогуле надзвычай мала ў яго) да іншай скіраванасці натхнення, да надпобытавага, надасабовага. І кожны можа выбіраць —

*Зорка з даўнасці... Хто ты, вітанне*
*ці прароцтва? Дакор або ветласць?*
*Ці ты ярка-нямое пытанне*
*вочы ў вочы: чым спраўдзіцца вечнасць?*
...............................................................
*Ці дайду? Ці за крайняй прыступкай*
*Шлях абернецца вынікам марным;*
*там — нічога, нат зоркі над пусткай,*
*зоркі з даўняе веры і мары?*

І — жыццё скончана?

Вось тут паэт робіць выснову, якая вяртае мяне да думкі, што вызначалася вышэй: «...будуць расці розныя дрэвы...».

*Ды з таго і жывем, што жывем*
*недажынам...*

Але ж — «и каждый миг уносит частичку бытия»... «Як адчуць тую мудрую біблейскую насычанасць днямі», калі відавочна «ўдаў гадоў» аказвае сваю варожую моц. І страты, страты, страты...

*Так зелена, весне,*
*што вішня сама*
*ступіла да весніц.*

*А мамы — няма.*

І квецень — ужо не тая, і сны — не тыя, і нават аблокі — «панурыя», «набухлыя ад зневер'яў і страт...».

*Аднак жа*
*зрэдзьчасу бачу між імі*
*празрыста-белых анёлкаў —*
*гэта ў сненне маё на золку*
*ўплятаюцца сны*
*узятай небам дачкі.*

І рака жыцця — дзе адчуванне драмы Айчыны, трагедыі мовы, уласнай жорсткай наканаванасці — з мройліва бачным берагам... Што — на ім? На беразе?

*Бераг мой у смузе... Хоць аднойчы б даплысць,*
*каб здрадліўцаў не мець, каб здрадліўцам*
*не быць.*

*Быць самім па сабе, быць сабою самім,*
*пажаданым для ўсіх, непатрэбным*
*зусім.*
...............................................................
*і кідаюся ў хвалі — плыву і плыву*
*дзень і ноч, ноч і дзень, знемагаю — але*
*адыходзіць той бераг далей і далей.*

...І — звычная самота... Паэт улоўлівае тую самую высакародную субстанцыю, у якой асабістае перажыванне імкнецца наблізіцца да Боскіх сутнасцяў. Імкнецца вылушчыць у няспыннай плыні часу мройлівыя, няпэўныя структуры, вызначыць самараскрыццё сваёй асобы не сведчаннямі канкрэтыкі біяграфіі, а ўзбуйненнем, канцэнтрацыяй найбольш значных рысаў характару, выразных уласцівасцяў душы ў вызначанасці эстэтычных каардынат. У гэтага паэта вы не знойдзеце дакладнасці пратакола — ёсць біяграфія інтэлекта, духоўных пошукаў, пачуццяў... Так, у пэўных жыццёвых абставінах, але і над імі, і побач з імі, і насуперак ім... Нешта, можа, залежыць і ад «геаграфіі» жыццяпісу? Быў у паэта Алеся Каско такі, напрыклад, верш — «Мінскім сябрам»:

*Весялей вам жывецца на свеце,*
*і сябры ёсць, і кніжак стае.*
*Я ж — працую ў раённай газеце,*
*і пішу, і чытаю яе.*

Раёнка... Потым Брэсцкае тэлебачанне — у самы перабудовачны час... Зноў — раёнка... Здаецца, так...

...Але... Ведаючы паэта найперш і па сутнасці толькі паводле створанага ім як паэтам, пэўна перакананая, што гэта сапраўднае. Не разумею гэтага «брэнду» — правінцыяльнае.

...Неяк у глорыяграфічным кантэксце матэрыялу пад назвай «Паэзія трыумфуе» вядомы паэт і крытык з такім картбланшам, якога ў найноўшы час у беларускай літаратуры і не было ні ў кога, пісаў пра Алеся Каско: «...чарговы паэт з перыферыі»...

Не, ён не перыферыйны паэт. І яго зямлячка Ніна Мацяш была не перыферыйным, а еўрапейскага кшталту паэт. ...І Уладзімір Калеснік, даследчык і пісьменнік, якому маглі пазайздросціць многія сталічныя «гуры пяра» (выраз Міхася Стральцова), вёў рэй не толькі ў Берасцейскім рэгіёне... (А сёння годна працягвае яго справу Мікола Праневіч.) І жывуць не ў сталіцы, аднак ад таго не робіцца правінцыйнымі, рэгіянальнымі Юрка Голуб, Данута Бічэль, Вінцэсь Мудроў, Ірына Жарнасек, Мікола Пракаповіч etc. ...

Між іншым, калі кінуць, так бы мовіць, «рэтрапогляд», дык і Леў Талстой быў пісьменнік перыферыйны... Ясная Паляна... І ўніверсітэт Казанскі (і той не скончаны)... І жыццё на Каўказе... Санкт-Пецярбург і Масква не так многа часу займалі ў жыцці празаіка... А Чэхаў... Меліхава, Ялта... А Фолкнер з яго Ёкнапатафай...

...А вяртаючыся непасрэдна да кнігі (і кніг) паэта Алеся Каско... Ён з тых, хто ў любым жанры застаецца паэтам. Эсэ, нататкі, мініяцюры... Радыёжурналістыка... Дзе прысутнічаюць уласнае светаадчуванне, вопыты гісторыі і культуры, наноў пазначу — вопыт жыцця душы...

*Я ў радасці плакаў, у болю*
*трываў,*
*і гневу свайго не трымаў*
*у падполі,*
*сябе я выказваў —*
*нічога не выказаў болей.*
..............................................
*Нічога не выказаў болей,*
*Чым тое, што ў лёсе сваім прачытаў...*

Але прачытаў — паэт...
Fati arcanum.
Таямніца лёсу.

АГЛЯД

# NOSCE TE IPSUM
## (СПАЗНАЙ САМОГА СЯБЕ)

Наталля ЯКАВЕНКА

*«Стварэнне высокай культуры перакладу садзейнічае росту нацыянальнай літаратуры і ўсведамленню ёю свайго нацыянальнага характару»*
*І. Р. Бехер*

*«Вопыт стагоддзяў даказвае, што сувязь паміж мастацкім перакладам і нацыянальнай свядомасцю бясспрэчная»*
*К. Шэрман*



Пераклад ёсць самаспасціжэнне… і адкрыццё. Над гэтым давялося ў каторы раз задумацца, гартаючы кнігі перакладаў з украінскай на беларускую твораў Багдана-Ігара Антоныча («Зялёнае Евангелле». — Львів: Каменяр, 2011) і з беларускай ды іншых моў на ўкраінскую, створаных Галінай Кірпа («Місяць у колисці». — Тернопіль: Богдан, 2012).

«Перакладзены з іншай мовы твор — перадусім носьбіт іншага жыцця, іншага спосабу мыслення, іншых параметраў разумення свету. Чым вышэй мастацкая вартасць перакладу, тым большая магчымасць міжвольнага параўнання, якое непасрэдна ўплывае на нацыянальную свядомасць, — канстатаваў Карлас Шэрман у сваіх «Таямніцах почырку». — Тут варта сказаць, што ў дадзеным выпадку нацыянальная свядомасць выступае як шматаблічная катэгорыя, якая ахоплівае ўсе бакі жыцця, самыя розныя адносіны чалавека з прыроднымі з'явамі і рэчамі, а таксама чалавека з чалавекам, з грамадой чалавечай». Да таго ж, пераствараючы іншамоўны твор сродкамі сваёй мовы, праз сінтэз моўна-стылёвых і культурна-эстэтычных асаблівасцяў перакладчык кожны раз наноў спазнае самога сябе — сваё светаадчуванне, светаразуменне, выпрабоўвае мастацкія прыёмы, выяўляе нацыянальную адметнасць уласнай творчасці, а часам робіць пэўнае адкрыццё для сябе, для чытачоў.

### «Зялёнае Евангелле»

«Насупор глузду веру, што месяц, які свеціць над маім родным сялом у Горліцкім павеце, іншы, чым месяц над Парыжам, Рымам, Варшавай ці Масквой… Веру ў зямлю бацькоўскую і яе паэзію» (пераклад Тацціяны Кабржыцкай), — адзначаў у сваіх нататках «украінскі Багдановіч» — паэт, празаік, перакладчык, літаратуразнаўца Багдан-Ігар Антоныч (1909–1937), радкі якога, напоўненыя незвычайнай «красой і сілай», глыбокія філасофскія думкі, таксама як ідэйна-эстэтычная пазіцыя вельмі блізкія да багдановічавых; падобныя таксама іх самотныя й трагічныя лёсы. Тое ж падкрэсліве ў прадмове да зборніка «Зялёнае Евангелле» Ніл Гілевіч: «Не магу адкаснуцца ад думкі, што ў лёсе і постаці гэтага паэта ёсць нямала агульнага з лёсам і творчым аблічам нашага Максіма Багдановіча. <…> Уражвае супадзенне вех і асаблівасцей біяграфій, жыццёвага і творчага шляху абодвух паэтаў. Багдановіч памёр на дваццаць шостым годзе жыцця, Антоныч — на дваццаць восьмым. Адзін і другі паходзілі з інтэлігентных сем'яў. І адзін і другі свае нядоўгае жыццё пражылі ў горкім адзіноцтве — без сям'і, без вернага побач друга. <…> І адзін і другі жывую мову свайго народа вывучалі па кнігах і з вуснаў пэўных людзей — Багдановіч ад цёткі, малодшай матчынай сястры, а Антоныч ад нянек, што гаварылі на мясцовым «лэмкіўскім» дыялекце. І адзін і другі глыбока ведалі народную міфалогію і старажытны фальклор і плённа выкарыстоўвалі іх вобразы ў сваёй цудоўнай «язычніцкай» паэзіі».

Таму, напэўна, з не меншай вераю ў родную «зямлю бацькоўскую і яе паэзію» можна наважыцца на пераклад твораў гэтага лірыка.

Да сярэдзіны 1960-х гадоў напісанае Багданам-Ігарам Антонычам было пад забаронаю. Калі Украіна стала, нібы ўпершыню, адкрываць для сябе гэтага творцу, у час барацьбы за яго рэабілітацыю Сяргей Панізьнік пачаў перакладаць вершы Антоныча, перададзеныя з «архіўнага падполля» выкладчыкам універсітэта М. Ільніцкім (Львоў, 1966). У 1997-м С. Панізьнік прадставіў Антоныча ў сваім зборніку «Сустрэча родных сусветаў» перакладамі трох вершаў («Чаромхавы верш», «Бацькаўшчына», «Два клёны»), да якіх у 2011-м у «Зялёнае Евангелле» дадаў пераклады «Калыханкі» і «Слова пра полк пяхоты».

*Нагрэта ноч ухмельным вецем:*
*ў чаромхавай дыміцца мгле.*
*І літары, як зоры, свецяць*
*з раскрытай кнігі на стале.*

*Лістотай стол мой абрастае,*
*а ножка крэсла — гонкі ствол.*
*І я з чаромхаў-кніг чытаю*
*прамудрай пушчы хараство.*

Гэта «Чаромхавы верш» — адзін з найбольш вызначальных і характэрных для паэзіі Б.-І. Антоныча, як «мастака, поўнага ўражанняў першароднай красы і свежасці, якія дае чалавеку, а тым больш мастаку, адкрыццё свету» (М. Ільніцкі). Гімнам жыццю і ўсяму жывому на зямлі можна назваць паэзію Антоныча і, у прыватнасці, твор, што даў назву зборніку:

*Вясна, як карусель, як воз,*
*на каруселі белаконі.*
*Сяло ў гарах, сад, абрыкос,*
*і месяц, як цюльпан, чырвоны.*

*Стол ясянёвы, на стале*
*славянскі збан — для сонца схова.*
*Ты кланяйся зямлі ў святле,*
*як гэты сон, стокаляровай.*

*(«Зялёнае Евангелле», пераклад Рыгора Барадуліна).*

Акрамя згаданых перакладчыкаў да самаспасціжэння праз чароўную і загадкавую лірыку Багдана-Ігара Антоныча, «закаханага ў жыццё паганца», таго, што «быў хрушчом і жыў калісь на вішнях, на вішнях тых, што апяваў Шаўчэнка», да адкрыцця яго асобы і паэзіі беларускаму чытачу спрычыніліся Вячаслаў Рагойша, Васіль Зуёнак, Сяргей Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Эдуард Акулін — вядомыя і спрактыкаваныя як у паэтычнай, так і ў перакладчыцкай справе літаратары. Пры тым укладанне зборніка (нястомнымі ўкраінцам Раманам Лубкіўскім і беларусам Вячаславам Рагойшам), дзе пераклады змешчаны побач з арыгіналамі, дазваляе напоўніцу заглыбіцца ў паэтычны свет аднаго з найбольш выдатных лірыкаў XX стагоддзя і дае найлепшую магчымасць параўнання, «якое непасрэдна ўплывае на нацыянальную свядомасць».

### «Месяц у калысцы»

Маленькі чытач — асаблівы, і пісаць для яго надзвычай цяжка з некалькіх прычынаў: па-першае, неабходна выпрацаваць даступную для дзіцячага разумення мову; па-другое, трэба ўлічваць асаблівасці дзіцячай псіхалогіі і адрознасць эстэтычнай ацэнкі, бо юных чытачоў часта захапляе тое, што не кранае дарослых, і наадварот; па-трэцяе, нельга забывацца на розніцу ў густах і зацікаўленасцях дзяцей рознага ўзросту ды менталітэту. І яшчэ шмат-шмат іншага… Пісаць цяжка, а перакладаць — тым больш.

Аднак украінская паэтка, празаік і перакладчыца, аўтар некалькіх зборнікаў для дзяцей Галіна Кірпа смела ідзе на пераадоленне ўсіх тых межаў. І, трэба сказаць, атрымлівецца гэта ў яе вельмі пасьпяхова. У 2007 годзе ва Украіне ў яе ўкладанні (разам з мужам Дзмітром Чараднічэнкам) выйшла хрэстаматыя сусветнай літаратуры для пачатковай школы ў 3-х тамах «Світ від А до Я. Австралія — Ірландія», дзе ў раздзеле «Білорусь» прадстаўлены творы для дзяцей 27 аўтараў.

Галіна Кірпа перакладае на ўкраінскую мову прозу і вершы пісьменнікаў з Беларусі, Нямеччыны, Даніі, Нарвегіі, Швецыі. У яе апошнім зборніку — «Місяць у колисці» — побач са створаным ёю самою ды з лепшымі набыткамі дзіцячай літаратуры Даніі, Нарвегіі і Швецыі, Беларусь прадстаўленая перакладамі вершаў і казак для дзяцей, напісаных Станіславам Шушкевічам, Уладзімірам Караткевічам, Сяргеем Грахоўскім, Алегам Лойкам, Нінай Мацяш, Міколам Маляўкам, Казімірам Камейшам, Нінай Галіноўскаю, Сяргеем Панізьнікам і Сяргеем Тарасавым.

Аўтарскія творы і пераклады Галіны Кірпы аб'ядноўваюць не толькі жанравыя асаблівасці дзіцячай літаратуры. Галоўнае, што яднае — яркая, вобразная, запамінальная, жывая мова і бязмежнае пачуццё шчырай любасці, якою, здаецца, свецяцца кожны твор і якая так патрэбная ўсім дзецям, незалежна ўжо ад менталітэту, зацікаўленасцяў, узросту і г.д.

Мабыць, творачы для дзяцей, можна найлепш спазнаць сябе самога — праз разуменне ўласных мажлівасцяў быць абсалютна шчырым і здольнасцяў любіць.

# ПЕРАВЫХАВАННЕ ДЫКТАТАРА

Павал АБРАМОВІЧ

**Шведскі літаратар Ульф Старк (нар. у 1944 годзе) спачатку пісаў кнігі для дарослых, а потым вырашыў распавядаць гісторыі толькі для дзяцей. Нядаўна ў выдавецтве «BY-BOOKS» выйшла ягоная кніжка «Дыктатар» з малюнкамі фінскай мастачкі Лінды Бондэстам. Беларускі варыянт кнігі стварылі перакладчыцы Наста Лабада і Вольга Рызмакова; на прэзентацыю ў кнігарню «логвінаЎ» Ульф Старк прыязджаў асабіста.**

Ва ўсіх дзетак з гэтай яркай кнігі ёсць імёны, акром галоўнага героя. Аўтар называе яго «дыктатарам», і персанаж не супраць, бо няма лепшага імя для таго, хто ўпэўнена пачуваецца гаспадаром свету, хоць знешне і выглядае як маленькі хлопчык. Старкаў дыктатар хоча, каб яму падпарадкоўваліся: ён загадвае зоркам свяціць ноччу, а анёлам — есці кашу. З людзьмі дыктатар паводзіцца таксама сувора, і можа нараўці на матулю, якая перад сном цалуе сваё адзінае дзіця, — «дыктатараў нельга цалаваць, прынамсі не проста так». Звычайна дыктатар злосны, аднак іншым разам, калі ў адкрытым вазку яго вязуць у садок, можа ўсім пасміхацца, бо сёння ён у гуморы, а заўтра ізноў задасць свету перцу з імберцам! Любімая ежа дыктатара — бананы, бутэрброды і гарачыя каўбаскі, але «каб на іх падзьмулі».

Беларусы могуць чытаць «Дыктатара» ўголас сваім дзеткам, і разглядаць малюнкі, і рабіць педагагічныя высновы ў межах сям'і, і радавацца шчасліваму фіналу: галоўны герой закахаўся ў дзяўчынку Сірку са сваёй групы, а паколькі тая не хоча ісці разам з дыктатарам, трымаючыся за рукі («Я з малпаю лепш пайду»), ён вырашае змяніцца дзеля Сіркі і назаўтра стаць тою малпай.

Толькі вось праекцыяў з рэчаіснасцю нам не пазбегнуць, і сумных думак у часе чытання «Дыктатара» таксама. Старкава гісторыя нявыхаванага хлопчыка ў нашай краіне непазбежна гучыць як гісторыя нявыхаваннага мужчыны, які ўзначаліў краіну:

«Скакаць на адной ножцы! — ён патрабуе. — Інакш я вас кіну ў турму!». Нічога больш не прыдумаўшы, ён вяртаецца ў свой палац.

Бацькі заўсёды вінаватыя, так кажуць. І бацькі прэзідэнта таксама. Але не толькі яны: у дадзеным выпадку як грамадзяне Беларусі мы мусім падзяліць з імі цяжар адказнасці. У выхаванні свайго кіраўніка дзяржавы намі былі зроблены памылкі, і паколькі сітуацыя не паляпшаецца, відавочна, мы дасюль робім не тое, што належыць, не тое, што патрэбна. Старк дае чытачам рэцэпт выхавання; вось цэнтральнае месца ў кнізе «Дыктатар», якое беларусам — як бацькам і грамадзянам — трэба ўдумліва перачытаць шмат разоў, каб перавыхаваць эгаіста:

Ён хоча пачуць пра «Найлепшага ў свеце», казку пра сябе самога. Але такой кніжкі няма. Казкі не будзе.

Старк дае свайму персанажу надзею на пераўвасабленне. Адначасова, як дзіцячы пісьменнік, ён верыць, што калектыў здольны перавыхаваць нават самага вялікага карыслівца. Сапраўды, дзіцячыя кнігі чытаць аніколі не запозна — уголас ці моўчкі, іншым ці самому сабе, і выхаванне — працэс, які мусіць доўжыцца ўсё жыццё. Паспрабуем і мы ў гэтай «няказачнай» справе дабрыню спалучаць са строгай справядлівасцю.

ПРЭМІІ

# «АРАБСКІ БУКЕР»

**29 сакавіка Міжнародная прэмія ў галіне арабскай літаратуры, якую таксама называюць «арабскім Букерам», займела самага маладога лаўрэата ў сваёй гісторыі. Ім стаў 42-гадовы ліванскі пісьменнік і журналіст Рабі Джабер.**

Ганаровы дыплом і грашовы прыз у памеры 50 тысяч даляраў ЗША яму прынёс гістарычны раман «Друз з Бялграда», дзеянне якога адбываецца ў 1860-х гадах, пасля грамадзянскай вайны ў Ліване паміж мусульманамі і хрысціянамі, калі 15 тысячаў хрысціян былі забітыя, а дзясяткі тысячаў страцілі прытулак.

Лёс закідвае галоўную гераіню, хрысціянку Хану, на Балканы. Разам з групай паўстанцаў яна бяжыць з краіны і ў выніку на 12 гадоў трапляе за краты.

Журы прэміі адзначыла, што ў сваім рамане Джабер «праз вобразы даўно мінулых гістарычных падзеяў ярка паказаў крохкасць чалавечага існавання». Паводле словаў ліванскага пісьменніка, падчас працы над кнігай ён некалькі гадоў вывучаў у архівах Амерыканскага ўніверсітэта ў Бейруце дакументы сярэдзіны XIX стагоддзя.

Творы Джабера амаль не перакладаліся на замежныя мовы, аднак вельмі папулярныя ў Ліване, дзе ён апублікаваў 17 раманаў і рэдагуе культурны дадатак да газеты Al-Hayat.

Акрамя Рабі Джабера фіналістамі прэміі сёлета былі пісьменнікі з Туніса, Егіпта і Алжыра, а таксама яшчэ адзін прадстаўнік Лівана. Кожны з іх атрымаў па 10 тысяч даляраў.

Міжнародная прэмія ў галіне арабскай літаратуры ўручаецца з 2009 года. Заснаваная тым самым фондам, што ўручае і брытанскага «Букера», яна закліканая прыцягнуць увагу да літаратуры арабскага свету за межамі рэгіёна.

КАЛЕЙДАСКОП

# СКАНДАЛЬНЫ ВЕРШ ГЮНТЭРА ГРАСА

**Нямецкі пісьменнік і нобелеўскі лаўрэат Гюнтэр Грас справакаваў хвалю абурэння і ўвагі, апублікаваўшы 4 красавіка верш «Пра што неабходна сказаць» з крытыкай антыіранскай палітыкі Ізраілю.**

Ён заклікаў сусветную супольнасць пракантраляваць ядзерную праграму не толькі Ірана, але і габрэйскай дзяржавы. Верш з'явіўся адразу ў некалькіх сусветных выданнях (арыгінал быў апублікаваны ў нямецкай «Suddeutsche Zeitung», а пераклады — у амерыканскай «The New York Times», італьянскай «La Repubblica» і іспанскай «El Pais»).

У сваім творы Г. Грасс крытыкуе Ізраіль за пагрозы прэвентыўнага ўдару па Іране ў сувязі з яго атамнай праграмай. На думку пісьменніка, дзеянні Ерусаліма могуць «знішчыць іранскі народ». Пры гэтым ізраільскі ўрад, як сцвярджае Г.Грас, даўно бескантрольна развівае свой ядзерны патэнцыял. У выніку аўтар верша прыходзіць да высновы, што атамная праграма Ізраілю «пагражае і без таго кволаму міру» ў рэгіёне. У якасці рашэння праблемы нобелеўскі лаўрэат заклікае абодва бакі адмовіцца ад гвалту, а міжнародным інстанцыям прапануе праверыць ядзерныя праекты абедзвюх краін.

Пры гэтым Г. Грасс крытыкуе не толькі Ізраіль, але і ўлады Нямеччыны, якія, па яго меркаванні, сваімі дзеяннямі толькі распальваюць канфлікт. Яны прадаюць Ізраілю падлодкі, здольныя несці ракеты з ядзернымі боегалоўкамі.

Публікуючы антыізраільскі верш, Г.Грас не мог не ўсведамляць, што яго назавуць антысемітам і ўзгадаюць службу ў войсках СС (Waffen-SS) (публічна ён упершыню распавёў пра гэта ў сваёй аўтабіяграфічнай кнізе «Цыбуліна памяці», якая выйшла ў 2006 годзе).

Афіцыйныя нямецкія ўлады не ўмешваліся ў скандал. У Іране публікацыю верша адзначылі, але бурнай рэакцыі, як чакалі ў Ізраілі, не было. З міністэрства культуры Ірана Г.Грасу прыйшоў ліст, у якім было напісана, што яго верш прачыталі і ацанілі. Заканчвалася пасланне паказальна: «Пяро пісьменніка можа прадухіліць трагедыю лепш, чым войска».

Сусветная ж прэса не пашкадавала пісьменніка. Многія выданні прыйшлі да высновы, што Г.Грасу варта было б памаўчаць, калі гаворка заходзіць пра Ізраіль. Ізраільская газета «Maariv» адзначыла, што пісьменнік заслугоўвае пакарання за сваю заяву, бо «яго ўдзел у гістарычных грахах не можа і ніколі не будзе дараваны». А міністэрства ўнутраных спраў Ізраіля абвесціла Гюнтэра Граса персонай нон грата і забараніла яму ўезд на тэрыторыю краіны.

# «ЕЎРАПЕЙСКІ ПАЭТ СВАБОДЫ–2012»

**Нямецкі паэт Дурс Грунбайн стаў сёлетнім лаўрэатам прэміі «Еўрапейскі паэт свабоды», заснаванай муніцыпалітэтам горада Гданьска. Прэміяй паэта ўганаравалі за зборнік вершаў «Мізантроп на Капры». Пераможца атрымае сто тысяч злотых, дзесяць тысяч — перакладчык зборніка на польскую мову Анджэй Капацкі.**

Сярод намінантаў сёлета былі паэты з Албаніі, Чэхіі, Гішпаніі, Германіі, Нарвегіі, Польшчы (Рышард Крыніцкі), Турцыі, Украіны (Сяргій Жадан).

Дурс Грунбайн нарадзіўся ў 1962 годзе ў Дрэздэне. Ён лаўрэат практычна ўсіх значных нямецкіх літаратурных прэмій. Таксама вядомы і як перакладчык (трагедыі Эсхіла, Сенекі, драмы С. Бэкета, вершы А. Мішо, Дж. Эшберы, Т. Венцлавы і інш.)

У 2010 годзе прэмію «Еўрапейскі паэт свабоды» атрымаў Уладзімір Арлоў. Ягоны зборнік «Паром праз Ла-Манш» пераклаў на польскую мову Адам Паморскі.



# ХЭМІНГУЭЙ І ЗАБОЙСТВА КАТА

**Амерыканскаму пісьменніку Эрнэсту Хэмінгуэю аднойчы давялося застрэліць любімага ката.**

Гаворка пра гэты эпізод вядзецца ў адным з неапублікаваных лістоў Хэмінгуэя, выстаўленых на агляд у Бібліятэцы імя Джона Ф. Кэнэдзі ў прыгарадзе Бостана. Пра гэта напісала The New York Times.

У бібліятэцы прадстаўлены 15 лістоў Хэмінгуэя, адрасаваных венецыянскаму арыстакрату Джанфранко Іванчычу, з якім пісьменнік пазнаёміўся ў 1949 годзе. Лісты былі напісаны ў перыяд з 1953-га па 1960 год. У той час Хэмінгуэй жыў на Кубе.

У лісце, датаваным 22 лютага 1953 года, Хэмінгуэй распавядае пра тое, як яго кот Вілі быў збіты машынай. Жывёла мучылася, таму пісьменніку не заставалася нічога, акрамя як прыстрэліць яго. Даручыць забойства ката камусьці іншаму Хэмінгуэй не змог.

Далей у лісце Хэмінгуэй прызнаецца, што яму даводзілася страляць у людзей, але ён ніколі не забіваў «кагосьці, каго ён ведаў і любіў на працягу 11 гадоў, і хто і з дзвюма зламанымі лапкамі працягваў варкатаць».

Пісьменнік таксама адзначае, што адразу пасля таго, як ён прыстрэліў ката, да яго хаты пад'ехалі нейкія турысты. Ён сказаў ім, што цяпер не самы лепшы час для гутарак і папрасіў іх з'ехаць. Аднак «багацеі на Кадылаку», як назваў іх Хэмінгуэй, выказалі меркаванне, што прыехалі якраз своечасова для таго, каб убачыць «вялікага Хэмінгуэя, які плача». Пісьменніку давялося ў грубай форме выштурхаць назойлаў-прыхільнікаў.

Кот Вілі, паводле кнігі «Каты Хэмінгуэя: ілюстраваная біяграфія», паслужыў правобразам аднаму з катоў у кнізе «Выспы ў акіяне».

Хэмінгуэй быў вядомы сваёй любоўю да катоў. Да 1945 года ў яго іх было 23. Хэмінгуэй, у прыватнасці, быў уладальнікам шасціпалага ката. Яго нашчадкі, якія ўспадкавалі шасціпаласць, у наш час з'яўляюцца адной з выбітнасцяў дома-музея пісьменніка на Кі-Уэсце.

ПАСТАНОЎКА

# МАГІЧНЫ МЕМУАРЫСТ І КЛАНАВАННЕ

**У сваёй кнізе «Жыць, каб распавядаць пра жыццё», якая нядаўна выйшла па-расійску, Габрыэль Гарсія Маркес замест абяцаных успамінаў падаў раман у стылі «магічнага рэалізму».**

У апошнія месяцы імя Маркеса ў Расіі ў многіх на слыху. І рэч тут не ў фальшывым развітальным інтэрнэтаўскім лісце калумбійскага пісьменніка, які з'явіўся яшчэ ў 2000 годзе, і ўжо тым больш не ў прысваенні Маркесу расійскага ордэна Пашаны ў сувязі з ягоным 85-годдзем. Паўфантастычная рэальнасць Лацінскай Амерыкі, якую з мноствам падрабязнасцяў маляваў нобелеўскі лаўрэат у сваіх раманах, апынулася куды бліжэй да расійскай, чым уяўлялася калісьці першым чытачам «Ста гадоў адзіноты». Менавіта таму «Жыць, каб распавесці пра жыццё» — першая кніга з задуманай пісьменнікам мемуарнай трылогіі — выйшла ў Расіі найсвоечасова.

Чарговы раман у стылі магічнага рэалізму, своеасаблівы рэмейк «Ста гадоў адзіноты», напісаны ад першай асобы. Пра пісьменніцкую «кухню» Маркеса цікава чытаць, з іншага боку — здаецца, быццам кожная старонка прыносіць чарговае расчараванне. Напрыклад, калі верыць Маркесу, яго дзед Нікалас быў палкоўнікам войска лібералаў падчас Тысячагадовай вайны і менавіта яму давялося разам з жонкай бегчы з роднага горада Баранкілья ў пыльнае і гарачае мястэчка Аракатака (пасля таго, як палкоўнік забіў свайго земляка на двубоі).

Менавіта ён узяў калісьці маленькага Габіто з сабой па пакупкі ў камісарыят бананавай кампаніі «Юнайтэд фрут», дзе будучы аўтар «Ста гадоў адзіноты» ўпершыню ўбачыў лёд…

Нарэшце, менавіта палкоўнік Гарсія, на старасці гадоў расчараваўшыся ў палітыцы, заняўся па сямейнай традыцыі ювелірнай справай, час ад часу майструючы сваіх знакамітых залатых рыбак.

Мноства неверагодных падрабязнасцяў «Ста гадоў адзіноты» (да выдання гэтай падзеі ўспаміны так і не даходзяць, абарваўшыся на ўцёках Гарсія Маркеса з Калумбіі ў Еўропу) доўжацца далей. Цвыркун, з'едзены прыяцелем Маркеса на вячэру; адукацыя пры дапамозе сэксу; каханне на ўсё жыццё; палітычныя крызісы і кровапралітныя войны, журналістыка і літаратура; сэкс і п'янкі, галеча і першая слава... На пералік усіх фантастычных падзей і падрабязнасцяў, якія ці то здараліся, ці то не здараліся ў жыцці пісьменніка, не хапіла б і ста рэцэнзій. Праз дзесяць гадоў пасля таго, як Габрыэль Гарсія Маркес выдаў першы том сваіх выдуманых успамінаў, і расійскія чытачы могуць пазнаць гісторыю жыцця, якую ён пражыў, каб распавесці пра яе…

Ну а беларусы пакуль мусяць чытаць тое ў арыгінале ці ў чужых перакладах.

Тым часам Габрыэль Гарсія Маркес пачаў збіраць сродкі на сваё кланаванне. Пісьменнік неаднойчы выказваў занепакоенасць агульным узроўнем сучаснай калумбійскай літаратуры і такім чынам плануе даць новы штуршок яе развіццю праз 30-40 гадоў.

Дагэтуль у навукова-даследчыцкай лабараторыі пры клініцы дэпартамента Магдалена, дзе плануецца выканаць працэдуру, паспяхова кланавалі авечак, свіней і пацукоў. Арангутану Чылі, кланаванаму ў лабараторыі, ужо 5 гадоў, і адчувае ён сябе выдатна.

«Даць краіне яшчэ некалькі нобелеўскіх лаўрэатаў — няпростая задача, але мы яе вырашым, — кажа прафесар медыцыны доктар Араката, які ўзначальвае лабараторыю, — прынамсі, тэхналагічных перашкод гэтаму я не бачу».

Запыт Маркеса на яго кланаванне ў 4-5 асобах ужо разглядаецца ў калумбійскім парламенце, і хутчэй за ўсё дазвол будзе атрыманы. Вядома, што пісьменнік збіраецца ўнесці палову сумы за паслугі лабараторыі кланавання. Каб сабраць другую палову сродкаў, на сайце калумбійскага пісьменніка абвешчаны збор сродкаў.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў www.openspace.ru, europejskipoetawolnosci.pl, gazeta.ru, themodernword.com, prajdzisvet.org, The New York Times, lenta.ru.**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 4 МАЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 9:00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія).
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Тэлефільм «Карані дзяржаўнасці».
**11.05** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш.» (Украіна).
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Драматычны серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.05** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**17.20** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.15** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш.» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ведай нашых.
**21.55** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Расія).
**23.00** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Фантастычны фільм жахаў «Гарызонт падзей» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** Прэм'ера. «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Добры дзень».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: VIII нацыянальны конкурс прыгажосці «Міс Беларусь 2012».
**23.20** Камедыя «Ад 180 і вышэй».
**01.05** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Верхаводы». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Пасажыр без багажу». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Прывітанне - пакуль». Францыя-Італія-Ізраіль, 2008г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** «Механічны апельсін».
**00.20** «Выклік на мільён даляраў».
**01.05** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ясі і худзей.
**09.35** Час футболу.
**10.20** Меладрама «Усё золата свету…» (Расія). 4-я серыя.
**11.20** Школа рамонту.
**12.25** Страсці па культуры.
**13.25** Фантастычны баявік «Электра» (ЗША).
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**16.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Канада – Славакія. Прамая трансляцыя.
**18.35** Беларуская кухня.
**19.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**20.05** Тэлебарометр.
**20.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Беларусь - Фінляндыя. Прамая трансляцыя. У перапынку: **21.25** КЕНО.
**22.30** Бітва экстрасэнсаў.
**23.35** Фактар сілы.
**00.10** Баявік «Зямля тыгра» (ЗША-Германія).

---

**05.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**05.20** Праграма «Усюды жыццё».
**06.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.00** Навіны Садружнасці.
**07.05** Тэлесерыял «Вaўчыца».
**08.00** Навіны Садружнасці.
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**09.25** Праграма «Смачны свет».
**10.00** Навіны Садружнасці.
**10.05** Мастацкі фільм «Бацька салдата».
**11.00** Навіны Садружнасці.
**11.05** Мастацкі фільм «Бацька салдата» (Працяг).
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**13.30** Мультсерыял «Крыштальная маска».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.00** Навіны Садружнасці.
**17.05** Праграма «Правілы жыцця».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Праграма «Зроблена ў СССР».
**19.10** Мастацкі фільм «Вяртанне блуднага мужа».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Праграма «Неверагодная праўда пра зорак».
**22.20** Праграма «Любімыя акцёры».
**22.50** Мастацкі фільм «Госць з Кубані».
**00.30** Праграма «Добрыя жарты».
**02.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**03.50** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».

### Discovery CHANNEL

**08.00** Пятая передача.
**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**14.45** Пятая передача.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**21.10** Як гэта працуе.
**21.40** З чаго гэта зроблена?
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**02.40** Насланне.
**04.35** Як гэта працуе.
**05.00** Круты цюнінг.

### EUROSPORT

**00.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**01.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**01.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**10.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**12.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**15.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы да 17 гадоў. Славенія - Групавы этап: Польшча - Бельгія.
**16.45** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**19.30** Футбол: Чэмпіянат Еўропы да 17 гадоў. Славенія - Групавы этап: Грузія - Германія.
**21.15** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** Басанож па свеце.
**08.00** «Час гонару», серыял.
**08.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.10** «Школа на санцапёку», серыял: 17 серыя.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 2.
**10.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.45** «Дзень, калі памер Тыто», дак. фільм, 2009 г., Сербія.
**11.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.45** «Палітыканы», серыял: 6 серыя.
**12.30** «Час гонару», серыял.
**13.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.45** «Школа на санцапёку», серыял: 17 серыя.
**14.10** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.35** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 2.
**15.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**15.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**16.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.15** «Дзень, калі памер Тыто», дак. фільм, 2009 г., Сербія.
**17.00** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 5 серыя.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 3.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Прыватная калекцыя.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Невядомая Беларусь: «Кіпіць Нямiга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.55** «Доўгі ўік-энд», камедыя, 2004 г., Польшча.
**23.10** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Гарачы каментар.

## 5 МАЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**10.55** Да цешчы на бліны.
**10.35** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.10** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.40** Мультфільмы.
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыйная меладрама «Афоня» (СССР).
**17.15** Дзённік «Еўрабачання».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Камедыя «Оптам танней» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**22.55** Трылер «Марафонец» (ЗША).
**00.55** Дзень спорту.

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** Асяроддзе пасялення.
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.00** Камедыя «Несусветная мітусня».
**15.25** Фільмы «Сабака Барбос і незвычайны крос» і «Самагоншчыкі».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Піліп Кіркораў. «Іншы».
**18.40** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**19.25** АНТ прадстаўляе: «Абмен жонкамі».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Жорсткія гульні».
**22.55** Прэм'ера. Фільм «Мішэнь».

### ТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Анфас».
**07.40** «Салдаты-13». Серыял.
**09.15** «Я - вандроўца».
**09.40** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**10.55** Фільм «Прывітанне - пакуль». Францыя-Італія-Ізраіль, 2008 г.
**12.45** «Прыгоды дылетанта».
**13.15** Фільм «Салдат Іван Броўкін». СССР, 1956 г.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Здзіві мяне». Украіна, 2008г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Адплата». ЗША-Вялікабрытанія, 2010 г.
**22.15** «Зорны рынг».
**23.30** Фільм «Заплаціць спаўна». ЗША, 2002г.
**01.05** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.35** Дабравест.
**08.00** Мір вашай хаце.
**08.10** Скарбніца Гомельшчыны.
**08.35** Пра мастацтва.
**09.05** Тэлебарометр.
**09.10** Фантастычны баявік «Электра» (ЗША).
**11.00** Школа рамонту.
**12.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.40** Шоў «Інтуіцыя».
**13.45** Наперад у мінулае.
**14.20** Беларуская кухня.
**14.55** Гандбол. Кубак Беларусі. Прамая трансляцыя.
**16.35** «Лондан 2012».
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Латвія – Расія. Прамая трансляцыя.
**19.30** Кінаспробы.
**20.00** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Бітва экстрасэнсаў.
**22.20** Дак. цыкл «Вышэйшая мера…».
**23.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Канада - ЗША.
**01.05** Шоў «Інтуіцыя».

---

**05.00** Дакументальны фільм «Піке Даля».
**06.00** Праграма «Даведнік».
**06.30** Мастацкі фільм «Прыморскі бульвар».
**07.50** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.40** Праграма «На шашлыкі».
**10.10** Тэлесерыял «Лола і Маркіз».
**14.00** Праграма «Правілы жыцця».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Мастацкі фільм «Ад заходу да світанку».
**17.00** Мастацкі фільм «Тата».
**20.10** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**21.00** Мастацкі фільм «Тэатр».
**00.00** Праграма «Музычны ілюмінатар».
**00.30** Праграма «Добрыя жарты».
**02.15** Мастацкі фільм «Ад заходу да світанку».
**03.55** Мастацкі фільм «Прыморскі бульвар».
**05.25** Праграма «Даведнік».

### Discovery CHANNEL

**08.00** Пятая передача.
**08.25** Заезды.
**10.10** Мега-будоўлі.
**12.00** Рукатворныя цуды.
**12.55** Ствараючы будучыню.
**13.50** Будаўнічая дапамога.
**17.30** Грандыёзныя пераезды.
**18.55** Патрабуецца зборка.
**19.20** Рукатворныя цуды.
**21.10** У барацьбе са стыхіяй.
**23.55** Выжыць любым коштам.
**02.40** У барацьбе са стыхіяй.
**04.40** Выжыць любым коштам.
**05.40** Як гэта працуе.

### EUROSPORT

**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы да 17 гадоў. Славенія - Групавы этап: Польшча - Бельгія.
**01.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**11.00** Аўтагонкі: Auto GP. Гонка 1.
**12.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**15.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**15.30** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Іспанія - Гонка 1.
**16.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі – 1-ы этап.
**20.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**21.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Палітыканы», серыял: 6 серыя.
**08.20** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 5 серыя.
**08.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.10** Калыханка для самых маленькіх.
**09.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** Асабісты капітал.
**10.15** Два на два (тэледыскусія).
**10.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.05** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**11.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**12.00** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь: ч. 3.
**12.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**12.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.05** Калыханка для самых маленькіх.
**13.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.35** «Дэкалог, чатыры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**14.35** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.50** Невядомая Беларусь: «Кіпіць Нямiга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**15.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.45** «Доўгі ўік-энд», камедыя, 2004 г., Польшча.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 24 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**23.45** «Мент», дэтэктыўны серыял: 20 серыя.
**00.30** Аб'ектыў.

## 6 мая, нядзеля

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.35** Камедыя «Афоня» (СССР).
**08.00** Існасць.
**08.30** Ранішняя хваля.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**10.10** Медычныя таямніцы.
**10.45** Культурныя людзі.
**11.25** Тэлефільм АТН «Хойнікі. Палеская хроніка « цыклу «Зямля беларуская».
**11.40** Мультфільмы.
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). Заключная серыя.
**13.20** «Дыскатэка СССР». Канцэртная праграма.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.00** Навіны.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Народная камедыя «Каханне і галубы» (СССР).
**17.40** Каробка передач.
**18.15** Суперлато.
**19.10** Авантурная камедыя «Напалеон Дынаміт» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Дзённік «Еўрабачання».
**22.10** Прыгодніцкі баявік «Час ведзьмаў» (ЗША).
**23.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).

---

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.00** Камедыя «Сватаўство гусара».
**14.25** Прэм'ера ў колеры. Фільм «Нябесны ціхаход».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Ялта-45».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** Фільм «У стылі jazz».
**23.25** «Вялікая розніца».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** Фільм «Адплата». ЗША-Вялікабрытанія, 2010 г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** Фільм «Іван Броўкін на цаліне». СССР, 1958г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Здані Гойі». ЗША-Іспанія, 2006 г.
**22.50** «Пякельная кухня».
**00.05** Фільм «Эквілібрыўм». ЗША, 2002 г.
**01.45** «Баец». Серыял.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.35** Прыступкі Веры.
**07.50** Таямніца душы.
**08.15** Размова са святаром.
**08.25** Фільм «Прынц Егіпту» (ЗША).
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Школа рамонту.
**11.30** Вышэй за дах.
**12.05** Шоў «Інтуіцыя».
**13.15** Бухта капітанаў.
**13.55** Гандбол. Кубак Беларусі. Фінал. Прамая трансляцыя.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Ньюкасл – Манчэстэр Сіці. Прамая трансляцыя.
**17.25** Хакей. Чэмпіянат свету. Фінляндыя - Славакія.
**19.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**20.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Швейцарыя – Беларусь. Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.25 Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**22.30** Навіны надвор'я.
**23.05** Спорт-кадр.
**23.45** Авантурная камедыя «Прадавец» (ЗША).

---

**05.00** Дакументальны фільм «Чухрай. Балада пра салдата».
**06.00** Праграма «Смачны свет».
**06.30** Мастацкі фільм «Прыморскі бульвар».
**07.50** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Ведаем рускую».
**10.10** Тэлесерыял «Лола і Маркіз».
**14.00** Праграма «Правілы жыцця».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток – шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Тэлесерыял «Вялікі шпацыр».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Вялікі шпацыр».
**23.45** Праграма «Паўночнікі».
**00.15** Тэлесерыял «Лола і Маркіз».
**04.05** Дакументальны фільм «Чухрай. Балада пра салдата».

**Discovery CHANNEL**

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** З чаго гэта зроблена?
**08.50** Як гэта ўладкавана?
**11.05** Вокамгненныя катастрофы.
**11.35** Вокамгненныя катастрофы.
**12.00** Дзёрзкія праекты.
**12.55** Лесапавал на балотах.
**13.50** Брудная работка.
**14.45** Смяротны ўлоў.
**19.20** Бяспека меж.
**19.50** Бяспека меж.
**20.15** Рачныя монстры.
**21.10** Горш быць не магло.
**21.40** Горш быць не магло.
**02.40** Бяспека меж.
**03.10** Бяспека меж.
**05.40** Як гэта працуе.

**EUROSPORT**

**00.00** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб.
**01.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі – 1-ы этап.
**02.15** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Кваліфікацыйны раўнд.
**09.45** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Размінка.
**10.15** Конны спорт: Валенсія.
**11.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**12.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**13.00** Супербайк: Чэмпіянат свету. Монца – 1-я спроба.
**14.00** Суперспорт: Чэмпіянат свету. Монца.
**15.15** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**16.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі – 2-і этап.
**18.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Фінал.
**19.30** Супербайк: Чэмпіянат свету. Монца – 2-я спроба.
**20.30** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Іспанія - Гонка №2.
**21.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Фінал.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 24 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.30** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**10.55** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**11.20** Невядомая Беларусь: «Кіпіць Няміга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**11.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.15** Калыханка для самых маленькіх.
**12.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.10** «Тэра постсаветыка. Мода», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.55** «Дзіцячая гара», дак. фільм, 2008 г., Румынія–Германія.
**14.55** «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял.
**18.00** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**19.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** «Глыбінка 35х45», дак. фільм, 2009 г., Расія.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Навука сну», маст. фільм, 2006 г., Францыя.
**23.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

МЕРКАВАННЕ

# ПАПСА ДАПАМАГЛА ДЭМАКРАТЫІ

**Дзякуючы фіналу конкурсу «Еўрабачання» ўлады Азербайджана, каб захаваць імідж прыстойнай дзяржавы, адкруцілі гайкі. У краіне назіраецца даўно не бачаная палітычная адліга. Пра тое, чым закончыцца цяперашняя лібералізацыя і як «Еўрабачанне» паўплывае на будучыню краіны, журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з азербайджанскім праваабаронцам Эльманам Гаталам.**









***— Славуты выраз генсека Леаніда Брэжнева: «Шырока крочыць Азербайджан», здаецца, набыў больш змястоўную афарбоўку. Азербайджан «шырока крочыць» да правядзення конкурсу «Еўрабачання». Наколькі свята еўрапейскай папсы паўплывала на агульную атмасферу ў краіне?***

— «Еўрабачанне» стала галоўнай нацыянальнай ідэяй. Рэалізуюцца грандыёзныя іміджавыя праекты — такія, як устаноўка самага вялікага ў свеце сцяга, адкрыццё новых фешэнебельных гатэляў, замена таксі ў Баку на лонданскія кэбы, будаўніцтва моста праз бакінскую бухту і самага высокага ў свеце будынка. Усё гэта заклікана прадэманстраваць багацце і росквіт краіны. Імклівa ствараецца новы імідж Азербайджана — нешта накшталт новага Дубая. У прэсе толькі і размоваў пра конкурс.

***— Наколькі падрыхтоўка да фіналу конкурсу паўплывала на стан палітычных свабодаў?***

— Звычайна любыя не інспіраваныя ўладамі масавыя мерапрыемствы рашуча падаўляюцца. Аднак цяпер улады гатовыя дазволіць нават гей-парад. Усё, каб паказаць заходнім абывацелям сваю «прагрэсіўнасць». Стаў больш люфт для дзейнасці апазіцыі. Ужо (хаця і на задворках сталіцы) адбыліся дзве масавыя акцыі пратэсту. Пра гэта ніхто сярод дысідэнтаў даўно не марыў.

***— Што ўяўляе сабой азербайджанская апазіцыя і якія яе галоўныя патрабаванні?***

— Цэнтрам апазіцыі з'яўляецца так званая Грамадская палата, куды ўваходзяць 5 партый розных ідэйных напрамкаў. Грамадская палата паўстала ў 2010 годзе пасля выбараў у парламент, вынікі якіх, як і звычайна, «намалявалі». Пасля гэтага актыўнасць Грамадскай палаты фактычна сышла ў розныя семінары і канферэнцыі. Цяпер пра яе зноў узгадалі. Увогуле, праграмным дакументам Грамадскай палаты ёсць прыняты ў мінулым годзе дакумент «Дарожная карта», або «Мяккі пераход ад аўтарытарызму да дэмакратыі», падрыхтаваны ў мінулым годзе. Дакумент прадугледжвае паэтапную рэалізацыю пэўных палітычных і прававых мер па дасягненні ў краіне грамадзянскай згоды і кансалідацыі грамадства на каштоўнасцях дэмакратыі. У ёй утрымліваюцца патрабаванні свабоды палітвязням, спынення рэпрэсій супраць актывістаў апазіцыі і СМІ, забеспячэння свабоды сходаў і г.д. Акрамя базавых агульнадэмакратычных патрабаванняў, у «Дарожнай карце» прысутнічае пункт пра неабходнасць падрыхтоўкі агульнанацыянальнай платформы вызвалення Карабаху. Гэта звязана з тым, што ўлада намагаецца выстаўляць сябе адзіным абаронцам ідэі нацыянальнага адзінства Азербайджану, хаця гэта тэма блізкая ўсім патрыётам.

***— Як улада рэагуе на мерапрыемствы палітычных апанентаў?***

— Відавочна, ставіцца задача не дапусціць кампраметуючай рэжым «карцінкі» ў заходніх СМІ. Таму паліцыя паводзіць сябе дастаткова карэктна. «Добразычлівасць» паліцыі кампенсуецца кампаніяй у дзяржаўных СМІ, якія маюць татальную манаполію на медыяпрастору. Гучыць нават ідэя пра тое, што апазіцыя як інстытут не патрэбная цяперашняму Азербайджану, паколькі менавіта цяперашняя мадэль, быццам, гарантуе тое, што бурны эканамічны рост будзе працягвацца.

***— Які цяперашні стан азербайджанскай эканомікі?***

— Нельга не прызнаць, што сітуацыя не такая кепская, як у іншых краінах СНД, ахопленых крызісам. Нафтадолары, якія пасыпаліся на краіну з пачатку 2000-х (у 2010 годзе нафтагазавы сектар складаў 46% ВУП, 82% прамысловай вытворчасці і 94% экспарту) забяспечваюць стабільнасць палітычнага рэжыму і дазволілі дасягнуць адзін з самых высокіх у свеце тэмпаў эканамічнага росту — з 2004 па 2011 гады ВУП вырас у тры разы. Як следства, назіраецца будаўнічы бум, на вуліцах Баку можна ўбачыць самыя дарагія мадэлі сусветнага аўтапрама, ідзе адкрыццё новых школ, шпіталяў, спартовых комплексаў. Створаны сотні тысяч новых працоўных месцаў, следствам чаго з'яўляецца скарачэнне ўзроўню беспрацоўя да 6% і колькасці людзей, якія жывуць за рысай беднасці, да 9%.

***— На якія лозунгі ў сітуацыі росту эканамічнага дабрабыту робіць стаўку апазіцыя?***

— Дзяржаўныя ўстановы наскрозь карумпаваны, а антыкарупцыйныя кампаніі, якія перыядычна праводзяцца, носяць дэманстратыўны характар і закранаюць толькі самы ніжні ўзровень службоўцаў. Або ўвогуле з'яўляюцца часткай міжкланавых разборак. Найвялікшыя страты нанесены сацыяльнай сферы. Дзяржаўная сістэма аховы здароўя пакуль што афіцыйна з'яўляецца бясплатнай, але ні ў адной медустанове вам не дапамогуць без грошай — і гэта сістэма, бо сумы з кожнага хабару ідуць «наверх».

З гэтым, а таксама з нізкім прафесійным узроўнем большасці тых лекараў, якія атрымалі вышэйшую адукацыю пасля развалу Савецкага Саюза, тлумачыцца папулярнасць лячэння ў Іране, дзе яно якаснае, таннае і праводзіцца па фіксаваных коштах. Падобная сістэма склалася ў сярэдняй адукацыі — каб атрымаць працу настаўніка, кандыдаты змушаны плаціць некаторую суму ў выглядзе хабару, якую потым адпрацоўваюць або паборамі з вучняў, або прыватным рэпетытарствам. У сувязі з гэтым узровень школьнай адукацыі вельмі нізкі. Як вынік, на цэнтралізаваных уступных іспытах у ВНУ 60% выпускнікоў набралі меней 200 балаў, 30% — меней 100 балаў (максімальны бал — 700).

Што да нізкага ўзроўню беднасці — сапраўды, сярэдні ўзровень жыцця падняўся за апошнія дзесяць гадоў. Але нават пры гэтым афіцыйныя 9% бедных — гэта тыя, хто жыве на суму, меншую за 95 манатаў (1 манат прыблізна роўны 1 еўра) у месяц (афіцыйны пражытковы мінімум), у той час як мінімальны спажывецкі кошык ацэньваецца цяпер у 150 манатаў.

***— Ці можна лічыць карупцыю прадуктам цяперашняй палітычнай мадэлі?***

— Павялічэнне нефармальных эканамічных адносін праходзіць на фоне ўмацавання аўтарытарнай улады прэзідэнта і недапушчэння новых актораў на палітычную прастору, фальсіфікацый выбараў, арыштаў незалежных журналістаў і блогераў, забароны мітынгаў, спынення спроб стварэння незалежных прафсаюзаў… Чым далей ад сталіцы — тым мацней улада мясцовых царкоў, якія ўзначальваюць выканаўчую ўладу. Так, у Нахічэванскай Аўтаномнай Рэспубліцы дашлі да рэгулявання адміністрацыяй складу меню вясельных сталоў і да забароны збірацца больш за чатырох чалавек. А апазіцыянераў там увогуле змяшчаюць у псіхіятрычную лякарню.

***— Давайце ўявім, што «Еўрабачанне» закончылася. Што будзе далей?***

— У далёкай перспектыве будучыня ў Азербайджана невясёлая. Як толькі памеры здабычы нафты будуць скарачацца, паўстане праблема наяўнасці неканкурэнтаздольнай нацыянальнай прамысловасці, слабай сістэмай адукацыі. Не вядома, што будзе са сферай аховы здароўя, дзе і сёння не хапае грошай. Аднак гэта ў далёкай будучыні, а ў бліжэйшай перспектыве ўсё выглядае больш аптымістычна. Справа ў тым, што Баку падаў заяву на правядзенне алімпійскіх гульняў у 2020 годзе, і цяперашнія «панты» працягнуцца. Гэта дазваляе спадзявацца, што рамкі палітычных свабодаў як мінімум нейкі час захаваюцца. Магчыма, улады паступова самі прыйдуць да высновы, што крытыка — гэта не так ужо і жудасна.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У рэгіёнах ужо сутыкнуліся з дэфіцытам прадстаўнікоў асобных прафесій, для якіх цяпер няма стымулу працаваць на радзіме. У органах занятасці не хаваюць, што відавочны ў апошнія месяцы дэфіцыт кадраў шмат у чым выкліканы тым, што кіроўцы, лекары і будаўнікі сталі актыўна выязджаць на заробкі за мяжу. Адток працоўнай сілы з Беларусі, у тым ліку кваліфікаваных спецыялістаў, тлумачыцца тым, што на цяперашнюю сярэднюю зарплату ў 300 долараў пражыць практычна не магчыма.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Такім чынам, чаму ён (Саннікаў) быў вызвалены менавіта цяпер? Гэта стала вынікам эканамічных санкцый, уведзеных нядаўна Еўрапейскім саюзам у дачыненні да Беларусі: кропкавыя санкцыі, накіраваныя супраць наближаных бізнэсмэнаў, нанеслі ўдар па рэжыму. Лукашэнка зразумеў, што яму давядзецца вызваліць палітычных зняволеных. Але санкцыі нельга адмяняць, нягледзячы на вызваленне двух чалавек, паколькі за кратамі яшчэ каля 15 актывістаў апазіцыі. Беларусь па-ранейшаму не мае незалежных СМІ, апазіцыйныя партыі фактычна забароненыя. Еўрапейскаму саюзу трэба працягваць ціск.

**«BBC» (Вялікабрытанія)**

У гісторыі са стварэннем ЕАС (Еўразійскі саюз) пачынаюць выяўляцца відавочныя негатыўныя рэчы. Мабыць, самае галоўнае, што стаіць перад вачамі думаючага расійскага падаткаплатніка — прыклад Саюза Расіі і Беларусі. Колькі гадоў ён існуе! І якія выдаткі нясе для расійскай казны! Доўгія гады Мінск плаціў за нафту і газ менш, чым некаторыя вобласці РФ. Гаворка ідзе пра мільярды долараў, а не пра «капейкі», як адзначалі афіцыйныя крыніцы падчас частых крызісаў з Лукашэнкам у Маскве. Еўразійскі саюз будзе будавацца на тым жа падмурку?

**«Московский комсомолец» (Расія)**

Няўступлівасць афіцыйнага Мінска ў пытанні пра палітвязняў можа вельмі моцна радыкалізаваць пазіцыю еўрапейцаў. Цяпер галоўным крытыкам Беларусі стала Літва, прэзідэнта якой Далю Грыбаўскайтэ за сталую падтрымку Аляксандра Лукашэнкі ў кругах беларускіх дэмакратычных сіл нават сталі называць «адвакатам д'ябла». Зараз жа, мяркуюць эксперты, Вільнюс паспрабуе рэабілітавацца. Складанасцяў пры гэтым паўстаць не павінна, паколькі ў Аляксандра Лукашэнкі ў Еўрасаюзе прыхільнікаў няма.

**«Коммерсант» (Расія)**

У сярэднетэрміновай перспектыве найлепшым зыходам для Лукашэнкі б не балатавацца яшчэ на адзін тэрмін у 2015 годзе, а шукаць сховішча ў Маскве, дазволіўшы правесці дэмакратычныя выбары ў Беларусі.

**«Foreign Policy» (ЗША)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. НАЦЫЯНАЛІСТЫ ЗГАДАЛІ РАПАЛЬСКУЮ ДАМОВУ

Нечакана ўкраінская правая прэса ўзгадала 90-я ўгодкі трактату паміж Веймарскай Германіяй і савецкай Расіяй, які быў заключаны 16 красавіка 1922 года ў маленькім італьянскім курорце Рапала. Там у той час таксама жылі нямецкія дыпламаты — удзельнікі мірнай канферэнцыі ў суседняй Генуі. Яны тайна дамовіліся з рускімі, каб заключыць дамову, якая разбурыць планы Антанты па ізаляцыі бальшавікоў. Апошнія атрымалі афіцыйнае дыпламатычнае прызнанне, што было для Леніна сапраўдным прарывам. Немцы, у сваю чаргу, атрымалі магчымасць трэніраваць вайскоўцаў у Расіі — на сваёй тэрыторыі рабіць гэта ім забаранялася Версальскай дамовай. Дарэчы, менавіта на гэтых палігонах быў створаны касцяк Люфтвафэ, які пасля бамбіў СССР. У час перамоў з немцамі ў дыпламатаў з Масквы паўстала пытанне: што рабіць з дэлегацыямі савецкіх саюзных рэспублік? Тады ўжо былі абвешчаны Украінская, Беларуская і Закаўказская рэспублікі, якія, адпаведна дэкларацыям, былі цалкам суверэннымі, у тым ліку ў галіне міжнароднай палітыкі. Некаторыя з іх, а менавіта Украінская ССР, пажадалі заключыць аналагічныя дамовы з Берлінам. Аднак Масква не дазволіла. Больш таго, дабілася ад украінскіх камуністаў, каб яны афіцыйна адмовіліся ад казны Украінскай дзяржавы, якую гетман Скарападскі тайна вывез у Германію ў 1918 годзе. На думку цяперашніх гісторыкаў, Рапала засведчыла, што ў складзе СССР, які быў афармлены ў снежні таго ж года, Украіна будзе марыянеткай.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЧЭХІЯ. РУСКІЯ ЗАХАПІЛІ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ

14–15 красавіка ў Празе прайшла штогадовая канферэнцыя Пірацкага Інтэрнацыяналу (PPI). Можна павіншаваць Пірацкую партыю — сёлета сустаршынямі PPI былі абраны рускія піраты: Лола Вароніна (міжнародны каардынатар Пірацкай партыі Расіі) і Рыгор Энгельс (міжнародны каардынатар Партыі піратаў Германіі, а таксама чалец Пірацкай партыі Расіі). На канферэнцыі было абвешчана пра стварэнне аб'яднанай Пірацкай партыі Еўропы для ўдзелу ў наступных выбарах у Еўрапарламент, куды, аднак, Расія сваіх дэпутатаў не дасылае. З іншага боку, падтрымка Еўропы расійскім піратам вельмі патрэбна. Вядома, што Пірацкая партыя Расіі, што ўваходзіць у Пірацкі Інтэрнацыянал, дапамагае праекту WikiLeaks пошукам кампрамату. Раней стала вядома, што Пірацкая партыя Расіі стварыла сайт-люстэрка WikiLeaks. Пазней на гэтым рэсурсе былі выкладзены дасье спецслужбаў Казахстана, якія цесна супрацоўнічаюць з ФСБ. Кіраўнік Пірацкай партыі Расіі Павел Рассудаў таксама называе Уладзіміра Пуціна адным з ворагаў яго арганізацыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГАНКОНГ. КІТАЙСКІЯ ЦЯЖАРНЫЯ НЕ ПРОЙДУЦЬ



Лян Чжэнын, будучы кіраўнік ураду Ганконгу (што пачне працаваць з 1 ліпеня) заявіў пра запланаваныя рэформы, накіраваныя супраць напльву эмігрантаў. Рэформа будзе ўключаць забарону на ўезд у Ганконг цяжарных грамадзянак Кітаю. Акрамя таго, нават калі яны і народзяць дзіця на тэрыторыі Ганконгу, аўтаматычна права на пражыванне ім і іх дзецям выдаваць не будуць. Такая палітыка звязаная з наплывам у былую брытанскую калонію цяжарных з мацерыковага Кітаю. Яны быццам жадаюць нараджаць у добрых санітарных умовах, аднак на самай справе, калі верыць Лян Чжэныну, ім патрэба ганконгская рэгістрацыя, якая дае большыя правы і свабоды. Ажыятаж у гэтай сферы такі вялікі, што месцы ў шпіталях Ганконга забраніраваны кітайкамі на шмат месяцаў наперад. Спецыялісты, дарэчы, таксама адзначаюць рост нацыяналістычных настрояў сярод тубыльцаў Ганконгу, 79 працэнтаў з якіх лічаць сябе асобным ад кітайцаў народам. Праўда, перспектывы такой нацыяналістычнай позы не зразумелыя. Адпаведна дамове, якую Маргарэт Тэтчэр падпісала з Дэн Сяапінам у 1984 годзе, у 2047-м аўтаномія Ганконга будзе ліквідаваная, і ён стане штатнай адміністратыўнай часткай КНР.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. ІСЛАМ І ДЭЦЫБЕЛЫ

Канстытуцыйны суд Татарстана пакінуў без задавальнення іск жыхара Казані Дзмітрыя Фралова, што патрабаваў адмены мясцовага закона пра цішыню. Фралоў сцвярджаў: ён ужо некалькі гадоў не можа выспацца з-за таго, што ў вокнах яго кватэры шторанку гучыць мусульманскі заклік на малітву, а закон, які павінен абараняць правы грамадзян на спакойны сон, фактычна бяздзейнічае. Азан (заклік на малітву) раздаецца кожны дзень у пяць раніцы ў рэпрадуктарах мячэці Энілер, размешчанай побач з домам Фралова. Спачатку Фралоў звяртаўся ў праваахоўныя органы. Аднак паліцэйскія адмовіліся дапамагаць. Тады Фралоў звярнуўся ў Канстытуцыйны суд. Той, у сваю чаргу, палічыў, што ніхто не мае права навязваць вернікам сваё ўяўленне пра тое, калі і як яны павінны здзяйсняць малітву. Цікава, што ў самой мячэці Энілер вырашылі не звязвацца з Фраловым і ўжо пайшлі насустрач жыхарам навакольных дамоў. Мула паменшыў гучнасць у рэпрадуктарах да магчымага мінімуму. Гэта дало новыя штуршок для канфлікту: студэнты Расійскага ісламскага ўніверсітэта, якія размешчаны побач з мячэццю, заявілі пра тое, што цяпер муэдзіна ўвогуле не стала чуваць.

**Паводле расійскай прэсы**

---

КАРУПЦЫЯ

# КАНЕЦ ПАДАНІІ

**Алег НОВІКАЎ**

**Ці захаваецца на італьянскай палітычнай сцэне рух за федэралізацыю Італіі пасля адстаўкі Умберта Босі, лідара партыі «Ліга Поўначы»?**



Амаль на ўсіх сваіх біёграфаў Босі рабіў уражанне невысокага, сціплага, амаль шэрага чалавека. Так, аўтар кнігі «Il Vento della Padania», наступным чынам апісвае з'яўленне Босі на адным з першых мітынгаў «Лігі Поўначы»: «Уразіў яго (Босі) танны гарнітур, які ў дадатак даўно выйшаў з моды. Ён больш нагадваў сціплага камівяжора, чым лідара адной з масавых партый».

Магчыма, палітык доўгі час удала маскіраваўся пад выхадца з асяродку дробнай буржуазіі, інтарэсы якой прадстаўляў, або сам з часам змяніўся. Аднак у свеце апошняга скандалу лідар «Лігі Поўначы» выглядае абсалютна іншым.

6 красавіка Босі быў вымушаны падаць у адстаўку з пасады кіраўніка партыі з-за скандалу з крадзяжом сродкаў з партыйнай касы. Падчас пракурорскага расследавання высветлілася, што партыйная каса выкарыстоўвалася не па прызначэнні. У тым ліку са сродкаў партыі была аплачана вучоба ў швейцарскім універсітэце сына Умберта, які некалькі гадоў таму не змог атрымаць атэстат сталасці, аднак пры гэтым займае (!) пасаду дарадчыка рэгіянальнага ўрада Ламбардыі. З партыйнай касы для сына былі набыты і аўтамабіль «Audi A6».

Адтуль жа чэрпаліся сродкі на рэстаўрацыю сямейнай вілы Босі і аплату медыцынскіх і іншых рахункаў яго жонкі і г.д. Зразумела, што такім немалым выдаткам павінны адпавядаць паступленні. Следчыя выявілі наяўнасць нелегальных крыніц фінансавання партыі. Цяпер следствам адпрацоўваецца нават магчымы мафіёзны след гэтых крыніц.

Сыход Умберта адразу выклікаў пытанне пра будучыню сепаратысцкага руху за аўтаномію Паўночнай Італіі. Менавіта Босі стаў аўтарам палітычнага напрамку, які ён (на той час звычайны інжынер) заснаваў у сярэдзіне 1980-х гадоў, калі пакінуў шэрагі кампартыі.

У 1990-я гады, у час крызісу даверу да старых партый (следства карупцыйных скандалаў), рэйтынг «Лігі Поўначы» пайшоў уверх. Ідэі, што за ўсе праблемы адказныя эмігранты з Поўдня, а сапраўднай палітычнай альтэрнатывай ёсць стварэнне асобнай аўтаноміі або нават дзяржавы Паданія, спадабаліся жыхарам багатых раёнаў Поўначы. Паступова «Ліга Поўначы» стала трэцяй палітычнай сілай у італьянскім парламенце. З прыходам у палітыку Сільвіа Берлусконі, «Ліга Поўначы» стала яго галоўным партнёрам па ўрадавых кааліцыях і атрымлівала міністэрскія партфелі.

Больш таго, у 2010 годзе партыя Босі ўсё ж прымусіла Рым пачаць працэс федэралізацыі краіны. Цэнтр перадаў мясцовым камунам, галоўным чынам на Поўначы, шмат маёмасці. Прэм'ер Берлусконі казаў, што не бачыць праблемы ў федэральным прынцыпе дзяржаўнага ладу. Нават левая апазіцыя не галасавала супраць пачатку дэцэнтралізацыі.

Адпаведна планам Босі, гэта была першая стадыя схемы федэралізацыі. Да наступнай, аднак, так і не дайшло. З-за серыі скандалаў з удзелам прэм'ера Берлусконі амбіцыйныя планы давялося адкласці далёка на паліцу. Па ходу таго, як над Берлусконі збіраліся хмары, для захавання твару «Ліга Поўначы» ўвогуле пакінула ўрад.

Яшчэ ўчора здавалася, што праблемы Берлусконі адчыняць для «Лігі Поўначы» новыя гарызонты. На пачатак мая ў Італіі прызначаны муніцыпальныя выбары, і правацэнтрысцкі электарат, расчараваны «Кавалерам» (мянушка Берлусконі), тэарэтычна мог аддаць галасы за «Лігу Поўначы».

Але пасля 6 красавіка «Ліга Поўначы» вымушана сама думаць, як выжыць. Шок ад навіны пра непатызм Босі настолькі моцны, што некаторыя сябры партыі сцвярджаюць: Умберта стаў ахвярай змовы «жыдамасонаў», якія спецыяльна падаслалі да яго сваіх агентаў, якія ледзь не прымусілі Умберта браць хабары.

Цяпер партыяй часова кіруе «тройка»: Раберта Мароні, Раберта Кальдэроні і Мануэла Даль Лага. Улетку адбудзецца федэральны кангрэс, на якім абяруць новага старшыню.

Галоўны кандыдат — Раберта Мароні па мянушцы «Бабо». Ён — ветэран руху, а таксама праславіўся як міністр унутраных спраў у апошнім урадзе Берлусконі. Менавіта па яго загаду з Італіі ў 2009 годзе была выслана ў Лівію без усякіх судовых фармальнасцяў група асобаў, якіх падазравалі ў нелегальнай іміграцыі. Гэты ўчынак жорстка асудзілі праваабаронцы і еўрапейскія структуры.

Аднак галоўным чынам Мароні спрабуе рабіць сабе імідж ворага карупцыі ўнутры партыі. Ён абвясціў пра пачатак аперацыі «Ачыстка куратніка», партыю пазбавяць усіх нячыстых на руку апаратчыкаў.

Праблема ў тым, што фігура Мароні не ідэальная. Ён і сам быў удзельнікам шэрагу карупцыйных скандалаў кшталту «decreto Biondi» — у 1996 годзе ім была падпісаная амністыя для шэрагу асуджаных асобаў, якія падазраюцца ў тым, што былі спонсарамі «Лігі Поўначы».

Акрамя таго, усе ведаюць пра варожыя адносіны Мароні з Лука Зайа, які кіруе правінцыйным урадам Венецыі. Лука — былы міністр сельскай гаспадаркі — хаця і не прэтэндуе на пасаду кіраўніка партыі, аднак высоўвае нейкія ўмовы на адрас Мароні. Італьянскія каментатары лічаць, што ўнутрыпартыйная вайна паміж Венецыяй і Міланам можа прывесці да расколу «Лігі Поўначы».

І ўсё ж самая галоўная праблема тычыцца ролі Босі як аўтара міфу пра існаванне Паданіі. Менавіта ён прыдумаў легенду пра наяўнасць нейкай асобнай культурнай геапалітычнай прасторы на Поўначы Італіі. Дагэтуль Паданія — кніжны, папулярны сярод географаў тэрмін, які не меў ніякай палітычнай канатацыі. Больш таго, упершыню ў наш час яго адрадзілі камуністы — ідэйныя праціўнікі «Лігі Поўначы», якія кіравалі ў 1970-я гады на поўначы Італіі і вялі дэбаты пра неабходнасць рэгіянальнай кааперацыі.

У 1980-я гады Босі надаў праекту Паданіі новае вымярэнне. І шматлікія італьянцы на Поўначы сапраўды паверылі ў прыналежнасць да асобнага субэтнасу са сваёй культурай і традыцыямі. Тут нават праводзяцца конкурсы прыгажосці «Міс Паданія», існуе свая футбольная ліга.

Зараз не зразумела, як адрэагуе грамадства на тое, што аўтар ідэі пра Паданію аказаўся банальным карупцыянерам. Таму некаторыя палітолагі сцвярджаюць, што залатыя часы масавай веры ў легенду пра Паданію прайшлі. Цяпер час для стварэння новай мадэлі правага руху ў Італіі, які можа ўзнікнуць на рэштках і «Лігі Поўначы» і партыі «Народ Свабоды», якую заснаваў Берлусконі.

У фокусе іх увагі Флавіа Тосі, цяперашні мэр Вероны, які ідзе на майскія выбары не як кандыдат «Лігі Поўначы», а як прадстаўнік усіх аматараў правых ідэй у незалежнасці ад таго, вераць яны ў існаванне Паданіі або не.

**Шок ад навіны пра непатызм Босі настолькі моцны, што некаторыя сябры партыі сцвярджаюць: ён стаў ахвярай змовы «жыдамасонаў», якія падаслалі да яго сваіх агентаў**

ЦІКАВА

# ВІНЕТУ — СЯБАР НАЦЫСТАЎ

Алег НОВІКАЎ

**Стагоддзе смерці нямецкага пісьменніка Карла Мая, аўтара прыгод пра правадыра апачы Вінету, — нагода, каб згадаць пра незвычайны лёс яго літаратурнага героя ў часы халоднай вайны.**



Карл Май

Хіба што апошні раз Карл Май, які на той час меў статус культавага пісьменніка, з'явіўся на публіцы ў лютым 1912 года. У Мюнхене ён прачытаў лекцыю «Наперад, у царства высакародных». Наўрад ці чытаючы лекцыю Карл мог заўважыць сярод аўдыторыі маладога чалавека, якога звалі Адольф Шыкльгрубер, які, дарэчы, з-за адсутнасці сродкаў на транспарт ішоў пешшу цэлую гадзіну, каб паслухаць Мая. Не мог Карл Май таксама ведаць, што гэта лекцыя стане прычынай шматлікіх падзей. Тую лекцыю Карла Мая, які 30 сакавіка 1912 года памёр ад сардэчнага прыступу, будучы Адольф Гітлер запомніў назаўсёды.

Як узгадваюць сучаснікі і знаёмыя, некалькі месяцаў пасля той сустрэчы Гітлер не мог супакоіцца, зноў і зноў успамінаў выступ свайго куміра. Вінету зачараваў яго душу. Паводле сведчання Альберта Шпеера, ужо ў пазнейшыя перыяды жыцця Гітлер ставіўся да кніг Карла Мая з тым жа святым пачуццём, з якім іншыя людзі чытаюць філасофскія трактаты ці Біблію. Ён хацеў, каб і салдаты ў акопах пранікнуліся тым жа духам. У 1943 годзе, нягледзячы на востры дэфіцыт паперы, па асабістаму загаду фюрэра для фронту былі надрукаваны трыста тысяч асобнікаў рамана пра Вінету.

Дасюль працягваюцца спрэчкі наконт таго, што так захапіла Гітлера ў творах Мая. Біяграфію пісьменніка цяжка назваць прыкладам жыцця сапраўднага арыйца. Перад тым, як праславіцца, Карл пабываў у турме за крадзеж: таварыш па пакою абвінаваціў маладога настаўніка ў тым, што ён скраў яго гадзіннік. Акрамя гэтага, у крымінальным дасье Карла — канакрадства і нават спроба выкрасці більярдавыя шары ў рэстаране.

У дадатак Карлам Маем захапляліся не толькі правыя радыкалы. Пісьменніка шанаваў славуты левы гуманіст Томас Ман і мэтр савецкай афіцыйнай літаратуры Аляксей Талстой. Тое, што Маем захапляліся левыя, нават выклікала ў 1930-я гады ў нацысцкім Міністэрстве прапаганды вялікую дыскусію. У адной з запісак на адрас дырэктара ведамства Гебельса сцвярджалася, што «Карл Май — гэта ўзор пацыфізму, які здзекуецца з расавай тэорыі». Нават даводзілі, што Карл Май прапагандуе ідэю Лігі нацый. У Баварыі нацысты ўвогуле зрабілі кнігам Карла Мая «аўтадафэ» — палілі іх на вуліцах.

Праўда, пасля, зразумеўшы персанальную слабасць Гітлера да Карла Мая, нацысты канчаткова запісалі яго ў вышэйшы дывізіён вялікіх нямецкіх пісьменнікаў.

Той жа Шпеер распавядаў, што фюрэр убачыў у Вінету «ўзор кіраўніка ваеннай кампаніі і высакароднага чалавека», на прыкладзе якога варта выхоўваць у моладзі пачуццё сапраўднай мужнасці». Аднак існуюць і больш цікавыя версіі. Магчыма, Гітлер, якога шмат хто лічыў латэнтным гомасэксуалістам, захапіўся стылем персанажа Верная рука. Той не толькі здзяйсняе подзвіг за подзвігам, аднак таксама чамусьці цураецца жанчын.

Гэтыя «антыжаночыя» забабоны Вернай рукі ў часы Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР) сталі доказамі варожасці кніг Мая сацыялістычнаму ладу. Праўда, націск рабіўся на іншае.

Тое, што на адной з старонак кнігі Верная рука адмаўляецца ажаніцца з нейкай індыянкай, на думку камуністычных ідэолагаў, сведчыла пра расавыя забабоны персанажа і яго аўтара. Таксама Мая абвінавацілі ў прапагандзе ніцшыянскага тыпу героя і «бандыцкай рамантыкі». У 1948 годзе кіраўніцтва адукацыі савецкай акупацыйнай зоны пастанавіла: выкінуць кніжкі Карла Мая з дзіцячых бібліятэк. Пасля яго ўжо не перавыдавалі.

Праўда, у масавай культуры Вінету даводзілася шукаць эрзац. Дайшло да яўнага плагіяту. Вестэрны ўсходнегерманскай кінастудыі DEFA з удзелам славутага Гойка Міціча афіцыйна лічыліся экранізацыямі раманаў пісьменніцы Лізэлоты Вельскопф-Хенрых, хаця па сутнасці былі перапісаныя з арыгіналаў Карла Мая.

Пісьменнік быў рэабілітаваны толькі напачатку 1980-х гадоў.

Спачатку ў 1981 годзе ЦК Аб'яднанай нямецкай сацыялістычнай партыі (SED) у мэтах «будаўніцтва чалавека сацыялістычнага тыпу» дало «дабро» на легалізацыю Вінету. Дарэчы, усходнія немцы ў такую трактоўку не паверылі і прыдумалі анекдот: «Чаму ўлады ГДР рэабілітавалі Карла Мая? — Каб немцы падумалі, што чырвоныя (па-нямецку — «чырвоныя» таксама значыць чырванаскурыя) ёсць нашы браты».

Праўда, адначасова была заснаваная сапраўдная методыка цэнзуры кніжак Мая. Жорстка выразаліся ўсе пасажы наконт Германіі і немцаў. Справа ў тым, што Верная рука, ад імя якога вядзецца аповед, — нямецкі каланіст у ЗША, і часам разважае пра феномен нямецкай нацыі. Гэта, дарэчы, не дзіўна, паколькі Карл Май пісаў у часы аб'яднання Германіі, калі ў грамадстве ішла дыскусія пра нямецкі менталітэт, місію і г.д.

Некаторым фразам у ГДРаўскім перакладзе надавалася больш антыімперскае гучанне. Так, фраза: «Так, чырвоны народ памірае» ў варыянце цэнзараў з ГДР гучала больш прамалінейна: «Чырвоны народ памёр».

Нягледзячы на цэнзуру, попыт на кнігі Карла Мая быў маштабным. У выніку, каб збіць спажывецкую істэрыку, на пачатку 1980-х было надрукавана 750 тысяч асобнікаў пра прыгоды Вінету і яго сяброў.

У 1985 годзе ў Радэбойле, месцы смерці Мая, па асабістай ініцыятыве Эрыха Хонекера, быў адкрыты музей Мая. Дарэчы, толькі пасля рэабілітацыі ў ГДР Карла Мая дазволілі ў СССР. У 1986 годзе Кінапракат купіў нямецка-югаслаўскую стужку з цыклу пра Вінету «Верная рука — сябра індзейцаў».

Аднак, палітычны прысмак творчасці Карла Мая захаваўся дасюль. Так сталася, што апагей папулярнасці вакол Карла Мая на Захадзе Германіі меў месца ў 1960-я гады. Пасля гэтага ён застаўся выключна дзіцячым аўтарам. Затое ў ГДР з-за фактычнай забароны попыт на яго быў заўсёды, прычым нават з боку дарослых. Ілюстрацыя гэтага — цікавая аб'ява ў нейкай газеце ГДР за 1974 год. Яе аўтар прапануе за поўны збор твораў Карла Мая новую машыну маркі «Trabant». З улікам таго, якім дэфіцытам былі аўтамабілі ў краінах савецкага блоку, можна зразумець статус Карла Мая ў грамадстве. Былі распаўсюджаныя «самвыдатаўскія», перадрукаваныя на машынках, версіі кніг пра Вінету. Нарэшце, існавалі такія фанаты Мая, якія спецыяльна вывучалі балгарскую мову, каб набыць творы ў Балгарыі, дзе Май быў дазволены і прадаваўся свабодна.

Дзякуючы ўсяму гэтаму Карл Май цяпер стаў часткай ідэнтыфікацыі выхадцаў з Усходняй Германіі. Нядзіўна, што цяперашняя сотая гадавіна яго смерці стала вялікай падзеяй ва ўсіх землях былой ГДР.

Адным словам, прыгоды Карла Мая і яго герояў працягваюцца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### КАНСТАНЦІН КОСАЧАЎ

Кіраўнік агенцтва «Россотрудничество» і яго ведамства паставілі перад сабою напалеонаўскую задачу — навучыць увесь свет размаўляць па-руску. Да 2020 года Масква збіраецца адкрыць сетку рускіх культурных цэнтраў больш чым у 100 краінах. У «Россотрудничестве» не хаваюць, што фактычна яны выконваюць задачу, пастаўленую Уладзімірам Пуціным, які патрабуе: «інфармацыйная і культурная прысутнасць краіны на карце свету павінна павялічыцца ў разы». Сёння ў Расіі ёсць культурныя цэнтры ў 73 краінах. Але гэтага вельмі мала. Іншыя развітыя краіны пазіцыянуюць сябе значна эфектыўней. Дастаткова ўзгадаць Французскі цэнтр, Гётэ Інстытут, Брытанскі Савет і г.д. Сам Косачаў прызнае, што канкураваць са згаданымі вышэй установамі расіянам будзе цяжка, а вось утрымаць у зоне ўплыву рускай культуры 20 мільёнаў рускамоўных, якія жывуць за межамі Расіі і СНД, па яго словах, цалкам рэальна.

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Прэзідэнт Казахстана трапіў у чарговы скандал пасля таго, як з краіны дэпартавалі сям'ю канадскага хакеіста Кевіна Далмана, а яго кантракт з хакейным клубам «Барыс» з Астаны быў скасаваны. Афіцыйны прадстаўнік «Барыса» кажа, што прычына — сямейныя абставіны. Між тым, грамадскасць не мае сумневаў, што сапраўдная прычына — палітыка. Справа ў тым, што жонка Далмана Стэйсі вяла блог. Звычайны жаночы блог, дзе апісваюцца няхітрыя падзеі з жыцця жонкі хакеіста, і занадта рэалістычна распавяла пра казахскую рэчаіснасць. Праз чатыры гады тая рэчаіснасць яе так дастала, што яна напісала пра гэта ўлетку. Сярод іншага яна скардзіцца: «Мне балюча, калі я бачу, што людзі, якія жывуць у краіне з велізарным патэнцыялам і найбагацейшымі рэсурсамі, не маюць ні капейкі ад выкарыстання сваёй зямлі, жывуць у беднаце і пад дыктатам. Грошы, якія маглі б выкарыстоўвацца для развіцця краіны, знікаюць з-за карупцыі, хлусні, крадзяжу і эгаізму!» Нічога дзіўнага, што на наступны дзень пасля з'яўлення праклямацыі канадскую сям'ю папрасілі вярнуцца на радзіму. Між тым, гэта можа дорага каштаваць Назарбаеву. За Стэйсі гатовыя заступіцца шматлікія фанаты «Барыса», паколькі яе муж — лепшы бамбардзір Кантынентальнай хакейнай лігі (КХЛ)

### НІКАЛАЗ РУРУА

Міністр культуры Грузіі замахнуўся на «святое». Ён прыняў рашэнне пра тое, што музей Сталіна на яго радзіме ў Горы будзе рэарганізаваны ў «Музей сталінізму». Дзяржаўны музей Сталіна быў заснаваны ў 1937 годзе па ініцыятыве Берыі. У ім захоўваюцца тысячы экспанатаў, у тым ліку і асабістыя рэчы «правадыра народаў». Цяпер на працягу года музей зменіць сваё аблічча і прызначэнне. Каля ўваходу будзе размешчана шырокая інфармацыя пра «дзясяткі мільёнаў ахвяр сталінскіх рэпрэсій». Выставачныя залы штодра будуць прадстаўляць доказы жахаў сталінскай, дый савецкай, эпохі. Больш таго, на думку міністра, «напэўна, гэта будзе першы ў свеце музей, які паказвае і даказвае ідэнтычнасць сталінізму і фашызму». Навіна выклікала шок у грузінскім грамадстве, дзе дасюль шмат хто лічыць Сталіна вялікім суайчыннікам. Так, лейбарысты заклікалі ЮНЕСКА тэрмінова ратаваць гістарычную каштоўнасць у выглядзе музею. На іх думку, Сталін, натуральна, не цукар, аднак музей могуць ператварыць у банальны цэнтр рэкламы рэжыму Саакашвілі.



ПАМЯЦЬ

# КАТЫНСКАЯ ТРАГЕДЫЯ НЕ ЧУЖАЯ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**16 красавіка Еўрапейскі суд па правах чалавека (ЕСПЧ) у Страсбургу агучыў свой вердыкт па катынскай справе. Па меркаванні гэтай установы, расстрэл афіцэраў Войска Польскага можна трактаваць як ваеннае злачынства. Гэты факт ускалыхнуў інфармацыйную прастору ў Польшчы і Расіі.**



Першы справа — Станіслаў Хмялеўскі

Расійскі інфармацыйны партал «РИА Новости» апублікаваў грунтоўны артыкул Веры Рыклінай, а штодзённік «Московские новости» адзначыў, што «ЕСПЧ не прызнаў Расію вінаватай у масавых забойствах палякаў у Катыні». Польскі журналіст Марцін Вайцэхоўскі з «Газеты выборчай» у адказе на публікацыю ў «МН» заяўляе, што «ніхто ў Польшчы не абвінавачвае Расію ў катынскіх расстрэлах. Сем'і ахвяр трагедыі абвінавачваюць расійскія ўлады ў тым, што яны не прадставілі ўсёй інфармацыі аб тым, што адбывалася з іх роднымі 70 гадоў таму, а таксама адмаўляюць у доступе да дакументаў расійскага следства па Катынскай справе».

Беларусь, на жаль, ніяк не рэагуе на працэсы, якія звязаны з Катынскай справай. І гэта дзіўна, таму што тыя падзеі вельмі цесна звязаныя з нашай краінай. Трэба ўсведамляць, што на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў верасні 1939 года з'явіліся першыя «Катыні» — месцы масавага знішчэння грамадзян ІІ Рэчы Паспалітай.

Адной з такіх з'яўляецца маленькая вёсачка Падзяменне пад Кобрынам. У яе наваколлі дзейнічаў атрад «паўстанцаў» пад камандаваннем нейкага Савы Дранюка. Перад самай вайной за крымінальнае злачынства гэты чалавек быў асуджаны польскім судом на турэмнае зняволенне і аказаўся ў лагеры ў Бярозе-Картузскай. Падчас вераснёўскай кампаніі польска-нямецкі фронт вельмі хутка рухаўся на Усход. Пасля таго, як пала Брэсцкая крэпасць, паліцэйская ахова пакінула лагер, а яго вязні былі прадстаўленыя самі сабе. На адной з вуліц Сава Дранюк сарваў польскі сцяг, адарваў ад яго чырвоную стужку і зрабіў з яе нарукаўную апаску. Адзінай яго марай была помста палякам за тое, што яны адправілі яго ў лагер.

У Падзяменні Дранюк і яго людзі затрымалі некалькі дзясяткаў вайскоўцаў Войска Польскага, паліцэйскіх, цывільных асоб і амаль усіх расстралялі. У архіве польскай Рады па ахове памяці аб бітвах і пакутніцтве знаходзіцца ліст капрала Баляслава Горскага, у якім апісаны жудасныя падзеі, якія адбыліся ў вёсцы ў верасні 1939 года. Гэты чалавек пісаў, што мясцовае беларускае насельніцтва, у асноўным старэйшага ўзросту, асуджала забойства польскіх вайскоўцаў. Але ап'янелым ад самагонкі і пачуцця ўлады ўзброеным злачынцам з чырвонымі апаскамі на рукавах цяжка было штосьці растлумачыць. Баляслаў Горскі быў сярод 23 чалавек, якія ў адзін з дзён затрымаў «атрад самаахоўы» Савы Дранюка. Паляка выратаваў малады беларускі хлопец, жыхар вёскі, Васіль Вашчанка, які пазнаўшы Горскага, падышоў да «рэўкомаўцаў» і сказаў, што гэта не афіцэр, а радавы, і ён ведае яго з даваенных часоў. Капрал быў у палявым мундзіры без знакаў адрознення, і забойцы адпусцілі яго.



Казімеж Нядзведскі

Па словах Горскага, затрыманых польскіх афіцэраў выводзілі да яру па тры чалавекі і расстрэльвалі. Першымі ахвярамі сталі палкоўнік, маёр і капітан. Усе вайсковыя медыкі. Аднаму капітану, у якога на мундзіры было шмат баявых узнагарод, сярод якіх быў і крыж «Віртуці Мілітары», каты загадалі зняць мундзір, але той адмовіўся. Тады форму паспрабавалі зняць сілай, але капітан умела пастаўленым баксёрскім ударам «вырубіў» аднаго з «рэўкомаўцаў». Адразу прагучалі стрэлы. Смяротна параненага афіцэра дабівалі штыкамі. Па колькасці вайсковых шынялёў і грамадзянскіх паліто, якія былі зваленыя каля адной з хат, Горскі зрабіў выснову, што забітых было некалькі дзясяткаў.

У 2008 годзе байцы беларускага 52-га пошукавага батальёна Міністэрства абароны правялі эксгумацыю парэшткаў забітых. Было знойдзена 42 чалавекі. Сярод забітых былі і польскія паліцыянты (быў знойдзены нагрудны жэтон з нумарам 954), а таксама грамадзянскія асобы, сярод якіх былі жанчыны. У адной са знойдзеных ахвяр на частцы вопраткі быў знойдзены значок у выглядзе сцяга Даніі, а ў яго кішэні ляжала партманэ з манетамі гэтай краіны. Ці гэта адзначае, што тады, у верасні 1939-га, бандытамі Дранюка быў забіты грамадзянін іншай краіны?

Каб пазнаёміцца з матэрыяламі праведзеных у 2008 годзе ў Падзяменні пошукавых прац, я звярнуўся ў Міністэрства абароны з афіцыйнай заявай, аднак у гэтай магчымасці мне адмовілі без тлумачэння прычын. Што можа быць такога тайнага ў тых матэрыялах? Чаму ў нас са сталінскіх злачынстваў робяць «тайну стагоддзя»? Пытанне, як кажуць, рытарычнае.

Падчас маіх даследаванняў гісторыі савецкіх рэпрэсій супраць грамадзян ІІ Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Заходняй Беларусі да мяне звярнулася шмат асоб, родныя якіх сталі ахвярамі НКУС. Вось некалькі з гэтых гісторый.

Нарадзіўшыся на Беласточчыне, Станіслаў Хмелеўскі з самага дзяцінства марыў аб вайсковай службе. Падчас савецка-польскай вайны ўдзельнічаў у Кіеўскай аперацыі, за што быў узнагароджаны асабіста Юзэфам Пілсудскім. З 1924 года гэты чалавек служыў у Корпусе аховы памежжа і быў кіраўніком заставы Сачукі каля Вілейкі. 17 верасня 1939 года паранены Хмелеўскі трапіў у савецкі палон, але здолеў збегчы і вярнуўся да сям'і. Аднак у снежні 1939-га яго арыштаваў НКУС. Толькі ў 1996 годзе родныя Хмелеўскага атрымалі з беларускай пракуратуры афіцыйную даведку аб тым, што сяржант Хмелеўскі Станіслаў Антонавіч абвінавачваўся ў тым, што… шмат гадоў служыў у Войску Польскім. У даведцы таксама пазначалася, што 17 красавіка 1940 года справа Хмелеўскага была перададзена на разгляд асобай нарады НКУС СССР. Гэта азначала смяротны прысуд. Ні ў адным з вядомых катынскіх спісаў прозвішча памежніка з Вілейкі не значыцца. Хутчэй за ўсё, ён быў адным з тых, каго забілі ў Курапатах увесну 1940 года.

У верасні 1939 года ў шпіталі ў Нясвіжы быў арыштаваны падпалкоўнік памежнай аховы Казімеж Нядзведскі. Жыхар маёнтку Вялікія Жуковічы, што каля Нясвіжа, быў кадравым вайскоўцам, у свой час служыў у 86-м Мінскім пяхотным палку Войска Польскага ў Маладзечна, пазней узначальваў батальён КАП «Івянец». У верасні 1939 года Нядзведскага, які знаходзіўся ўжо на пенсіі, прызвалі ў войска. Што здарылася з гэтым чалавекам пасля арышту НКУС, яго родныя не ведаюць да сённяшняга дня.

12 мая 1940 года ў Косава быў арыштаваны школьны інспектар Ваўжынец Камінскі. У 1920–1923 гадах ён працаваў настаўнікам польскай мовы і геаграфіі ў Рускай жаночай гімназіі. Быў старшынёй праўлення Саюза маладой вёскі, з 1933 па 1938 год з'яўляўся старшынёй «Саюза стральцоў» у Косаве. Такі чалавек не мог застацца па-за ўвагай НКУС. Сляды Ваўжынца Камінскага губляюцца ў маі 1940 года. Яго родныя да сённяшняга дня нічога не ведаюць пра яго лёс.

Былі сярод рэпрэсаваных грамадзян ІІ Рэчы Паспалітай і асобы беларускага паходжання. Сярод іх трэба вылучыць арыштаванага ў кастрычніку 1939-га вядомага журналіста, палітыка, дырэктара беларускай гімназіі ў Вільні Вячаслава Багдановіча. У Пінску НКУС быў арыштаваны супрацоўнік польскай паліцыі Пётр Мікалаевіч Хвесюк, які ў 1940-м быў накіраваны ў распараджэнне мінскага НКУС. Да смяротнага пакарання па артыкуле 76 УК БССР (удзел у к/р арганізацыі) быў асуджаны праваслаўны беларус Патап Вайтэнка, бухгалтар з вёскі Парэчча Брэсцкай вобласці. Месцам яго пахавання пазначаны Мінск.

Гэты жалобны спіс можна працягваць далей. А колькі людзей было дэпартавана з заходніх абласцей БССР у 1940–1941 гадах... Іх як быдла вывозілі ў вагонах цэлымі сем'ямі.

Я прывёў толькі некалькі фактаў, якія даказваюць, што Катынская трагедыя — гэта боль не толькі палякаў, але беларусаў. На жаль, сёння гэтая тэма знаходзіцца ў Беларусі ў апале, што, безумоўна, звязана з няпростымі беларуска-польскімі адносінамі на дзяржаўным узроўні. Аднак гісторыя сталінскіх злачынстваў на тэрыторыі Заходняй Беларусі павінна быць глыбока і ўсебакова даследавана, бо народ, які кепска ведае сваю мінуўшчыну, рызыкуе паўтарыць старыя памылкі ў будучым.



На адной з вуліц Баранавіч. Апошнія імгненні мірнай ідыліі

ЦІКАВА

# Антон Фурс: «ПРЫСЯГУ ПРЫМАЛІ ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЦЯГАМ І «ПАГОНЯЙ»

**30 красавіка святкуе 85-годдзе Антон Фурс, адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх патрыётаў — моладзевай арганізацыі, якая ў 1945–1947 гадах дзейнічала ў Глыбокім і Паставах.**



Антон Фурс

Антон Фурс нарадзіўся ў 1927 годзе ў мястэчку Язна Дзісненскага павета (цяпер Мёрскі раён). Вучыўся ў школе ў Язне і прагімназіі ў Глыбокім, пасля акупацыі паступіў у Глыбоцкую педагагічную вучэльню.

Неяк у 1945 годзе ў Глыбокім трое язненскіх хлопцаў — студэнты педвучэльні Васіль Мядзелец, Антон Фурс і вучань сярэдняй школы Алесь Юршэвіч — пачалі разважаць пра русіфікацыю адукацыі. Прыйшлі да рашэння стварыць патаемную арганізацыю на ўзор віленскіх філаматаў і філарэтаў.

Сябры СБП прысягалі пад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй» быць вернымі ідэалам свабоды і незалежнасці Беларусі. Праз некаторы час глыбоцкая суполка СБП аб'ядналася з суполкай «За Беларусь!», якая адначасова і незалежна паўстала ў Пастаўскай педагагічнай вучэльні.

Савецкія спецслужбы даведаліся пра існаванне арганізацыі і накіравалі ў яе правакатара, які спрабаваў схіліць юнакоў да збройнага паўстання. Хоць правакацыя не атрымалася, але ўсе сябры СБП былі арыштаваныя і асуджаныя за «антысавецкую дзейнасць».

Антон Фурс, які быў сакратаром глыбоцкай суполкі СБП, атрымаў пятнаццаць гадоў лагераў. Адбываў пакаранне на лесапавале ў Свярдлоўскай вобласці і на будаўнічых працах у Казахстане. Правёў у зняволенні дзевяць гадоў.

Пасля вызвалення ажаніўся з Алесяй Умпіровіч, былой удзельніцай СБП, якая правяла ў лагерах Мардовіі дзесяць гадоў. Не знайшоўшы месца на Радзіме, сям'я Фурсаў выехала ў Казахстан, дзе яны пражылі дваццаць пяць гадоў. Там у іх нарадзіліся дзеці Юрась і Людміла. Толькі ў 1982 годзе Фурсы вярнуліся ў Беларусь, набылі дом у Паставах, дзе жывуць і сёння. З Антонам Віктаравічам Фурсам гутарыць **Кастусь ШЫТАЛЬ.**

***— Антон Віктаравіч, як вы ўсвядомілі сябе беларусам?***

— Школа ўсё дае! Няма школы — няма нічога. Мы жылі за польскай уладай, усё навокал было польскае. Бацькі не ведалі, хто мы, — аралі зямлю, не цікавіліся ніякай палітыкай. Мы ведалі толькі, што мы не рускія, і не польскія. Неяк мы знайшлі пашпарт дзеда, і там было напісана: «нарадовасць» — «тутэйшы».

У школе мы вучыліся па-польску, а на перапынках размаўлялі па-беларуску. Прыйшлі першыя Саветы, яны адкрылі беларускія школы. Нам падабалася. Было шмат танных кніг на беларускай мове. І Жуль Верн, і Гюго, і Пушкін, і Лермантаў. Пры Саветах я скончыў шэсць класаў.

Прыйшлі немцы. Адкрылі беларускія школы — беларускія па духу. Мы вучылі гісторыю па Ластоўскаму, геаграфію па Смолічу, граматыку Тарашкевіча, пісалі на тарашкевіцы. Ладзілі вялікія канцэрты, дэкламацыі і песні беларускія… Я ўжо ў сёмым класе быў свядомым беларусам.

Пасля вайны, як немцаў прагналі, я паступіў у Глыбоцкае педагагічнае вучылішча. Выкладчыкі беларускую мову не ведалі або дрэнна ведалі, і ў нас русіфікацыя пайшла. Як гэта так: пры акупантах, ворагах вучылі па-беларуску, а тут свае прыйшлі, і няма [беларускай мовы]. Гэта нас і падштурхнула стварыць такую нелегальную арганізацыю.

***— Дзеля якіх мэтаў стварылі Саюз беларускіх патрыётаў?***

— Якая была мэта? Мы ж не маглі супраць такой махіны нешта рабіць. Скончым вучылішча, нас пашлюць па вёсках… Такое было становішча, чакалі Трэцюю сусветную вайну. Чэрчыль выступаў дзесьці з такой прамовай… Я ўжо не памятаю, адкуль пра гэта ведалі. Чакалі перамен нейкіх.

Мы думалі: мы ж таксама падрасцём. І каб не адбылося тое, што адбылося, як немцы прыйшлі, калі палякі захапілі [пасады ў акупацыйнай адміністрацыі], мы павінны быць гатовыя.

Прысягу прымалі пад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй». А «Пагоню» яна [Алеся Умпіровіч, сябра пастаўскай суполкі СБП, будучая жонка Антона Фурса] намалявала.

***— Як вас арыштоўвалі?***

— 9 лютага [1947 года] былі выбары ў Вярхоўны Савет. Нам сказалі, каб не ехалі дадому, трэба на выбары. Увечары мы сабраліся на кватэры, каб бавіць час. Усе маладыя. Музыкант у нас свой быў, з педвучылішча. Іграем, музыка… Пад 12 вечара заходзяць да нас супрацоўнікі МГБ, патрабуюць дакументы. Там Васіль Мядзелец якраз быў, наш кіраўнік, і я. Нас двух налева і павялі…

Уваход быў з кухні. А на кухні лямпачка перагарэўшы. Цёмна. А ў мяне поўная кішэнь папер па арганізацыі. Што рабіць? Зарыентаваўся неяк. На пліце рондалі стаяць. На хаду выкінуў іх у рондаль, ніхто не заўважыў. Павялі нас у МГБ. Там ужо Бялевіч на падлозе ляжаў і Еўдакімаў [сябры СБП].

У нас была палова непаўналетніх. Ім потым далі меней — па 8 гадоў. Большасці далі па 10 гадоў. Нас усяго было 44 чалавекі — пастаўскіх і нашых [глыбоцкіх]. Чатыром была смяротная кара, [яе замянілі на 25-гадовы тэрмін зняволення].

***— Распавядзіце, калі ласка, пра лагеры.***

— Я трапіў на лесапавал. У Свярдлоўскую вобласць, «Востокураллаг». Не хутка мы маглі звязацца з домам, дома не ведалі, куды нас паслалі. Потым, канечне, нам дапамагалі бацькі, пасылкі прысылалі. Мала толку было з пасылак, таму што не было дзе іх захаваць. Знаёмых, землякоў пачастуеш — хутчэй з'есці, бо ўсё роўна ўкрадуць або адбяруць.

Цяжкая была праца. Вельмі цяжкая. Асабліва зімой. Снег, мароз пад сорак градусаў. Раніцай атрымаеш кавалак хлеба. Трэба ж пакінуць на абед які-небудзь кавалачак. А сіл не хапае, так хочацца з'есці, таму што галодны. Як пазбавіцца гэтай ахвоты? Стаў думаць пра нешта добрае, волю ўспамінаць. І вершы складаў. Пісаць не было чым, і няможна было. Запаміналў.

*Ці помніш ты? Ці помніш ты*
*Студэнцтва мілыя гады?*
*Ты больш ужо не ўбачыш іх,*
*Такіх прыгожых, маладых.*

*Як кветка ранняю вясной*
*Зіяла дзіўнай ты красой.*
*І ў чорнай, непраглядная цьме*
*жыццё аздобіла ты мне.*

*Гады міналі, нібы ў сне,*
*Усмешкі ты дарыла мне.*
*І іх, чароўныя, як знаў,*
*У сэрцы я сваім хаваў.*

*Я помню іх, я не забыў,*
*Аб іх я марыў, аб іх сніў.*
*І сёння, хоць на адзіны міг,*
*Прашу цябе: успомні іх.*

***— Пасля вызвалення з лагеру вы апынуліся ў Казахстане…***

— Спачатку я прыехаў дадому. Людзі добра прынялі, а начальства — дрэнна.

Якраз у гэты час будаваўся Наваполацк, ездзіў туды на працу ўладкоўвацца. Я зваршчык высокага разраду быў. Быццам бы патрэбны. А дзе працоўная кніжка? Няма. А дзе ты быў? А дзе, скажаш? Ну, я гавару, дзе быў. І не прынялі мяне на працу. А да бацькі пачаў ездзіць участковы: чаго сын дома сядзіць, нідзе не працуе?

А тут якраз прыходзяць плакаты — набіраюць рабочых на шахты ў Казахстане. Якраз там, дзе я будаваў. Даюць пакой, аплачваюць дарогу.

А я ж толькі з ёй [Алесяй Умпіровіч] пазнаёміўся. («Мы адзін раз толькі ўбачыліся, ён прыехаў другі раз — і мы ажаніліся. Выбару другога не было», — дадае да размовы спадарыня Алеся).

Мы ніяк не знайшлі часу пайсці ў сельсавет, каб аформіць шлюб. У іх не было бланкаў. Так мы і паехалі неафармленыя.

Працаваў матарыстам на шахце. Заробак 60 рублёў на месяц. Але гэта нядоўга было, месяцы тры-чатыры. Потым сваіх суседзяў па лагеры сустрэў, брыгада сантэхнікаў. Пытаюцца: колькі зарабляеш? Кажу: шэсцьдзесят. Дык ты што? Давай да нас, кажуць. Так я і зрабіў. Там у мяне заробак у тры разы больш стаў.

Мы пражылі ў Казахстане дваццаць пяць гадоў. Дзеці там сярэднюю школу скончылі.

***— Жывучы ў Казахстане, вы адчувалі сябе беларусам?***

— А як жа! Мы, землякі, гуртаваліся, адзін да аднаго ў госці ездзілі. Ні адно свята адны не былі. Алег Лапіцкі з жонкай, родны брат Расціслава Лапіцкага. З яе [Алесі] вёскі быў чалавек, Павал Умпіровіч з жонкай…

Выпісвалі часопіс «Беларусь», «Звязду». Нам з Беластоку прысылалі «Ніву». «Беларускую энцыклапедыю» выпісалі, 12 тамоў.

З Ларысай Геніюш падтрымлівалі сувязь. [Алеся Умпіровіч пасябравала з Ларысай Геніюш у лагеры ў Мардоўскай АССР.] Адтуль на яе 70-гадовы юбілей самалётам прыляталі. Яе муж, Янка, прысылаў нам заўсёды навінкі літаратуры, што ў Беларусі выдаваліся.

***— Ці спадзяваліся вы на тое, што Беларусь стане незалежнай?***

— Слаба мы ўжо спадзяваліся. Калі вярталіся ў Беларусь, думалі: прыедзем у сваю краіну, хоць тут па-беларуску пагаворым. А тут няма з кім гаварыць! І цяпер… Дзень Волі мы святкавалі — дзесяць чалавек было...

***— Што б вы пажадалі сучаснай беларускай моладзі, якая змагаецца за нашу мову, культуру, нацыянальную годнасць?***

— Я б ім пажадаў звярнуць усю ўвагу на мову. На мой погляд, усім проста: беларусаў восемдзесят працэнтаў — дайце нам восемдзесят адсоткаў школ. Рускіх восем — а ім восем. Патрабаваць трэба.

Як вы станеце свядомымі без школ? Без школ вы не станеце свядомымі.



Злева — спадарыня Алеся Фурс (Умпіровіч)

▸ КІНО

# МІНСК: ДВАЙНЫ АГЕНТ СТАЛІНСКАЙ ІМПЕРЫІ

**Андрэй РАСІНСКІ**

**Расійскі кіналубок «Шпіён» пра барацьбу савецкіх чэкістаў з абверам пастаўлены ў незвычайных дэкарацыях.**

**Шпіён (Шпион)**

Расія, 2012, каляровы, 99 хв.
Рэжысёр: Аляксей Андрыянаў
Ролі выконваюць: Даніла Казлоўскі, Фёдар Бандарчук, Ганна Чыпоўская, Уладзімір Епіфанцаў, Вікторыя Талстаганава, Сяргей Газараў, Віктар Вяржбіцкі, Аляксей Гарбуноў
Жанр: сталінска-шпіёнскі лубок паводле кнігі Барыса Акуніна «Шпіёнскі раман»
Адзнака: 2 зоркі з 5




На сталічных экранах з'явілася стужка, краявіды якой выглядаюць да падазронасці знаёмымі. Мінчукі заўважаюць набярэжную Свіслачы, у кадры гмырыцца будынак дзяржаўнай бяспекі. Завітушкі сталінскага ампіру, якімі славіцца Мінск, амаль навязліва мільгаюць то там, то сям.

Карціна «Шпіён» Аляксея Андрыянава — маскоўскі прадукт. Рускія здаўна выкарыстоўвалі Мінск як сваю кінапляцоўку. Іхнімі намаганнямі Траецкае прадмесце пераўтваралася ў цэнтр мястэчка з забойствамі (серыял «Каменская»), на прывакзальнай вежы шчыраваў маньяк (стужка «Паклоннік» Лебедзева), а маскоўскія «Стылягі» шпацыравалі па галоўным праспекце.

Але «Шпіён» — не проста выкарыстанне зручнай пляцоўкі з паслухмянымі працаўнікамі і таннымі, па расійскіх мерках, коштамі. Гэта — урачыстая імперская стылізацыя. І ейная вітрына — паваенны Мінск з шырокім сталінскім гасцінцам, груваста-карункавымі фасадамі і вычышчанай тэрыторыяй. Здзейсненая ўтопія, завершаны «Горад сонца» — стаецца фантастычнай Масквой, дзе ўсе мары Сталіна ўвасобленыя.

У небе завісаюць аграмадныя дырыжаблі, двухпавярховыя тралейбусы — згодна з адмысловай аперацыяй — валяцца з мосту ў раку, Сталін любуецца чыстым горадам з даху велічэзнага Палаца Саветаў (у рэальнасці — не пабудаванага: цяпер на ягоным месцы — адноўлены храм Хрыста-Збаўцы).

Малады спартовец Дорын пад кіраўніцтвам маёра Акцябрскага мусіць адшукаць у Маскве агента Васэра, на якога Гітлер наканадні вайны ўсклаў вялікія надзеі. У савецкіх парках замаскаваныя відэакамеры збіраюць на грамадзян дасье, чэкісты ў бліскучай форме катуюць ворагаў па правілах сучаснае біяхіміі (і з улікам досведу Джэймса Бонда), а Гітлер пырскае слінай у акенца пузатага тэлевізара.

«Шпіён» — расійскі комікс, а дакладней, лубок — з умоўнай прасторай і ганаровымі звышгероямі.

Гадоў дзесяць Расія спрабуе прыстасаваць слынны амерыканскі жанр коміксу пад свае гісторыі. Была няўцямная стужка «Чорная маланка», былі «Дазоры» Бекмамбетава, што болей нагадвалі рэкламныя ролікі, але спраўных коміксаў не атрымлівалася.

«Шпіён» — комікс стылёва завершаны. Усе ягоныя складнікі вытрыманыя: дынамічныя бойкі, зухавата-кардонавыя персанажы і штучная прастора для іхніх подзвігаў.

Але, у адрозненні ад амерыканскіх коміксаў, расійскі лубок бессардэчны і мёртвы (хаця героі б'юць кулакамі з размаху, мілуюцца з прыгажунямі і нават круцяць танга). Амерыканскія бэтмэны, жалезныя чалавекі і спайдэрмэны — гэта прыватныя маленькія людзі, якія абараняюцца ад нягод маскамі і касцюмамі звышгерояў. Яны на свой страх і рызыку аднаўляюць справядлівасць — дзеля звычайных людзей, пазбаўленых чароўнага рыштунку.

Героі «Шпіёна» — гэта, найперш, жаўнеры імперыі. Моц сваю яны чэрпаюць з імперскіх загадаў, іхняя справядлівасць — імперская веліч, а шараговыя людзі — расходны матэрыял, на які трэба і не зважаць.

Федзя Бандарчук у звыклай ролі чэкісцкага паслугача (бліжэйшая інкарнацыя — пракурор з «Населенай выспы») — дэманструе непахіснасць, жалезныя нервы і лысагаловы мачызм.

Сяргей Газараў у ролі Берыі — сама мудрасць, хітрасць і савецкі патрыятызм. І нават нехлямяжная агентка, замаскаваная пад апошнюю хлюндру, ніколі не кіне гэбоўскіх звычак.

Спартовец Дорын — сваяк не толькі акунінскага Фандорына, але і піянераў-герояў, чые апакрыфічныя подзвігі яскрава маляваліся ў брашурках для савецкіх школьнікаў.

Паказальна, што Барыс Акунін, які нядаўна праявіў сябе як дэмакрат, што дамагаецца свабодных выбараў, у сваёй кнізе — імперац паняволі, зачараваны сталінскім стылем. Масавая расійская свядомасць, траўмаваная камуністычнай катастрофай, дасюль патрабуе анестэзіі. На імперскую анестэзію працаваў і «Турэцкі гамбіт» паводле Акуніна, але экранізацыя ягонага «Шпіёнскага раману» — выкшталцонае апраўданне сталіншчыны.

Сталінізм — гэта фальшыва-напышлівы стыль (што было ўсвядомлена яшчэ ў перабудовачнай карціне «Прорва»). Але «Шпіён» — гэта радасны сталінізм з дапушчальнай дыскрэдытацыяй самога Сталіна (як у апошніх стужках Міхалкова). У маральным плане — гэта ўсё роўна, як у Нямеччыне паставіць фільм пра сумленных (прыгожых) эсэсаўцаў, якім замінае неразумны Гітлер.

Фільм выпушчаны студыяй Міхалкова, што адчуваецца. І як «Стацкі дарадца» Міхалкова — гэта фільм пра імперскія трупы, выданыя за жывых. У некаторыя моманты цяжка пазбавіцца пачуцця невыноснай духоўнай млосці. Так, герой Бандарчука каецца ў бязбожнасці — з падкрэслена гламурнай паказушнасцю. Дзяўчына нясе свянцонку з царквы — і аддаецца герою ў Велікодную ноч; над ложкам дзяўчыны — партрэцік Сталіна.

Фільм замілоўваецца сталінскім ампірам, галоўнае ў карціне — нават не дзеянні герояў, а «духоўнасць імперыі».

І Мінск — краевугольны камень гэтай імперыі.

Цяпер засталося яго прыбраць.

▸ КІНО

# БЕЛАРУСКІ ТУМАН У КАНАХ

**Алесь ЛАПО**

**Экранізацыя аповесці Васіля Быкава «У тумане» патрапіла ў асноўную конкурсную праграму Канскага міжнароднага кінафестывалю — форуму, які прадвызначае тэндэнцыі развіцця сусветнай кінаіндустрыі.**



Тэкст Васіля Быкава — не адзіны беларускі складнік фільма. У галоўнай ролі, дэбютнай для сябе ў кіно, здымаецца беларускі акцёр Уладзімір Свірскі, а гукарэжысёрам фільма стаў запатрабаваны ва ўсходніх і паўднёвых суседзяў Уладзімір Галаўніцкі («Стылягі», «Як я правёў гэта лета», «Шчасце маё»). Фільм стаў вынікам супрацы некалькіх краін, у тым ліку Германіі (яе ўклад найбольшы), Нідэрландаў, Расіі, Латвіі і Беларусі. Упершыню на паказе фільма ў конкурснай праграме ў Канах на экране з'явіцца лэйбл «Беларусьфільма».

Рэжысёр стужкі — выхадзец з Баранавіч Сяргей Лазніца — працяглы час жыў на Украіне і здымаў кіно ў Расіі. Ён вядомы сваімі дакументальнымі стужкамі і скандальным ігравым дэбютам «Шчасце маё». Фільм выклікаў вострыя дыскусіі, рэжысёра вінавацілі ў паклёпе на расійскую рэчаіснасць, аднак сам Лазніца спасылаўся на ўласныя ўражанні ад расійскай правінцыі, якія ўзніклі ў яго падчас работы над дакументальнымі стужкамі. Тым не менш фільм атрымаў прызнанне на вядучых кінафестывалях постсавецкай прасторы ў Сочы, Кіеве, Мінску і прэтэндаваў на Залатую пальмавую галінку ў Канах.

Сяргей Лазніца пазнаёміўся з тэкстам аповесці «У тумане» ў 2001 годзе, адразу напісаў сцэнар і атрымаў ухвалу Васіля Быкава. У экзістэнцыйнай драме ставіцца праблема маральнага выбару ў нечалавечых умовах вайны. Дзеянне фільма адбываецца ў Беларусі ў 1942 годзе. Двое партызанаў выконваюць заданне забіць «здрадніка», які становіцца закладнікам падступнай помсты нямецкага афіцэра. Сюжэт фільма максімальна набліжаны да літаратурнага арыгінала.

Стваральнікі фільма абяцаюць манументальную карціну з доўгімі кадрамі і стацыянарнай камерай. Стужка працягласцю больш за дзве гадзіны складаецца ўсяго з 72 кадраў, і нават здымкі ў лесе робяцца не са звыклай ручной камеры, а з рэек. Выяўленчае рашэнне фільма набліжана да каляровых фотаздымкаў пачатку саракавых.

Да гэтага часу найбольш удалай экранізацыяй Васіля Быкава лічыцца фільм Ларысы Шапіцько «Узыходжанне», які ў 1977 годзе атрымаў галоўную ўзнагароду Берлінскага кінафестывалю.

Юбілейны 65-ы Канскі кінафестываль пройдзе з 16 па 27 мая, а беларуская прэм'ера фільма мяркуецца на восень 2012 года.

**Новы Час**
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 389

Падпісана да друку 27.04.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.